ххх

Зноў Гогаль. Тое, што само па сабе з маленства запамінаецца назаўсёды

Выйшаў пасля работы ў парк, і на хаду, у ціхай самоце згадаўся Жавакін.

«...Дай-ка, думаю себе, пойду. Погода же показалась хорошею, ***по дороге везде травка***»

Хоць яна толькі яшчэ паказваецца.

А ўсё ж лягчэй на стомленай душы

**ПРА СЛОВА**

Сякера пад лаўкай! — Скарупкаў двухтомны «Słownik frazeologiczny», які так доўга чакаў маёй пільнейшай увагі Гартаю першы том, спыняюся на больш цікавым. І падумалася, што таксама, як камусьці будзе шкада назаўсёды расставацца з прыродай, музыкай, кнігамі, так другому з багаццем роднага слова. .

Тут мова — чужая, а адчуванне ў мяне — як свая Настолькі ведаю яе, зжыўшыся з ёю за семдзесят гадоў, пачаўшы з elementărza

А колькі ў нашых фальклорах блізкага! Скажам, такое «Bieda w zagrodzie, gdzie krowa wołu bodżie», пра што ў маім Загоры гаварылася так: «На чорта тая дамова, дзе вала бадзе карова» І пагарда тая самая ў кароў да валоў, як быццам гэта яны самі вінаваты ў тым, што не быкі Або такое: «Dogadza jej, jak ksiądz Magdusi». І прыклад. зімой айцец загадваў ёй хадзіць басанож, а на лета купіў чаравікі Змалку памятаю іншае, загорскае растлумачэнне. Ксёндз-пробашч памірае, а ахмістрыня Магдуся абвязала яму, як на паратунак, горла хусткай з цёртым цёплым макам. І пытаюцца тыя, што сабраліся каля ложка, каму ж айцец адпісвае сваё дабро. А ён толькі з прыплачам «Мак ду-сі! Мак ду-сі-і! .» І выйшла пры сведках, што ён, пры светлым розуме, усё пакідае Магдзе. Было ў мяне і іншае, скарамнейшае растлумачэнне. Калі наш здаравенны чырвоны певень пераможна саскочыў з курыцы, сусед, што быў якраз на нашым двары, пануры дзядзька Есіп, сказаў майму бацьку пры мне, шасцігадовым смаркачы, яшчэ ўсё нявопытна гарадскім: «Во дагадзіў, як ксёндз Магдусі! .»

Блізкае ў мовах, у народнай творчасці — не для таго, каб тузацца ды папракаць адны адных сваёй вышэйшасцю, а каб думаць пра нармальную суседскую роднасць дзвюх славянскіх моў

Двойчы было зайздросна.

Przygruchač — прыбуркаваць дзяўчыну, як голуб галубку Хараша!

І тое, што яны тую частку іхняй паліцыі, якая ў гады акупацыі служыла гітлераўцам, польскаю не называюць, а па колеры яшчэ даваеннай формы — granatową, сіняй — *policja granatową*, з належнай пагардай

Нам бы сваіх «бобікаў» не толькі па колеры шуцманскіх неданоскаў, у якія іх апранулі «вызваліцелі», называць ***чорнымі***, але і па запрададзеных ворагу душах.

ххх

Біблейскае «плач и скрежет зубовный» палякі, пры ўсёй сваёй ультракаталіцкай набож-

яго творчасці — апалогія сям'і. Сям'я для яго — гармонія, нават і такая сям'я, не зусім талковая, як у цудоўным апавяданні «Пасынак». У разуменні сям'і ён несвядома (думаю, што несвядома, хаця даю права іншым гэтую маю здагадку аспрэчыць) разышоўся са сваім настаўнікам Л.Талстым, для якога сям'я — разлад, доўгія падрыхтоўкі да перадсмяротных уцёкаў з дому

Польскі салдат і беларускі партызан, ён запамінальна і шмат — сотні мастацкіх і дакументальных старонак — напісаў пра вайну. Два ягоныя сказы: «Зімой саракавога-сорак першага года ў верхнепфальцкіх лясістых гарах было многа снегу. Мы, палонныя, капалі ў ім глыбокія дарогі...» — гучаць як пачатак агульнаеўрапейскай кнігі пра другую сусветную вайну Гэтая вайна ў яго адлюстраванні — частковае сканчэнне свету, апакаліпсіс напалавіну, бо ў яе, пакуль што даатамных, разбурэннях, дзякуй богу, не ўсё бурылася, не ўсё гінула, заставалася самае галоўнае — дарога дадому. Іншы раз (мусіць, пазбегнуць гэтага было немагчыма) праз яго ваенную прозу праглядвала савецкая рыторыка. «Сёння брыгада ідзе нарэшце на тое мястэчка, на той «славуты», «непрыступны» гарнізон. На тых арыйскіх «фогеляў», плюгавых бобікаў і гандляроў-«бязменаў»... Праўду, народную праўду кажа, па-свойму проста, Змітрук: «Тут — што ні немец, то гад». І я ў Германіі бачыў нямецкі народ — і нелюдзяў, і людзей. Тут мы бачым фашыста, забойцу, рабаўніка...»

Цытата, нібыта з франтавога друку. Аднак жа рыторыкі такога кшталту ў яго найменш, чым у калег-равеснікаў — найбольш імкнення да аб'ёмна-вобразнага пісьма.





насці, з народным перцам дапаўняюць так: «Płacz, zgrzytanie zębów *i tarcie dupą o podłogę*».

Гэтага ў пана Станіслава Скарупкі чамусьці няма,.памятаю з пачутага ў войску

«Gdzie Rzym, gdzie Krym» ідзе ў яго як польскае. А ўкраінцы дадалі канчатак: «а де попова гречка» — і загучала па-іншаму

Народныя папраўкі

ххх

—Бульба сёлета благая Дзіва што — такая сухмень была. А ад дажджоў пасля яна ўжо ***цэху не ўзяла***.

Само ў мяне так сказалася ў гутарцы І адразу падумаў: адкуль жа ён, той загорскі цэх? У нашых слоўніках не знайшоў. У польскім: *cecha* — уласцівасць. Тады яшчэ: *cecha probiercza* — пробная адзнака якасці. Бульба не набрала належнай спеласці. Гаварылася так і пра чалавека, які, скажам, пагарэў або ў нейкую іншую бяду трапіў, што ён пасля гэтага ***ніяк цэху не возьме***.

ххх

Валодзя Ахлáп, сірата, вельмі рана пачаў гаспадарыць. Арэ падлетак, злуецца, лаецца на каняжыну, а пасля і на песню яго павяло:

Ой, палын, палын, зелле горкае,

а мая доля яшчэ горшая

І не больш, відаць, яму з той песні запомнілася, ад кагосьці яе пачуўшы

А вымаўляў ён па-свойму· ***пайін, гойкая, Ваёдзя***.

Песню тую нехта ж пачуў ад бедака-аратага. Бо ў вёсцы потым смяяліся, прыгадвалі, калі ўжо ён і падрос. Нязлосна смяяліся А ён на мянушку сваю, якая ад бацькі яшчэ, а можа, і ад дзеда, адгукаўся

Адкуль яна? Ад чаго? Найбліжэй, відаць, да польскага *ochłap*, аб'едак. Да беднасці спадчыннай падыходзіць, бо і маёнтак пана Ліасіцкага быў блізка, і доля «гойкая» была яшчэ ў «ваёдзевых» дзядоў, бацькоў, спачатку прыгонных, потым парабкоў, на ochłapach, аб'едках з панскага стала.

ххх

Наша маці, нешта закончыўшы або растраціўшы патрэбнае, часам казала:

—Ну, па ўшысткім пшыказанні, паелі і палізалі

На ўвазе мелася «дзесянцёра пшыкáзань», дзесяць Майсеевых запаведзяў Маміна маці з шаснаццаці гадоў служыла ў маёнтку пана Анцуты пакаёўкай, пані вучыла яе маліцца па кантычцы Можна думаць, што прыгаворка адтуль З дадробленай канцоўкай,— каб весялей

Дарэчы, і пра яўрэйскія ***філактэры***, скураныя кубікі-скрыначкі з тымі запаведзямі на пергаменце, што для ранішняй малітвы прымацоўваліся вузкімі раменьчыкамі да

Два сказы пра зіму саракавога—сорак першага года ўзяты з адной са шматлікіх яго мініяцюр, з таго імпрэсіяністычнага поля, па-чытацку вандруючы па якім можна дастаткова (і, дарэчы, хутчэй, чым па аповесцях і апавяданнях) наблізіцца да разумення яго творчай адзіноты. Творчая адзінота — прэява паэзіі — ушаноўвае сваёй увагай толькі майстроў[1] У яго запісах невыпадкова згадваюцца імёны Ж.Рэнара і Ю.Алешы — найбольшых адэптаў імпрэсіянісцкага самотніцтва. Пісаць сцісла, ператвараць абзац, некалькі радкоў, а то і радок у самастойны твор, імкнуцца лапідарна адлюстраваць кожны быційны і небыційны міг — не проста спрэчка з эпікамі і манументалістамі, не банальны капрыз: «Калі я гэтага не зраблю, тады хто ж?!» Гэта перш за ўсё зваротны шлях — шлях ад смерці да нараджэння, ад труны да калыскі, ад старасці да дзяцінства, ад мноства слоў да першага вымаўленага слова. Шлях да таго чыстага ўспрымання жыцця, дзякуючы якому можна заўважыць неверагодна-сціплы цуд — жнівеньскіх ластавак, якія сядзяць на правадах «белымі воллейкамі на ўсход».

Такія вось акварэльныя назіранні апраўдваюць не толькі саму «методу» кароткіх запісаў, а вызначаюць яго светапогляд, у якім пераважаюць яркія ранішнія колеры.

Думаючы пра слоўную тканіну яго сімфаньет, заўважаеш найбольш характэрную асаблівасць — яго літаратурная мова *беларуская* не толькі па арфаграфічным выяўленні, як гэта ёсць у пераважнай большасці нашых празаікаў, а па душэўнай глыбіні. Яго лексіка пазбягае празмернасцяў, як з боку размоўна-дыялектнай стыхіі, так і з боку

ілба і левай рукі, гаварылася· «жыдоўскае дзесянцёра». Моўныя сувязі ішлі і туды, шырэй.

xxx

Чытаю ў Івана Франка: «На споховастскім бляшанім да́сі». Праверыў у Грынчанкі· *спохово, спухово, спуховато* — з нахілам. Зноў нашы слоўнікі не памаглі, нават і тыя, дзе мясцовыя гаворкі А ў роднай вёсцы і ў наваколлі слова гэтае жыве. Ці адкос дарожны папраўляючы, ці кроквы ладзячы, гаворыцца «Бяры, браце, больш спахова». Хоць мы і не блізка ад Украіны.

xxx

Яму трэба папрасіць прабачэння, а ён ***прыносіць прабачэнне***, сам прабачае. І пішацца, і гаворыцца так нашымі журналістамі ды пісьменнікамі,— ад рускага ***приносить извинения***, ***извиняться***.

Маем добрае, ёмкае слова. ***збожжа, збажына***, адпаведнае рускаму хлеб у шырокім значэнні. А зноў жа пішам, гаворым па радыё і з тэлеэкрана з халуйскай руплівасцю: ***збожжавыя*** — ад рускага ***зерновые***.

Чаму ж тады яшчэ і не ***бульбавыя?***.

xxx

«Скрыдлы», «згукі» — прыкра мне гэта, ненатуральна Можна зразумець Максіма Багдановіча з яго пазнаваннем роднай мовы з кніжнай далечы. Але ж навошта гэта цягнуць ад яго, хоць і любімага, у мову сучасную, маючы проста ***гукі*** без пераклічкі са «звукамі», і такое прыгожае, лёгкае, зусім сваё, без польскіх skrzydeł, ***крыллі?***..

xxx

З пачутага ад хлопцаў-землякоў у польскім войску і ў нямецкім палоне.

«Хам ты рубяжэвіцкі, ты за год два дзеці зрабіў!» Так лаяліся мясцовыя яўрэі Успамінаў Пашка Буньчук, з якім мы разам сядзелі ў акопе.

Хтосьці з Валожыншчыны (ужо забыўся, хто) падараваў сваё: «Танцуе, як валожынскі бугай на лёдзе»

Седач са Скідзельшчыны Як сёння бачу· разбіваем гной на юнкерскім бязмежным полі, а гэты маўклівы, чарнявы дзяцюк успёрся на сахор, перадыхнуць, крыху задумаўся а тады «Так яно, браце, чалавечая жытка — што сарочачка дзіцячая· кароткая і засраная...»

Вясёлы ён, такі рэгіянальны каларыт, такая зіхатлівая мазаіка на роднай карце. Нямала чулася ад берасцейскіх палешукоў, нашых наваградцаў, сяброў нядолі з Глыбоччыны, з-пад Беластока, Клецка. . Што ўжо ў мяне і скарыстана ў напісаным а што возьме ды зноў згадаецца, часамі як быццам не надта дарэчы, але ж і на пацеху.

**кніжнай упарадкаванасці. Яго фраза акрэслена бачная: «Узыходзіць сонца, а на ўвесь хмарны захад — вясёлка...», «У глыбокай даліне, нібы прытаіўшыся,— хутар з вялікім садам і стогадовай хатай...»; псіхалагічна-дакладная: «Большую частку жыцця чалавек праводзіць у адзіноце...», «Баяцца за другіх — не баязлівасць...»; часам свядома-банальная ў сваёй сцэнарна-скупой апісальнасці: «...За вагонным акном залаціліся ў ранішнім чэрвеньскім сонцы тонкія, рэдкія сосны...», «Позні поўдзень. Сонца і вецер. Мора і пасвятлела і разгаманілася...»; поўная народнага досціпу і гумару: праўда, прыкладаў тут настолькі шмат, што знарок ухіляюся ад цытавання.**

**А найбольш яго фраза настраёвая. І зноў жа, што варта яшчэ раз адзначыць, у гэтай настраёвасці няма й каліва якога-небудзь слоўнага лішку. Паслухаем і пераканаемся «Ёсць жа такая светлая традыцыя, як шум лясны ці шчэбет птушыны, бясспрэчная традыцыя ціхай пяшчотнасці слова, якое — з рыфмай ці ў поўнай раскаванасці — адгукаецца галасам чалавечага сэрца на галасы жыцця...»**

**Такая натуральнасць пісьма сведчыць аб тым, што яго мастакоўская ростань утворана чытаннем і назіраннем, што яго стыло ў сваіх лепшых праявах тонкае, як цэркаўка на даляглядзе, што сам ён так і не спазнаў самазадаволенага пачуцця адсутнасці страху перад белай, чыстай паперай.**

**Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК**

---

[1] Немайстрам таксама даецца адзінота, але толькі як праява рамесніцкага спажывання. (Заўвага мая.— *Л.Д.–М.)*





xxx

Элегантная спадарынька, інстытуцкая выкладчыца, і так прыемная сваёй мілавіднасцю, а як сказала зямлячка пра нядаўняе наведанне роднай вёскі, а там і пра такое: «Чую раненька — мамка мая ***шамоль-шамоль*** за перагародкай і пайшла.. » — стала яшчэ мілейшай.

У слоўніках «шамолю» зноў жа не знайшоў. Ды ўжо ж і наракаць на іх апрыкрала.

xxx

Сябар смяецца.

—У Беражне нашым расказваюць, што ў Жукавым Барку пры Польшчы быў малады, вельмі прыгожы поп Дык на Вялікдзень бабы адна перад адной лезлі да яго хрыстосавацца

Запісваючы гэта пасля, я міжвольна, замест «адна перад адной» ужыў сваё загорскае ***працёпам*** лезлі І зноў палез у слоўнікі — дарма

xxx

Лаянка ***«навоттабе»***·— адно слова. Паказваючы хвігу, або і нешта большае. Бо гэта ж бабскае, калі яны счэпяцца, дый на волі, на свежым паветры

xxx

Бабулі за восемдзесят Адказваючы на пытанні радыёжурналісткі, успамінае сваё горкае маленства, як яны нават хадзілі з маткаю жабраваць. Любоў, пяшчота наўздагон

—Мама мая, ***пакойнічка***, і кажа...

xxx

У нагах бабулінай магілы — сталая ўжо, ладная бяроза, так нядаўна, здаецца, пасаджаная ўнукам, які быў тады студэнтам, а сёння ўжо і акадэмік. Ён гэта і паказаў мне яе, красуню-бярозу каля роднай магілы

А побач — другая магіла ў агароджы, чужая ў мностве незнаёмых. І надпіс на помніку, прозвішча — упершыню такое для мяне ды ледзь не да ўсмешкі, тут непрыстойнай,— ***Татачка.*** Нейчы, вядома ж, горка аплаканы бацька

Бываюць жа такія дробязі, як для разрадкі ў спаважлівай сумоце. Як тыя чэхаўскія, у страшнай тэлеграме, «хохороны вторник»

xxx

І да такога ў нас даходзіла зусім нядаўна· так аб'яднацца з багацейшай, мацнейшай суседкай, што і бюджэт ёй падпарадкаваць, і нацыянальны банк, зрабіўшы дзеля гэтага адпаведныя папраўкі ў нядаўна прынятай канстытуцыі

Згадалася даўно пачутае ад старое маці

# Спроба тэксталагічных назіранняў

**...Здзіўляе мяне Брылёва дасведчанасць, багацце ведаў. Тое, што называюць вельмі адпаведным і змястоўным словам — энцыклапедычнасць. Чытанне і чытанне, пра што сам Янка Брыль пісаў, як пра святую справу, як пра самую чыстую малітву — самому слову. Руплівая, сапраўдная самастойная вучоба на працягу ўсяго жыцця...**

**...Сярод сённяшніх беларускіх пісьменнікаў Янка Брыль — адзін з найлепшых знаўцаў беларускай мовы. Хочаш бачыць узоры сучаснай беларускай літаратурнай мовы — разгарні старонкі Брылёвых «Галі», «Вітражу», «Жмені сонечных промняў», «Дум у дарозе», «Апошняй сустрэчы»...**

**. .Па-майстэрску выкарыстоўваючы ў сваіх творах народнае слова, народны фразеалагізм, афарызм, Янка Брыль зрабіў шматлікія з іх здабыткам нашай літаратурнай мовы: *узняць на бег, у свет вочы, плужыць пад самы дышаль, лес шумеў і будзе шумець, быў дуб, ды сваё адшумеў*...**

**Ён увёў у літаратурны зварот афарызмы, крылатыя словы з іншых моў: *стрымаць сонца, скрануць зямлю* (з польскай), *alma mater* (з латыні), *дрэва бедных* (з рускай)...**

**Узбагацілася наша мова выслоўямі, якія належаць творчасці Янкі Брыля. Хоць бы: *карміць***

—Дзед бабцы купіў лапці, былі малыя — абсек пальцы.

Няўжо і такая мудрая палітыка народам нашым даўно прадугледжана?

xxx

Ранішняя радыёперадача «Вясковыя ростані» Іўеўскія жанчыны гутараць з журналісткай на такой свабоднай, натуральна прыгожай мове, што люба слухаць, каб не іх справядлівыя скаргі ды недаўменне... Адна сказала·

—На раніцы *прачынацца страшна*...

Такое настала жыццё.

**МАЙ І ВЕРАСЕНЬ**

Калі я зайшоў уранку на той хутарок і мы з яго гаспадыняй, павітаўшыся, загаварылі пра вясну, ад злыдняў-камароў да яблыняў, што так раскошна цвітуць, яна сказала

—Няхай бы, здаецца, і яблыкаў не было, а каб яны так заўсёды цвілі!

Народнае, ад чалавека цяжкай працы.

Дома запісваю гэта і хочацца дадаць: а яшчэ ж у мяне за акном белай кашкай расквітнела «сухадрэўка», і бэз нібы не спакваля — увачавідкі так духмяна разбутоніўся!

А перад сном, ужо без святла, пад ціхую музыку па радыё, убачыў зорачку ў чыстым начным блакіце, побач з графічна выразным і нерухомым россыпам ліпавай лістоты Зорачка тая як быццам ішла насустрач мне, самотна выядрываючыся ў сціплае, пяшчотнае пабліскванне.

І журботна, малітвенна падумалася, як гэта чалавеку суджана так мала, так коратка любавацца красой, якую ён лічыць роднай!

xxx

Пазаўчора ноччу *жа́халі* на ўсё неба над пушчай маланкі за якімі далёка ззаду пагруквала. Палавіна верасня, а там недзе навальнічыць, недабраўшы свайго за летнюю бязлітасна доўгую сухмень.

І думалася ці маё *жа́халі* — толькі ад *жа́хнуць*, моцна ўдарыць, ці разам з гэтым і *жахну́цца*, вельмі спалохацца?

А ўчора позна вечарам над маладымі бярозамі за дарогай заўсёды загадкава, ледзь не шчасліва-сцішнавата стаяў, амаль у поўні месяц, а лявей ніжэй — раз-поразу вухаў пугач.

Згадаліся гдыньскія ночы ваенны верасень трыццаць дзевятага, самы пачатак яго Калі яны крычалі пугачы, у прыморскім букавым лесе на ўзгорках, ранячы нашы маладыя душы Бо гаварылася ў акопах, што гэта яны — пачуўшы першую кроў..

---

1 «Я называюся Мільён бо за мільёны люблю і пакутую». Адам Міцкевіч. «Дзяды. Частка III. Імправізацыя».
2 «Советская Белоруссия». 10 верасня 1994 г
3 Die Kleine — малое, der Mann — тут муж.
4 «Кніга жыцій і хаджэнняў».
5 «Пачакай, хутка адпачнеш і ты таксама».

---

*макухай красамоўства* («Субардынацыя»), *на нашай лаве калгаснай нікому не цесна* («Ой, лянок»), *Радзівонаўну слухай, але сам будзь Радзівонавіч* («У сям'і»), *феадалізму чарпнуць* («Прывал»)...

...Не раз і не два пісалася ў літаратуры пра брылёўскі стыль. Ёсць ужо грунтоўныя спробы акрэсліць яго. Але і без гэтых спроб дасведчаны чытач адразу распазнае па адным ці некалькіх абзацах: гэта — Брылёва. Часта, напрыклад, і на дзіва ўмела ўжывае Брыль — са стылістычных прыёмаў — так званую парцэляцыю: пісьменнік выдзяляе ў асобны склад слова, словазлучэнне, што маюць асаблівую сэнсавую і стылістычную нагрузку. Некалькі радкоў· А пшаніца, якая пшаніца навокал! *Густая, чыстая, высокая.* Студэнтачка ўсміхнулася ў самы апошні момант *Хораша. Трошкі какетліва.* А скрыпка спявае. *Сардэчна* і *сумна.* ...колькі б разоў я ні звяртаўся да вобразаў... па-народнаму мудрай жанчынымаці — перш за ўсё ўспамінаецца свая. *Нястомная, суровая* і *добрая.*

Парцэляцыя — Брылёў і наш *набытак.*

Ужо ёсць не адна філалагічная спроба тэксталагічных назіранняў і асэнсавання Брылёвай працы. Ужо ёсць дзесяткі філалагічных публікацый, прысвечаных Брылёвай мове, яго мастацтву слова, яго пошукам, знаходкам і культуры слова, фразы, тэксту.

Будуць новыя і новыя публікацыі, прысвечаныя Брылёвым творам — самой мове. Ёсць што філолагам бачыць, вывучаць, паказаць.

Фёдар ЯНКОЎСКІ





## З Табой:

# З Янкам БРЫЛЁМ гутарыць Леанід ГАЛУБОВІЧ

—Шаноўны Іван Антонавіч, мабыць, мала хто ведае, што ваша творчасць пачыналася з вершаў, якія друкаваліся ў часопісе «Шлях моладзі» яшчэ ў 1938 годзе. Якую ролю адыграла паэзія ў вашай празаічнай творчасці? Ці не з'явіўся ваш зварот да лірычна-філасофскіх мініяцюр творчым паваротам да свайго пачатку — поглядам на свет праз лінзу паэтычнай метафары?

—Хачу пачаць з таго, што я з шаснаццаці гадоў спрабаваў пісаць і прозу. Тады ўжо вершы ў мяне пайшлі ў дадатковае, не галоўнае. Праўда, двойчы вяртаўся да іх пазней,—захоплена сустрэўшы прыход у заходнебеларускую паэзію Максіма Танка, што і мяне падштурхнула выступіць са сваімі, а потым, у войску і ў палоне, калі пра прозу можна было толькі марыць, а для паэзіі меўся блакнот і аловак, для запісвання складзенага ў памяці Нейкага звароту, як вы кажаце, лірычнымі мініяцюрамі да вершаў, як свайго літаратурнага пачатку, не адчуваў раней і сёння не бачу.

—Ваша «Жменя сонечных промняў» з'явілася ў сярэдзіне шасцідзесятых.. Дарэчы, дзесьці з гэтага часу пачаўся ўжо і «мой Брыль» Памятаю, здаецца, нават тую вокладку часопіса «Маладосць», дзе быў выдрукаваны «Рамонкавы россып». Для мяне, чатырнаццацігадовага, гэта было нейкае новае чытанне, новая старонка ўвогуле ў беларускім пісьменстве, неардынарная з'ява. Што вымагала вас «сціскаць» тэкставую прастору, пашыраючы адначасна прастору мыслення?

—Прыемна пачуць ад вас, таленавітага паэта, што запісы мае знайшлі водгук у сэрцы вясковага школьніка Ну, а «сціскацца» ў слове я стараўся і стараюся так хочацца

—Вы добра ведаеце беларускую глыбінку Побытавыя дэталі, характары вясковых людзей, рассыпаныя па старонках вашых твораў, вельмі трапныя, адметныя, дасціпныя Ды і асабістае ваша жыццё падзяляецца на «вёску» і «горад», але ўсё ж тое, блізкае сэрцу ад нараджэння, заходнебеларускае пераважае. Чым трымае, не адпускае вашу душу гэты простанародны пласт жыцця? Чаму менавіта там шукаеце спатолю духу, аптымізм, спадзеў на будучае?

# Янка БРЫЛЬ: ПАДСТАВЫ ЕЎРАПЕІЗМУ

**Расейскае пісьменства і мастацтва раз-пораз вылучае сваіх «заходнікаў» (Тургенеў, Чэхаў, Набокаў у літаратуры, Стравінскі ў музыцы). На Беларусі літаратурным класіфікатарам не прыходзіць у голаў падзяліць пісьменнікаў на «ўсходнікаў» (Колас, Быкаў, Караткевіч) ды «заходнікаў» (Купала, Брыль, Адамчык). Не прыходзіць галоўным чынам таму, што беларуская культурная традыцыя прайшла стадыю «еўрапеізацыі» стагоддзі таму. Але ёсць сэнс казаць пра «еўрапеізм», які раз-пораз нагадвае пра сябе ў крышталёва ясных праявах. Я знаходжу некалькі падставаў казаць пра такі еўрапеізм у дачыненні да Янкі Брыля.**

**НАВЕЛІЗМ — калі пад уздзеяннем апошняга пішуцца не адно аповеды і абразкі, але й вялікія па памеры творы. «Птушкі і гнёзды», «Ніжнія Байдуны» створаныя, без сумліву, паводле нормаў навелізму і не ёсць ні раманамі, ні аповесцямі, але буйнымі, маштабнымі ўзорамі навелізму.**

**ЭСЭІЗМ — у счапленні структурных звёнаў тэксту, у сюжэтабудове. «Жменя сонечных промняў» і падобныя да яе кнігі трымаюцца як цэлае не паводле логікі, але чыстай інтуіцыяй ды асацыяцыяй.**

**ІНТЭЛЕКТУАЛІЗМ, які ў Брыля праяўляецца ў размаітых пералівах надзвычайнай унутранай далікатнасці і ў тым, што называюць «кніжнасцю». Я ведаю шмат беларускіх літаратараў, якія ганарацца тым, што мала або амаль не чытаюць. Апошнім часам у гэтым асяродку ўкараняецца завядзёнка не чытаць адзін аднаго. Брыль чытае нават тых, хто не чытае Брыля.**

**У адной з «нашаніўскіх» анкетаў у дзесятку лепшых беларускіх твораў, напісаных за паўстагоддзе, я памясціў «Ніжнія Байдуны» Янкі Брыля. «Ніжнія Байдуны», узятыя ў кантэксце раблезіянскае традыцыі, уяўляюць чацвёртую, пакуль безыменную падставу еўрапеізму, стаўшыся нагодай для глыбокага тыпалагічнага доследу сучасных беларусістаў-бахціністаў.**

**Пятро ВАСЮЧЭНКА**

—Дазвольце крыху арыфметыкі Пасля першых пяці гадоў жыцця, гарадскіх, было ў мяне дзевятнаццаць вясковых, даваенных і ў акупацыю. Потым летнія месяцы праводзіліся з сям'ёй у вёсках, то над Нарачччу, то над Віліяй ці Шчарай, то ў наднёманскай Міршчыне; былі падарожжы па вёсках на веласіпедах, у лодцы, з рукзаком і спінінгам, на машыне. Гэта ўсё больш у Заходняй Беларусі Усходняй шырэй дадалося ў пачатку сямідзесятых гадоў, калі збіраўся матэрыял для кнігі «Я з вогненнай вёскі ..» А ўсё ж адчуваю журботнае шкадаванне, што ў многіх мясцінах не пабываў, такая недастатковасць яшчэ і яшчэ большага ведання Беларусі, з ухілам зноў жа заходніцкім, яшчэ цясней — мірскім, загорскім, што для кожнага з нас натуральна, калі згадаць «мой родны кут» і «к тому месту великую ласку имають».. Словам, падлічыўшы ўсе гады і месяцы, амаль палавіна жыцця ў мяне — вясковая Што і пісаць мне адпаведна дапамагае.

—Ваш раман «Птушкі і гнёзды» склалі, як вядома, неапублікаваныя ў свой час аповесці «Сонца праз хмары» і «Жывое і гніль» . Што змусіла пайсці на такі крок — незадаволенасць ранейшымі творчымі задумамі ці проста Брыль, як творца, унутрана перарастаў Брыля ўчарашняга ў сваім светапоглядзе? Да таго ж, даволі мірна ўжываюцца ў вашай творчасці праўда рэчаіснасці і праўда мастацкая Наўрад ці ў «тыя часы» сінтэз іх (гарманічнае спалучэнне) даваўся «лёгкай крывёю»?

—«Птушкі і гнёзды» я сам раманам не назваў, толькі «кнігай адной маладосці». «Сонца праз хмары» была не закончаная, а «Жывое і гніль» я дыктаваў штабной машыністцы, на хаду рэдагуючы сваю вясковую свабоду слова, а рукапіс, з якога дыктаваў, тоўсты фаліянт, сшыты з выпадковай, хутчэй абгортачнай паперы, знішчыў, каб не вытыркацца са сваёй «крамолай» А машынапіс, рашэннем камандавання нашай партызанскай брыгады, цераз карэспандэнта «Правды», які прылятаў да нас, быў пасланы ў Маскву, Максіму Танку. Больш пра гэта — у эсэ «Думы ў дарозе»

У пачатку шасцідзесятых захацелася вярнуцца да тых дзвюх аповесцяў, балазе час быў «адліжны» Палымянскі варыянт «Птушак і гнёздаў» выдавецтва не прыняло. Прыйшлося доўга і балюча думаць, як мне гэтую кнігу зрабіць больш «прымальнай». Нялёгка гэта рабілася і не надта ўдалося Аднак яна выдадзена некалькі разоў у арыгінале і ў перакладзе на рускую мову, выйшла па-ўкраінску і па-латышску, у Чэхаславакіі і ў ГДР Толькі палякі, у шасці выдавецтвах, куды маю кнігу самахоць рэкамендавалі польскія сябры, адмовіліся яе прыняць, і толькі адно выдавецтва адкрыта выказалася пра «ідэйныя меркаванні» Я зразумеў гэта так, што і верасень трыццаць дзевятага ў мяне паказаны не па-польску, і герой-беларус паводзіў сябе таксама не належным чынам. Для трохтомніка «Выбраных твораў» я яшчэ раз паспрабаваў спалучыць у «кнізе адной маладосці» ўсе варыянты дапрацовак, вярнуць усе не свае купюры... Няпросты лёс у гэтай маёй кнігі, зрэшты, як і ў аповесцяў «На Быстранцы», «Апошняй сустрэчы», незакончанага рамана «Граніца» Пра гэта я гаварыў раней, у запісах. А тут яно, відаць, можа быць і адказам на ваша пытанне — пра «тыя часы» і «нялёгкую кроў»

—Чытаючы вашы мініяцюры, нельга не заўважыць, што, пачынаючы з «нізкай» ноты, вы на адным дыханні выцягваеце да «высокай» На чым грунтуюцца мініяцюры — на цэласнасці мастацкага адцягнутага вобраза ці адной пэўнай мастацкай дэталі, якая прадчытвае (прадугадвае?) вобраз самога аўтара з сумарнасці мініяцюр, а за ім — і вобраз ЧАЛАВЕКА ўвогуле?

—У тэорыі я, выбачайце, не маца́к, растлумачваць, чаму і як тое ці іншае рабілася, мне цяжэй, чым робіць. Ды ў творчасці, дзякуй Богу, ёсць і галоўнейшае — адчуваць, што нам трэба, неяк бачыць яго і заўсёды шукаць.

—Вы даволі часта цытуеце выказванні славутых людзей .. Ці не ствараецца тым самым небяспека для ўласнай творчасці? Ужо даводзілася аднойчы пачуць такое· Брыль «пазычае» славу ў геніяў. Хоць я ўласна сказаў бы так. Брыль не дае смяротным забываць несмяротнае... На мой погляд, вы ўводзіце ў сучасны беларускі літаратурны кантэкст адметных і знакамітых еўрапейскіх творцаў, надаючы ім адной-дзвюма рысамі як бы права на грамадзянства ў нашай культуры, як здарылася і з Райнісам, і Скаварадой, і Буніным, і Шолам-Алейхемам у вашых апошніх запісах «Дзевяноста чацвёрты» (Друкуюцца ў гэтым нумары — *Рэдакцыйная заўвага*). Дарэчы, нездарма і раздзел вы назвалі так, як бы прадчувалі падобнае пытанне — «Не чужое»..

—Наконт цытавання славутых і «пазычання» ў іх славы Тут прыдалося б тое, што ў гэтым сэнсе пісаў Міхась Стральцоў у сваім эсэ «Служэнне» — пра мяне, як чытача. Славы не пазычыш, як гарнітура, што з чужога пляча, тое ў літаратуры відаць выразней, чым у кравецтве Я проста люблю чытаць добрыя кнігі, многа і так даўно ўжо чытаю і перачытваю на роднай, рускай, польскай украінскай мовах, шкадую, што не ведаю іншых моў, каб чытаць яшчэ больш А што дзялюся ў запісах сваім шчасцем чытання, дык чаму ж, спытаемся не падзяліцца? Двое выдатных сучаснікаў, з якіх адзін мой знаёмы, паляк Яраслаў Івашкевіч, а другі яшчэ і сябар, украінец Максім Рыльскі, пад канец сваіх дзён ахвотна, культурна давалі ў друку штотыднёвыя справаздачы з прачытанага, першы ў газеце «Życie Warszawy» а другі ў «Вечірнім Києві» Такое і нам прыдалося б. А ў нас, як вы бачыце гультаёў да чытання яшчэ і на гумар нядошлы цягне: «пазычае славы...»

—Іван Антонавіч, вы добры знаўца славянскіх літаратур. Што нас, славян, родніць што своеўвасабляе? Як наогул «глядзіцца» наша айчынная літаратура калі не ў еўрапейскім, то хоць бы ў славянскім кантэксце?

—«Добры знаўца» — гэта залішне Літаратура ў братоў-славянаў багатая, належна ведаць яе няпроста Лепш ведаю рускую, польскую, украінскую, горш з іншымі А так жа добра чыталася ў свой час чэха Гашака, серба Андрыча, балгараў Далчава, Хайтава, Радзічкава, славака Татарку, чарнагорца Лаліча! У гэтым хоры наш беларускі голас, наколькі яго можна пачуць адгэтуль, таксама ж гучыць. Аднак, дзеля поспеху справы будзем і самакрытычнымі,— нам трэба працаваць ды працаваць, каб па-сапраўднаму багацець, умацоўваць Кудахканнем песню не заменіш, а мы яшчэ ўсё залішне кудахкаем ад пэўных поспехаў, і такім чынам сведчачы сваю маладосць і правінцыйнасць, якія і не па нашай віне, і па нашай таксама крыху залішне зацягнуліся. А калі гэта браць шырэй, у кантэксце не толькі славянскіх літаратур дык працы ў нас яшчэ больш

# ЛЯЧУСЯ БРЫЛЁМ

**Аксёма: Янка Брыль — мой сучаснік. Але хто мне паверыць? Бо што, як сучаснік, магу я сказаць пра пісьменніка Янку Брыля, пра чалавека Івана Антонавіча Брыля? На жаль, амаль нічога. Я магу напісаць пра яго толькі гэтаксама, як напісаў бы пра Гарэцкага ці пра Чорнага. Магу напісаць пра ягоныя творы, пра пачуцці і ўражанні, якія не пакідаюць мяне, калі разгортваю кнігу Янкі Брыля, пра даўнюю любоў да пісьменніка Янкі Брыля. Але тое ж самае можа напісаць любы чалавек і праз дзесяць, і праз сто гадоў...**

**Так, мы жывем у часе побач, але — паралельна, не сутыкаючыся і амаль не судакранаючыся. І тым не менш ён уздзейнічаў на мяне, як, можа, ніхто іншы ў нашай літаратуры. І таму казаць хочацца пра таго Янку Брыля, які жыве ўва мне, а не там недзе, у Менску, пра таго Янку Брыля, якога ведаю я адзін і ніхто больш, пра тое, якім я ўпершыню «адкрыў» яго для сябе і пра тую эвалюцыю ў поглядах на ягоную творчасць, што адбылася за палову майго свядомага жыцця. Аднак — ці можна пра гэта сказаць на дзвюх старонках замоўленага тэксту?**

**Першае маё знаёмства з творамі Янкі Брыля было шапачным, павярхоўным. На жаль, школьная, ды і універсітэцкая, праграмы беларускай літаратуры наўмысна спрымітызаваныя. Выхаваны на расейска-сусветнай літаратуры, я доўгі час, як ні сорамна сёння пра тое казаць, вельмі скептычна ставіўся да літаратуры беларускай Найперш, можа, таму, што калі і былі ў тыя гады ў нас нейкія «гурткі па інтарэсах», дык арыентаваліся мы на «забароненую» тады расейскую літаратуру — Булгакава, Платонава, Набокава і на рускамоўныя пераклады сусветных класікаў, якія выходзілі мізэрнымі накладамі,— Кафкі, Гамсуна, Камю... На сустрэчы з сапраўднымі аматарамі і знаўцамі беларушчыны мне не шанцавала. Тое ж, што прапагандавала тады афіцыйная крытыка,— чытаць было немагчыма. Настолькі фальшывым здавалася ўсё: і героі, і апісаныя падзеі, і мова...**

**І тут, як адкрыццё, як азарэнне, як бліскавіца — раман Янкі Брыля «Птушкі і гнёзды». Найперш ён мяне здзівіў Гэта была Еўропа. Гэта быў узровень, якім можна было ганарыцца. Мне, як чытачу, як беларусу... І сёння я лічу гэты раман адной з вяршыняў нашай мастацкай прозы. Ён апусціў мяне з нябёсаў на зямлю, прымусіў агледзецца, задумацца, пачаць шукаць і, урэшце, адкрыць для сябе цэлы мацярык «невядомай» беларускай літаратуры, дзе жылі Купала і Гарэцкі, Чорны і Мележ, Караткевіч і Стральцоў...**

**І па сёння, калі мне кепска, калі дрэнны настрой, калі асадка валіцца з рук, я бяру адзін з пяці тамоў збору твораў Янкі Брыля і перачытваю «Сцежкі, дарогі, прастор», альбо «Свае старонкі», «Золак, убачаны здалёк», альбо «Ніжнія Байдуны»... І забываюся пра ўсё, і святлее на душы. Я лячуся Брылём. Я «смакую» ягоную прозу. У нас**

—Хто вам найбольш блізкі па творчай манеры ў нашай і сусветнай літаратуры? Ці адчуваеце «дыханне ззаду», ці крочыць хто сёння ўслед вашымі «сцежкамі-дарожкамі»? Каму маглі б пажадаць добрага шляху па сваёй дарозе?

—Пытанне складанае, пералік можа быць вялікім і ўсё ж, як на злосць, няпоўным. Дый паўтарацца няёмка, я пра такое нямала пісаў ужо, друкаваў. Калі сказаць карацей, люблю ўсё тое, што ўражае і памятаецца, а потым яшчэ і перачытваецца, як новае, у чым душа ды розум і паасобных творцаў, і народаў, з якіх яны выйшлі. Заўсёды любіў, а цяпер тым больш паважаю прозу дакументальную, кнігі аўтабіяграфічнага, «успамінальнага» характару Абы шчыра было, разумна і сціпла.

Пра «дыханне ззаду» гаварыць не хочацца, не варта быць смешным, тым больш у старасці А радасць ад прыходу новага ў мяне была заўсёды. Як пачыналі Караткевіч, Стральцоў, Гаўрусёў, як адраджаўся Пысін! Тут радасць неразлучная з болем· як яны рана пайшлі. Ідуць зноў новыя, сярод якіх і таленавітыя І я жадаю ім не «выжываць» любой цаной, па прыкладу некаторых, а служыць Радзіме сумленнаю працай.

—Вы пражылі доўгі чалавечы і літаратурны век. Чым розняцца перажытыя вамі «эпохі» з сённяшняй, у якой з іх, скажам, было больш ДУХУ, не зважаючы на тое, што ляцела шмат пуху (чаго толькі не зарыфмуюць вершатворцы, прабачце)?

—Таксама нялёгка адказваць на такія пытанні, асабліва з ходу,— калі было лягчэй калі цяжэй. У кожным часе было сваё цяжкае і найцяжэйшае. А ў старасці гэта яшчэ і стамляе сваім бясконцым нарастаннем. Ды ўжо не толькі з крыўдай і страхам за сябе самога . Але трымаемся Трэба

—Дзяржава. Грамадства Палітыка.. У вас няшмат палітызаваных твораў. Якім чынам удалося вам ужывацца і выжываць у складаныя перыяды савецкай гісторыі? Вы не нацягвалі на сябе масак служкі ці паяца. Што ж тады — даводзілася мяняць міміку твару, літаратурныя жэсты, хаваючы сваю самаіснасць за паэтычныя тропы?

—Ні служкай, ні паяцам з уласнай ахвоты я ніколі не быў, а калі сказаць найстражэй — заўсёды стараўся не быць Ахватней былося «белай варонай» Але ж у млыне ды не запыліцца — гэта ох як няпроста! Ну, а асцепваца ад пылу, выйшаўшы з яго, кожнаму ўласціва. І мне па службе даводзілася пісаць нямала абавязковай, дабранадзейнай лухты, і мне прыйшлося пасля смерці Сталіна выступаць на жалобным мітынгу ў Саюзе пісьменнікаў, прымаць удзел у калектыўным плачы на старонках «Ліма», і лаўрэацтва абавязвала, і масавым настроем быў ахоплены, не стаў адразу смялейшым ды цверазейшым за іншых і за самога сябе ранейшага, вясковага, з маім наіўна-чыстым «талстоўствам» ды пацыфізмам Аднак у актывісты я ніколі не рваўся У мяне ўвесь час было сваё запаветнае, што памагала трымацца ў прыстойнасці Не абышлося, вядома, і без нейкіх стратаў,— і ў цэльнасці характару, і ў творчасці таксама.

—Як вы ставіцеся да нашай эміграцкай літаратуры? Ці ёсць там выбітныя асобы, ці маюцца вартыя пашаноты літаратурныя набыткі?

—Наталлю Арсеньеву я ведаю яшчэ з Заходняй. Ніколі не лічыў і цяпер не лічу яе нейкім цудам у нашай паэзіі «Магутны Божа» часта хвалюе і мяне, але ж тут яшчэ і музыка Проста — паэтка таленавітая, і зусім справядліва тое, што яна цяпер у нас друкуецца, а нейкі культ ствараць і тут яшчэ не варта Ларысу Геніюш пачаў чытаць у палоне, у газеце «Раніца», што выдавалася вэрмахтам для палонных беларусаў з польскага войска як і іншыя падобныя «цайтунгі» для палонных з іншых еўрапейскіх арміяў Вершы не прыемна вылучаліся, так сказаць, сваёю апалітычнасцю, проста любоўю да роднага, што адпавядала нашай тузе па волі і ўсім сваім. Мне прыемна было сказаць гэта Ларысе Антонаўне, калі мы, Караткевіч, Калеснік і я, вясною 1963-га, праездам завіталі ў Зэльву. Параўноўваць нягожа, але ж Геніюш мне бачыцца мацнейшай за Арсеньеву.— можа, тут сваё гавораць і пакуты яе, і «Споведзь»

Цаню паэзію Сяднёва. З цікавасцю чытаў эсэістыку Віцьбіча. Наогул добра, нармальна гэта, што лепшае з творчасці нашых эмігрантаў спакваля, няспынна ўваходзіць ў адзіную беларускую літаратуру, па прынцыпу раўнапраўнасці Толькі ўзвышацца адным над аднымі не трэба, як той пацешны літаратурны дзед, які не толькі ментарыць з-за акіяна, але і ўпарта сцвярджае, што беларускай літаратуры на бацькаўшчыне наогул няма А каму было цяжэй заставацца беларусам — за вялікай вадою ці тут,— пра гэта таксама трэба падумаць шырэй ды глыбей.

—Мяне не пакідае думка, што Брыль аднойчы яшчэ раз вернецца да напісаных мініяцюр, каб «выкласці» з тых, разрозненых падчас, каштоўных каменьчыкаў (прыпомніліся салаухінскія «камешки на ладони») своеасаблівы, прабачце за фрывольнасць, брылёўскі літаратурны «пантэон» Ёсць з чаго! Памыляюся? Бо рамана у яго жанравым разуменні, вы ўсё ж не напісалі

—Што да «літаратурнага пантэона» з лірычных запісаў. Нялёгкая гэта работа — быць належна строгім у адборы значнейшага ў такой «драбязе» Да вышэй названага трохтомніка я пастараўся быць такім. Быў бы рады дажыць да магчымасці пераглядзець гэты свой набытак яшчэ і яшчэ раз. А што рамана «ў класічным яго вызначэнні» я не напісаў — такое бяды Няма ж у мяне ні трылогіі якой, ні драмы, ні вянка санетаў .

—Колькі чалавек жыве — столькі ён сябе творыць. Наколькі Янку Брылю — і пісьменніку, і чалавеку — удалося стварыць сябе?

—Маеце рацыю, кажучы, што колькі чалавек жыве, столькі і творыць самога сябе. Абы сапраўды тварыў А што ўжо атрымалася з мяне — меркаваць не самому

—Ваш погляд на будучае літаратуры як чалавечай культуры?

—Гадаць, прарочыць пра будучыню літаратуры — гэта гульня, што сённячы модна Літаратура, як сродак, форма жыццёва неабходных кантактаў людзей і народаў — няўжо без гэтага можна, патрэбна будзе калі-небудзь абысціся? .

—Шчыры дзякуй вам за гутарку. Доўгіх гадоў жыцця, творчага плёну! І — да новай сустрэчы з чытачамі на старонках нашага часопіса

---

вельмі мала пісьменнікаў, якіх можна перачытваць, кожны раз адкрываючы для сябе нешта новае, і — «смакаваць». Здзіўляцца назіральнасці і дасціпнасці, гжэчнасці і дакладнасці, чысціні і празрыстасці. Слоў, думак, вобразаў Майстра.

З гэтакім прадчуваннем разгарнуў я і новую кнігу Янкі Брыля «Пішу як жыву». Чытаў, і расло расчараванне. Не пісьменнікам Янкам Брылём (ён заставаўся верным сабе), а чалавекам, простым смяротным чалавекам Іванам Антонавічам Брылём, якому, зразумела, «ничто человеческое не чуждо», у якога ёсць свае слабасці, і якi, па вялікім рахунку, у гэтай кнізе раскрыўся і як чалавек, і як самы звычайны беларус, з усімі адпаведнымі характару беларуса рысамі: талерантнасцю, памяркоўнасцю і *асцярожнасцю*. Гэтае — апошняе — слова сустракаецца ў кнізе ці не найчасцей. Іван Антонавіч прызнаецца, што быў асцярожным, на жаль, і тады, калі бачыў, як гіне родная мова, як знішчаецца нашая спадчына, культура... Ён усё заўважаў, усё разумеў, але найчасцей — маўчаў Як і большасць тагачасных пісьменнікаў, паэтаў, дзеячаў мастацтва. Вось гэта засмуціла мяне найбольш у новай кнізе Янкі Брыля. Я, вядома, раблю скідку на той час, у якім і сам паспеў пажыць, на тую ідэалагічную машыну, якая ўмела звязваць па руках і нагах. І тым не менш, думаю — мог Іван Антонавіч, паважаны пісьменнік Янка Брыль, адкрыта выступіць супраць гвалту над *яго* мовай, супраць таго, што ў сталіцы рэспублікі не засталося ніводнае беларускамоўнае школы. Мог, але не выступіў. Не рызыкнуў. Паасцярожнічаў. Як і іншыя. Мажліва, гэтае выступленне нічога не дало б, акрамя непрыемнасцяў Івану Антонавічу. Нічога не змянілася б у выніку. Але... Не маем мы, беларусы, у адрозненне ад расейцаў, украінцаў сваіх дысідэнтаў, не маем і твораў, якія пісаліся «ў стол». Памяркоўнасць і асцярожнасць сталі сцягам *таго* пакалення.

Я ні ў чым не дакараю Івана Антонавіча. Ды і іншых. Я не маю на гэта права. Я проста шчыра выказваю тое, што зачапіла мяне, калі я чытаў кнігу «Пішу як жыву».

І ўсё ж, мне здаецца, што пісаў і піша Янка Брыль не зусім так, як жыў. Мажліва, я й памыляюся, але я бачу розніцу (раздваенне) між Янкам і Іванам Антонавічам у жыцці і творчасці Брыля. Раздваенне ад знаходжання між Еўропай (служэннем Беларусі) і Усходам (асцярожнасцю перад бальшавізмам). Але ў адрозненне ад іншых Іванаў у нашай літаратуры, Івана Антонавіча ніколі не пакідаў сумліў· ці тое я раблю, ці тое і так я пішу? Пісьменнік Янка Брыль перамагаў чалавека Івана Антонавіча Брыля. І ён напісаў бессмяротныя творы, якія застаюцца і застануцца па-за часам, якія не знікаюць і не знікнуць разам з разбурэннем ідэалогій, імперый, «эпох»... І за гэтую неасцярожнасць вялікі дзякуй яму.

Хто ты такі — скажа нехта мне, каб настолькі безапеляцыйна пісаць, каб раздаваць ацэнкі і рабіць нейкія высновы... Я — адзін з вас. І я маю гэткае ж права на свае думкі, свае вывады, як і ўсе вы. Маю права «якаць» і быць суб'ектыўным. Раскрывацца і раскрываць. Асабістае і шчырае не можа быць нецікавым і непатрэбным. Што б гэта ні было: аповед, крытычны артыкул, зацемка ў нататніку... Тое пацвярджае сваёй творчасцю і Янка Брыль.

Барыс ПЯТРОВІЧ

# УСЁ ЧАЛАВЕЧАЕ

...«Янка Брыль не любіць жанравай неакрэсленасці ў творах, азначэнне «верш у прозе», як і «паэт у прозе», здаецца яму чымсьці невыразным і ненатуральным. Але ён смакуе ў выказваннях майстроў пахвальныя словы ў адрас лірызму, паэтычнасці мастацтва. Беларускі празаік падхоплівае, як апраўданне сабе, словы японца Акутагавы Руноске: «Проза займае месца ў літаратуры толькі дзякуючы паэзіі, якая ў ёй змяшчаецца».

А ты, бывае, сумна ці раздражнёна думаеш пра сябе, што вось дарма ўшчаміўся недзе паміж прозай і паэзіяй...»[1]

...Цяга савецкіх мастакоў да мініяцюр у пасляваенны час павінна разглядацца як форма барацьбы за свабоду творчасці ва ўмовах ідэалагічнага аўтарытарызму і рэгламентацыі творчага працэсу.

Калі глядзець на архіпелаг мініяцюр Янкі Брыля паеўрапейску, дык трэба было б аднесці яго да авангардысцкай прозы, фрагментарнай і рассыпістай па сваёй прыродзе. Але такое рашэнне ўвапрэцца ў некалькі перашкод: па-першае, сам жа Брыль, як мы бачылі, не любіць жанравай аморфнасці ў мастацтве, крыўдуе, калі называюць яго лірыкам у прозе; па-другое, мініяцюры ў Брыля не мазкі на палатне імпрэсіяніста і не сімвалісцкія таемныя знакі, нават не смальты на пано мастака-манументаліста,— яны нешта іншае і большае, бо маюць эстэтычна-выяўленую закончанасць, самастойнасць і самацэннасць. Цыклы мініяцюр і кнігі мініяцюр — гэта сістэма аб'яднаных гуманістычнаю ідэяй вобразаў і думак, афарызмаў і парадоксаў, назіранняў і выказванняў аб людзях і свеце, аб надзённым і вечным, аб чалавеку, яго мажлівасцях і немагаце. Беручыся вызначыць мастацкую вартасць Брылёвых мініяцюр, нельга выпускаць з-пад увагі таксама тое, што яны нярэдка прысутнічаюць у поўнаметражных творах як мікракампаненты, асабліва шмат іх у аповесцях «Золак, убачаны здалёк», «Ніжнія Байдуны», «Муштук і папка».

Найважнейшы аргумент супраць безагаворачнага прыняцця мадэрнай версіі — тое, што ў натуры Брыля мы сустракаем здзіўляючую раўнавагу духу, яго творчая фантазія і ўяўленні падкантрольныя розуму, у той час як мадэрнісцкая мадэль творчай асобы стаіць на дамінацыі фантазіі, мройнасці, інтуітыўнасці, нават пераборы трызнення падводзяцца там пад сімптаматычны кампанент геніяльнасці.

Уладзімір КАЛЕСНІК

1 Брыль Я. На сцежцы — дзеці. Мн., 1988. С. 205.

# МАГІЯ СЛОВА

Да кніг Янкі Брыля ў мяне асаблівае стаўленне. У свой час яны адкрылі для мяне вялікі свет мастацтва. Рана навучыўшыся чытаць, яшчэ ў пачатковай школе я захварэла на вядомую многім «хваробу» нешта сярэдняе паміж горкаўскай «страстью к чтению» і наркатычнай захопленасцю друкаваным словам чычыкаўскага фурмана Восіпа. Чыталася ўсё, што толькі трапляла пад рукі.

Сёння з вялікай колькасці тых перачытаных кніг не памятаецца нічога, хоць, па ўсім відаць, былі ў той школьнай бібліятэчцы і добрыя творы рускай і замежнай класікі. І, здаецца, цяпер я разумею, чаму так сталася. Усё, апісанае ў тых кнігах, было далёкім і чужым для жыцця вясковага дзіцяці. Яно не магло закрануць душы, бо не знаходзіла ніякай самай дробязнай зачэпкі, каб выклікаць роздум і згадкі пра сябе і тое рэальнае жыццё, што існавала навокал. Вялікі свет літаратуры і штодзённы побыт існавалі самі па сабе, як тыя славутыя дзве паралельныя прамыя, нідзе не перасякаючыся.

І так было датуль, пакуль не трапіла мне ў рукі аповесць Янкі Брыля «Сірочы хлеб». Здаецца, што і сёння я, як наяве, бачу прыгожую чарнявую галоўку пані Мар'і, чую яе голас, які здрадліва дрыжыць, калі чытае яна пра нягоды маленькага Міхаські — героя апавядання Цёткі. Бачу коратка пастрыжаную галаву Даніка, які замест таго, каб маляваць яблык, сочыць крадком за настаўніцай і ўсім дзіцячым шчырым сэрцам спачувае літаратурнаму герою. Чую, як роспачна плача хлопчык, убачыўшы няшчасную жанчыну на ганку паліцэйскага пастарунка. Бачу яго сарамлівасць і разгубленасць, калі прыйшоў ён адведаць хворую настаўніцу... Карацей, памятаю тое адчуванне свайго, роднага, тое пачуццё, што нябачнымі сувязямі нітавала свет маленькага кніжнага героя з маім жывым наваколным светам. Прымушаючы і мяне, як і яго ў дачыненні да твораў Купалы і Цёткі, рабіць нейкія паралелі-параўнанні са сваім жыццём.

Тое першае ўражанне ад кнігі было настолькі моцным, што доўгія гады не хацелася нават перачытваць яе, каб не страціць і не разбурыць яго. І калі нядаўна я зноў перачытала аповесць, то здзівілася яшчэ больш — аказваецца, запомніліся мне якраз найлепшыя, па-сапраўднаму высокамастацкія старонкі, дзе так псіхалагічна дакладна перададзены пісьменнікам духоўны свет дзіцяці. Свет, у якім смутак мінае і забываецца хутка, як летні дождж, а душа запоўнена самымі неверагоднымі, але такімі тыповымі для дзяцей фантазіямі. Відаць, дзеля таго, каб адчуць сапраўднае мастацтва, не трэба ні жыццёвага вопыту, ні адукацыі, а толькі першаснае інтуітыўнае адчуванне дасканаласці, можа быць, нават на ўзроўні інстынкту.

*Чытаць Янку Брыля лёгка.* А пісаць пра яго *цяжка*. Можа, таму, што гэта вымагае надзвычайнай дакладнасці, прастаты і глыбіні, якія так уласцівыя брылёўскай прозе. З усіх нашых пісьменнікаў Янка Брыль, на мой погляд, найбольш суб'ектыўны, найбольш аўтабіяграфічны. Ён піша найперш пра сябе, свае адчуванні і свае адносіны да свету. Біяграфію і радавод пісьменніка можна вывучаць паводле ягоных кніг. І калі чытаеш гэтыя кнігі — напачатку здаецца, што ведаеш пра аўтара ўсё: і пра маленства і юнацтва, палон і ўцёкі з яго, пасляваеннае жыццё. Ведаеш яго акружэнне — блізкіх і далёкіх сваякоў, сяброў, проста знаёмых. Але пазней аказваецца, што гэта падманлівае ўражанне. Бо, ведаючы пра Янку Брыля амаль усё, сам ён і ягоная душа так і застаюцца для чытача загадкай. З кожнай новай кнігай, з кожным новым выказваннем — ён застаецца для нас нечаканым. Яго немагчыма прадказаць і прадвызначыць.

Большасці пісьменнікаў, асабліва празаікам, уласціва імкненне да знешняй маштабнасці, жаданне ахапіць у сваіх творах як мага больш падзей, высветліць як мага больш праблем. Яны глядзяць *навокал* і *ўдалеч*, і многім здаецца, што чым шырэй межы іхняга кругагляду — тым лепш.

У Янкі Брыля інакш. Ён глядзіць у адну кропку — *у сябе, праз сябе* бачыць навакольны свет і ўсе тыя адвечныя праблемы, што ў ім існуюць. Але, гледзячы ў сябе і апавядаючы пра сябе, ён якраз і дасягае найбольшых абагульненняў і найбольшай маштабнасці.

Чытаць Янку Брыля лёгка — гэта праўда. Але не ўся. Бо чытаць Брыля ў той жа час і неверагодна цяжка. Брылёўская проза прымушае чытача думаць, глядзець у сябе, у сваю душу. Яна патрабуе такой жа гранічнай шчырасці ад самога чытача ў яго ўзаемадачыненнях са светам і з самім сабой. Кожны, хто чытае Брыля, бярэ на свае плечы двайную ношу — ён думае не толькі пра герояў, але незаўважна пачынае пераходзіць на сябе, аналізаваць свае паводзіны, учынкі. У гэтым магічны ўплыў брылёўскае прозы, які неўсвядомлена і я адчула яшчэ ў дзяцінстве.

У прозе Брыля шмат таямніц. І адна з іх у тым, што, нават чытаючы старонкі пра трагічнае і жудаснае ў нашым жыцці, ніколі не знікае адчуванне радаснага сонечнага святла, чысціні і яснасці, што нібыта выпраменьваюць ягоныя кнігі. Не ведаю, якая любімая пара года ў пісьменніка, але мне здаецца, што лета. Лета ў самым сваім росквіце, трошкі ўжо прыціхлае ад буяння красак і зеляніны, спакойнае і раздумлівае, бо адчувае ўжо хуткі скон, але поўнае яшчэ жыццядайных сіл, моцы і гармоніі.

Да прозы Янкі Брыля вяртаешся, як у родны бацькоўскі дом пасля доўгай адсутнасці, калі кожная дробязь нагадвае дзяцінства, твой выток і пачатак, абуджае ўспаміны пра час страчаных мрояў і летуценняў. Вяртаешся ў свой родны свет, які ад нараджэння і да скону быў і застанецца тваім.

Галіна ТЫЧКА

# БРЫЛЬ -- гэта БРЫЛЬ, гэта БРЫЛЬ...

Ад чаго залежыць тая выразнасць, з якой памяць раптам набліжае да нас штосьці з мінулага? Ад інтэнсіўнасці былога перажывання, ад вастрыні першага ўражання?

Відаць, так. Але іншым разам пачынаеш падазраваць, што прычына выразнага ўспаміну не столькі засталася там, за спіною, колькі стаілася недзе наперадзе, цярпліва чакаючы свайго часу і быццам падказваючы: помніш — значыць, яшчэ стрэнеш...

Прынамсі, гэта не болей чым адно падазрэнне, і што-небудзь даводзіць тут цяжка, а мо і не трэба. Таму лепш скончым гэтую метафізіку і пойдзем па зямлі.

А на зямлі — сонечная лета восемдзесят пятага, і мы сядзім з Янкам Брылём у парку, на лаве ў цяньку, і пачынаем тыя нашы дыялогі, што ў наступным годзе надрукуе ў Маскве «Дружба народов». І штосьці, відаць, згадалася пра Баруздзіна, рэдактара гэтага часопіса, таму што Брыль адразу ж безнадзейна махнуў рукой: «А ён ужо пэўна зараз на Мадагаскары...»

Гэты вось Мадагаскар, назву з далёкіх турыстычных вандраванняў, ён вымавіў нібы Карэлічы — і тым вельмі здзівіў мяне. Бо мне цяжка было тады ўявіць другога чалавека, чыя знешнасць гэтак жа яскрава, здавалася б, сведчыла аб нязменнай «аселасці» яго жыцця, як знешнасць Янкі Брыля.

А ён, гэты «асельы» чалавек, усё сваё жыццё жыў як заўзяты падарожнік.

Пісьменніку ж з такой моцнай непасрэднай цікавасцю да жыцця ва ўсіх зямных праявах ужо самім характарам, сваёй творчай канстытуцыяй наканавана быць у падарожжах нястомным і прагным збіральнікам жыццёвых уражанняў.

За гэтым заняткам і «сфатаграфаваў» аднойчы Брыля Алесь Адамовіч. Прыгадваючы іх сумесныя паездкі, ён паказаў, як Брыль, «па магчымасці неўпрыкмет, са спрытнасцю паляўнічага выхоплівае шарыкавую ручку, запісную кніжку і, адстаўшы ад усіх, запісвае...»

Можна дадаць, што калі не ад паляўнічага, дык ужо штосьці ад падарожніка, напэўна, мільгне ў высокай, буйной постаці Янкі Брыля, калі заўважыш яе сярод дзённай сумятні мінскіх вуліц: свабодна скроены касцюм і нямодны, падобны здалёк на баул, партфель,— хатняя нетаропкасць, грунтоўнасць, але і лёгкасць на пад'ём, заўсёдная дарожная гатоўнасць. І дальбог, часам нават здзіўляешся, што чарговая нядзельная тэлесерыя адысеі каманды Кусто ўжо канчаецца, а Брыля пакуль што не відаць ні на палубе, ні ў кают-кампаніі «Каліпсо».

А калі ўсур'ёз, то ўсе яго падарожжы, ваенных гадоў і мірных,— ад дому да дому. І гэтаксама ў творчасці: у аўтабіяграфічных аповесцях і рамане, у кнігах апавяданняў, лірычных запісаў, мініяцюраў, эсэ. З той толькі розніцай, што ў іх падарожнічаюць памяць і душа. Брыль рухаецца тут ужо не ў прасторы, а ў часе, па-над межамі, «паўзверх бар'ераў», кажучы словамі Пастарнака.

Але і геаграфія таксама важ-

ная, калі пісьменнік увасабляе праз асабісты лёс гісторыю свайго народа. І ў Брыля геаграфія не толькі пашырае ўнутраныя рамкі зместу, але і дадае яму ўсяго канкрэтнага і рэчавага, неабходнага для пластычнага і разам з тым аналітычнага пісання, якое і вылучае гэтага празаіка.

Добра памятаю, што для першай нашай сустрэчы ён прапанаваў бібліятэку Дома літаратара — і толькі пасля таго, як параўнаў мае запланаваныя на той дзень гарадскія маршруты са сваімі: «Гэта якраз на роўнай адлегласці ад кожнага з нас, на «нейтральнай тэрыторыі».

Калі я ўвайшоў, ён штосьці пісаў за сталом — аказалася, даравальны надпіс на сваёй новай кнізе «Сёння і памяць», што выйшла ў выдавецтве «Мастацкая літаратура». Прымаючы падарунак, я нечакана для сябе спытаў у Брыля не пра гэтую, самую апошнюю тады з напісаных ім кніг, а пра першую з прачытаных. І тут пачалося.

Пасыпаліся імёны і назвы, я нібы нават бачыў вокладкі — старыя, тоўстыя, у золаце. «Карзіна кніг, вялікая плеценая карзіна кніг»... Яна вандравала з ім у юнацтве, і ён пералічыў усё, што ў ёй было, ад Карамзіна да «Рэйнеке-ліса» Гётэ з ілюстрацыямі Каўльбаха.

Цяпер я думаю, што слухаў тады не пра адно Брылёва захапленне на ўсё жыццё светам кніг, літаратуры. Можа, там былі моманты і таго, пра што гаворыцца ў эсэ Пруста «Аб чытанні», ці таго, што згадваемістыфікуе на сваіх «Іншых берагах» Набокаў...

У той кватэры Брыля, дзе я бываў, рабочы стол пісьменніка, стары, але зручны і моцны, стаяў перад акном, сярод сямейнага, роднага, што глядзела на гаспадара са сцен: справа — фотапартрэт маці, Анастасіі Іванаўны, злева — брата Міхаіла.

З дапамогаю маці пачыналася ўсё галоўнае ў жыцці — і падтрымлівалася яе клопатам і блаславеннем. І праца, і вучоба, і творчасць. Пакуль ён быў у палоне, яна захоўвала ў сваім куфры — яшчэ з-пад пасагу — яго першыя, пачатыя да вайны накіды і апавяданні. Яна была з ім і старэйшымі, ужо сямейнымі, дзецьмі ў партызанах. Там, у Налібоцкай пушчы, сярод радні, землякоў і палеткаў, сярод вайны другі раз пачалося для яго пісьменніцтва — каб ужо не прыпыняцца.

Сама сабою накрэслілася гэтая лінія лёсу: сям'я — гісторыя народа — творчасць. Усё тут адзінае і ўзаемапранікальнае для Брыля. І ўсё перажываецца ім як адзін непаўторны лёс.

З нейкай нават дзіўнай нагляднасцю паўстае гэта на ягоных старонках, напісаных у апошнія гады ці пачатых даўным-даўно, але таксама захаваўшых свой гістарычны час.

Радкі і старонкі гэтыя сабраны ў кнігі, а кнігі стаяць у адной з шафаў, што зроблены знаёмым сталяром. Яны ўмясцілі шмат з любімага Брылём у юнацтве, а можа, яшчэ і чытанае некалі сваёй маці ледзь не па складах...

Аднойчы, расказваў Брыль, глядзеў на гэтыя кніжныя шафы Адамовіч — глядзеў, маўчаў, заняты думкамі пра сваю «Блакадную кнігу», — і раптам, з тыповым для яго «катастрафічным» гумарам пачаў прыкідваць: «Спачатку вось гэта Брыль пачаў бы паліць, каб не загінуць ад холаду, потым вось гэта, потым — адтуль... А тут бы ўзяць рашыўся што-небудзь толькі пад самы канец».

Бо «тут», у гэтай Брылёвай шафе,— Талстой, ягоны бог і талісман, з якім — усё жыццё.

І вось што думаецца мне пра талісман у гэтым сэнсе для людзей мастацтва: ён, зразумела ж, ім дапамагае...

Але.

Але ж за ўсё ў творчасці — як і ў жыцці — трэба плаціць.

Талстой — мастак не проста аўтабіяграфічны болей за другіх. Ён фенаменальна аўтабіяграфічны. А феномен — гэта не прэцэдэнт Як бы ні хацелася ў гэта верыць. Калі ж такая вера перамагае, то спакуслівы, хай несвядомы, шлях да эпігонства робіцца небяспечна свабодным. І нават калі на ім папераджальна апусціцца шлагбаум, небяспека застаецца: з разгону можна кінуцца ў бок, дзе ўсё выключнае ў мастацтве будзе ўжо бачыцца даступным, простым і разумецца ледзь не літаральна.

Напрыклад, ён мастак-феномен, кажа: пражыў жыццё — дык раскажы. Чытаеш гэта ў яго і разумееш: так, праўда, думка добрая, няма пытанняў. І застаешся з гэтай думкай — у думках жа. Як скарыстаеш гэта, нават не прыкмеціш. І больш за тое — толькі неўпрыкмет і скарыстаеш. А нехта, прачытаўшы тую ж мудрую параду, адразу сядзе, як Валянцін Булгакаў, сакратар Талстога, і пачне рукапіс: «Як пражыта жыццё»...

Ці яшчэ парада генія: пішы адно што чуў і бачыў, толькі сваё, не выдумляй. Мо і гэта таксама меў на ўвазе Брыль, калі прызнаваўся: «Аўтабіяграфічны пісьменнік нікуды ад сябе падзецца не можа. Я вось не здолеў ад сябе пайсці ні ў рамане, ні ў аповесці, ні ў навелах... Хаваўся я за другія імёны — Алеся, Даніка, напрыклад... Можа, і праўда, вытыркаўся з-за іх мой брыль. Цяпер выразшыў больш не хавацца. Але сумненні, часам пакутлівыя, усё роўна застаюцца. Успомніш нешта з ранейшага напісанага, скажам, апавяданне ці аповесць: а мог жа і выдумляць. Дык ці не абкрадаю я сябе, часта аддаючы штосьці толькі для нататак?»

Як на маю думку, то так, абкрадаю. У адрозненне ад свайго бога Талстога. Бо калі той раіў пісаць «проста», дык рабіў гэта ўжо пасля «Анны Карэнінай», дзе не толькі сказана, але нейкім невытлумачальным чынам і паказана, што Карэніна адчувала, як у цемнаце блішчаць яе вочы,— і Бунін ажно скалануўся ад гэтага, гаворачы незадоўга да смерці пра «звышнатуральную» мастацкую моц Талстога... Зразумела, валодаючы такой сілаю, можна было потым абраць і аскезу· навошта, маўляў, вам гэтае мастацтва, буржуазны перажытак; калі ёсць што сказаць — кажыце проста, і г.д.

Але што болей помніцца людзьмі ў свеце — гэтае талстоўскае «простае казанне» ці тая ж «Карэніна», «Казакі», «Хаджы-Мурат» — рэчы, якраз-такі вольныя ад той «прастаты» і ў пэўнай меры ад аўтабіяграфічнасці?

Што ж да Брылёвай прозы, то для мяне яна лепшая менавіта там, дзе вызвалена хоць і з самаахвотнага, але ж палону залішне літаральна зразуметага генія, ад ягонай «школы», урокаў — і дзе яна выдумляе, як можа, сама сябе.

Таму Брыль — гэта Брыль, гэта Брыль, гэта Брыль.

Усё астатняе — потым.

**Аляксандар СТАНЮТА**



# Леанід ГАЛУБОВІЧ

## МЫ



*Зжыві сябе --*
*каб іншым жыць...*

* * *

Калі б жыцця свайго паэму
Я ўсё ж задумаў напісаць,
То на паперы шорхлай, шэрай,
Шурпатай, як апалы ліст,
Я напісаў бы слова
СМУТАК
І перакрэсліў бы, магчыма,
І напісаў бы проста
СУМ
Мажліва, й гэта б перакрэсліў...
Ды ўрэшце, што б ні напісаў я,
А ўласнай бы не перакрэсліў
САМОТЫ

## НА ДОСВІТКУ

На яве то было ці ў сне:
Дасвеццем, на зыходзе ночы
Бацькоўскі дух з'явіўся мне,
Запаланіўшы мозг і вочы...

І мне сказаў бясстрасна ён:
«З'яўленне наша, як і скон,
Працяг у вечным часе маюць
На тым і гэтым свеце...
                              Знай:
Як дзень і ноч сябе змяняюць,
Так і жыццё і смерць...
                              Трывай,
А шалям лёсу дай вагацца...
Пад небам ты і пад зямлёй
Не страціш сутнасці сваёй —
Тварыць і сам перастварацца...
Зжыві сябе — каб іншым жыць...»

Сказаў і — знік, і — след ім жыць...
І вызваліў і мозг, і вочы...
І мне — пракраўшыся ў жытло —
Анёлы дня і д'яблы ночы
Скармілі цемру і святло...

## НЯСКЛАДНЫ СКАЗ ПРА ЗГУБНЫ СОН

*Светлай памяці сябра*
*Галубовіча Пятра Платонавіча*

Ящчэ летам мінулым
Мы пасвілі ў вёсцы малочных кароў.
Ён — з мамай старою,
А я — з маладою жонкай...
І ён усё спаў пры дарозе
У саламянай і свежай капе,
Спаў і спаў...
                    а маці той статак пасвіла
І не будзіла яго,
                    шкадавала ці думала:
Хай у сне хоць пабудзе такім, якім хоча...

Многа спаў ён апошнім часам —
Стаміўся глядзець на свет сіратою
Пры маці жывой і няхітрай яе гаспадарцы...

І ўчора яшчэ ён быў сябрам маім.
А сёння звоняць: няма...
                              не прачнуўся...
Будзіць спахапіліся,
                              а ўжо душа — адляцела...





...Заснуў ён захмелены згубнаю ноччу,
А ў душы — гэта ж трэба! — якраз бяссонніца...
Няўлежна ёй,
                    сумна...
                              Яна аглядзелася —
Нікога няма апроч плоці абрыдлай,
Пухнатай,
                    і потнай,
                              і поўнай віна...

А была душа маладой і прыгожай,
Як і кожная наша,
                              бо ўсе яны — сёстры,
І ведама, — Бог ім бацька...
Шкада,
                    што не ўсякая плоць дарye ім волю,
Пакуль сама балюе ў застоллі зямным...
Таму нашым душам і хочацца
З-за кратаў праціснуцца
                              клеткі грудной,
Каб пацешыцца светам!..

А гэты лежань прыпухлы
Не змог ад зямлі адарвацца
Ні на вяршок,
Ляжаў —
                    акруглы і цяжкі —
Як з бульбай мяшок...

Ён і ў снах-то лятаў недалёка ад хаты,
Хіба што над садам, ад сну рахманы,
Каб бачыць дзверы вясковай крамы,
Дзе пахла грашыма,
                    він ом
                              і жанкамі...

Што ж, душа,
                    ты без плоці яго паляцела?!
Ён якраз і нагадваў формаю цела
Шар дзіцячы надзьмуты,
Сам — дзіця,
                    асабліва разуты
Раніцай да апахмелля,
Смагу п'ючы з мацярынскіх грудзей...
Не горшы нічым ад астатніх людзей.

Падняла б яго ў тыя нябесныя высі,
Каб пабачыў зямлю без усякай карысці,
Якой бачаць крылатыя толькі
І ўсе,
                    хто стаяў каля райскіх варот...

Можа,
                    адтуль і не згледзеў бы ён
Ні калгасных фермаў смярдзючых,
Ні вінных атрутных крамаў,

Ні жанчын са скразным палавым лонам,
Ні дурняў-карцёжнікаў,
Што вечнасці час прайграюць,
Ні могілак нашых вясковых,
Ні месца свайго на іх...

Можа, ён і прачнуўся б...
Ці маці яго прачнулася б
Глянуць на ваш палёт,
Каб памерці
хоць на імгненне раней...

Ах, дарма, дарма ты, душа, паспяшалася!
Грэшна бяздушнымі нас на зямлі пакідаць!
Гасподзь там спытае.
Гасподзь не прабачыць несправядлівасці!
Папрасіла б хоць маці яго
Грахі твае замаліць,
Папрасіла б хоць маці,
Што ўжо за табою ляціць
З-пад каровы нядоенай...

## РАСТАЙНЫ ЧАС

...Замерзлая рака
Пад лёдам грэе плынь,
На ім лязом канька
Выпісвае латынь
Смяшлівае дзяўчо —
Нашчадак мой, двайнік? —
Глядзіць цераз плячо
Няўцям:
куды я знік?!

...Туды, дзе палатном
Ляжыць вясковы снег,
І хатай пахне дом,
Адкуль калісьці збег
Я
Ведаю мой час
Растане, як зіма...
І хоць дажыў да вас,
А жыў, відаць, дарма.
...Рака ў бетоне пліт,
Сваю сагрэўшы плынь,
Сцякае ўся ў нябыт,
Гвалтуючы латынь,
І крышыць цяжкі лёд,
І коле клінам вязь,
І гне з лацінскай «J»
Кірылічнае «Б»...
«А-у!» — крычу дзяўчу,
І мовы нестае
Сказаць, каб хто пачуў.





Што нас не існуе:
Ні тут няма, ні там,
Нібыта знёс ляднік
Наш лёс,
і ён растаў —
У вечным часе знік...

## ЦНОТА

... Ты заснула на канапе...
Спіш,
скруціўшыся ў клубок
На руцэ,
нібы на лапе
Кошка...
З шоўку паясок
Разышоўся,
і — калені,
Быццам двое кацянят,
Заміраючы ў здзіўленні,
Ловяць кожны мой падгляд.

... Зварухнуцца —
і між імі —
Цень расколінкі мільгне...
Толькі сыкаюць спружыны,
Як гадзюкі, на мяне...

## СОН

*В.Г*

...На развіхуранай пасцелі,
Дзе сон, бы снег, глухі і лёгкі —
Мы над зямлёй з табой ляцелі,
Падушкі сцяўшы, як аблокі...

І неставала сіл прачнуцца,
І плоць спакусна песціў д‘ябал —
І не магла ты мне вярнуцца
Дзяўчынай, жонкай, маці... бабай...

На райскім воблачным атласе —
Без слоў, без слёз і без жадання —
Ты ўпершыню мне пачалася
З рабра і боскага дыхання...

* * *

*В.Л.*

Любіць цябе — нібы тварыць сябе,
Каб выведаць душу па чуйнай плоці,

Нібы зямлю — ратай,
　　　　　　　　што на сяўбе
Мадзеў не менш, чым меў пры намалоце...

...Вось ты здымаеш свой нацельны крыж —
Вярыгі дня перад начным астрогам —
І цемрай ахінуўшыся ляжыш
Так,
　　　　як зямля замысленая Богам...

...Яшчэ душа не вызнала граху —
Ды пішацца ўжо біблія нанова
Дыханнем,
　　　　　што не месціцца ў радку,
І сэнсам,
　　　　што не ўкладваецца ў словы...

## АМАЛЬ ТРАДЫЦЫЙНЫ ВЕРШ БЕЗ НАЗОВУ

...Бяроза ад ветру ў двары
Ніяк не затуліцца веццем...
Глядзі, вершаплёт,— і твары,
Ты бачыш натуру нарэшце,
Якой у сцюдзёным двары,
Бы сукню, загольваюць вецце...
Балюча глядзець...
　　　　　　　　Закуры —
На дымнай вяроўцы павесся...
«Што ж,— скажуць,— сканаў без пары...
А вось перажыў бы марозы —
То ціскаў бы дзеўку ў двары
Пад веццем зялёнай бярозы...»

## САМОТА Ў ГАСЦЯХ

Люблю ў гасцях —
　　　　　　　　дзе ўраз мяне абдыме
Стамлёнасць, сум,
　　　　　　　　дзе бачыцца, бы ў сне,
Як столь трымаецца на дыме
І стол хістаецца ў віне —
Абрацъ жанчыну, што мяне не бачыць,
І разглядаць яе бы ў першы раз,
Не маючы намеру перайначыць
У ёй таго, што выштукаваў час...

Карункі разглядаць з пражылак тонкіх
Трывожных рук,
　　　　　　　　і гурбачкі грудзей,
І малаточак скроні ля прыколкі,





Што стукае адчайней і часцей,
І ракавіну вуха, вусны,
　　　　　　　　　　　вочы,
Пакуль туды,
　　　　　　нібыта мурашы,
Збягуцца зрэнкі,
　　　　　　каб насупраць ночы
Засцерагчы цнатлівы стан душы...

## МІКРАРАЁННЫ СВЕТ

Гайдаецца гардзіна —
І заваконны свет
Трымціць, як павуціна,
Што легла да павек,
Вагаючыся слёзна...

Хачу яе змахнуць,
Забыўшыся, што можна
Гардзіну адхінуць.

Ды толькі я рукою
Гардзіну адхіну —
То ўбачу прад сабою
Бетонную сцяну...

Высокую-высокую,
Да самых да нябёс,
Якую пад аблокамі
Трымае хісткі лёс...

* * *

Я сказаў слова.
І ты сказаў слова.
І ён сказаў слова,
Няма сэнсу ў трох словах...

Таму зноў гавару я слова.
І ты вымаўляеш слова.
І ён прамаўляе слова.
Няма ісціны ў нашых словах...

Але — я слова.
І — ты слова.
І — ён слова...
Словы знаёмяцца з намі,
Штораз забываючы нас,
Пакуль не сцвердзяцца нашы імёны...

НАШ

# Ігнат ДВАРЧАНІН



*1895 -- 1937*

# *Пра Ігната ДВАРЧАНІНА*

**Старыя прысады ў вёсцы Погіры, што на Слонімшчыне, відаць, ужо не ўспамінаюць высакалобага падхорцістага пастушка з заўсёднаю кніжкаю ў кайстры.**

**Выслізганы да паркетавага бляску брук пражскіх Градчанаў і пагатоў не памятае крокаў станістага універсітэцкага студэнта, што атрымаў тут годнасць доктара філасофіі.**

**Можа, згадваюць палымяныя прамовы пасла ў сейм ад Наваградскае акругі старонныя варшаўскія камяніцы?**

**Можа, жыве памяць пра маладога выкладчыка Беларускае гімназіі пад шатамі віленскіх паркаў, дзе музы нашэптваюць сваім абранцам сюжэты і вобразы адразу на паўтузіне моваў?..**

**Ды, здаецца, у жыццяпісе беларуса Ігната Дварчаніна пастаральныя адценні выглядаюць зусім недарэчна. Тут дамінуюць іншыя колеры.**





# БЕЛАРУСЫ НА ПРАСКІМ УНІВЭРСЫТЭЦЕ

## АД ЯГОНЫХ ЗАКЛАДЗІНАЎ ДА ПАЛОВЫ XVI СТАГОДЗЬДЗЯ*

Праблема вызваленьня беларускага народу ў сучасны мамэнт знаходзіцца ў самай непадзельнай сувязі з адраджэньнем беларускае нацыі, якая мусіць дамагацца агульначалавечых правоў перад «цывілізаваным грамадзтвам» Поймы «нацыя» й «народ» у беларусаў пакуль што ўжываюцца найчасьцей як сынонімы, а іх трэба адрозьніваць. nation — populus, die Nation — das Volk, the nation — the people.

Таму, каб выйсьці з стану «нацыі этнаграфічнай», побач з агульнымі заданьнямі сучаснага мамэнту, перад беларускім актывам паўстае пытаньне дасьледваньня свайго культурнага багацьця, захаванага пад попелам старасховаў. Адна зь цікавейшых бачынаў беларускага культурнага жыцьця ў мінулым гэта час пасьля ўсталеньня Беларусі як адзінага гаспадарства, калі яно пайшло шляхам набліжэньня да складу жыцьця Заходняе Эўропы Ня менш цікавы, зь іншага боку, і пачатак тое вялікае эпапэі ў змаганьні за новыя культурна-грамадзкія формы, якую адчыніла ў Эўропе гусыцкая рэвалюцыя Таму важна ўстанавіць і ступень удзелу ў гэтай эпапэі беларусаў, асабліва з увагі на жывыя сутыкі тагачаснай Беларусі з крыніцаю выбуху рэвалюцыі — Чэхіяй

Гэты артыкул мае на мэце закрануць справу сутычнасьці паміж чэскім і беларускім народамі ў дачыненьні да ў некаторай ступені агульнай Alma Mater — Праскага ўнівэрсытэту Дакладней: зьвярнуць увагу на далучэньне беларусаў да агульнага культурнага руху праз здабываньне вышэйшай асьветы на гэтым унівэрсытэце.

* Гэтая праца доктара Ігната Дварчаніна была напісаная каля 30 гадоў таму ў часе ягоных студыяў у Празе.

**1920 г. Зняволенне ў беластоцкім канцлагеры. Уцёкі.**

**1930 г. Зноў арыштаваны польскімі ўладамі. Прысуд — восем гадоў турмы.**

**1932 г. Абмен палітвязнямі паміж СССР і Польшчаю і кароткі глыток волі.**

**1933 г. Арышт органамі НКУС. Прысуд — дзесяць гадоў лагера.**

**1937 г. Расстрэл.**

**1956 г. Рэабілітацыя, пасля якой пацягнуліся доўгія гады амаль поўнага замоўчвання на Бацькаўшчыне.**

**Сакрат Яновіч надрукуе ў беластоцкай «Ніве» артыкул пад назваю «Ігната Дварчаніна нездзяйсненне».**

**А мо ўсё-ткі — здзяйсненне?**

**Узнёслыя вершы і нездзевальваваная часам публіцыстыка, сеймавыя прамовы і літаратурныя пераклады, блізкае знаёмства з Браніславам Тарашкевічам і сяброўства з Уладзімірам Жылкам, навуковыя артыкулы і дысертацыя «Францішак Скарына як культурны дзеяч і гуманіст на беларускай глебе», рукапіс якой захоўваецца ў Пражскім універсітэце, што з часоў Ягайлы і Яна Гуса чуў у сваіх бурсах і рэкрэацыях «ліцвінскую» гаворку...**

**Уладзімір АРЛОЎ**

## 1

Праскі ўнівэрсытэт заснаваны ў 1348 г. пры чэскім каралю Карле, які ведамы пад імем імпэратара Сьвятой Рымскай Імпэрыі Карла IV У той час беларусы перажывалі пару нутраной кансалідацыі паасобных княстваў у адно магутнае гаспадарства пры вялікім князю Альгердзе (летувіскую частку гаспадарства зьбіраў Кейстут). З гэтае прычыны сумніўна, ці Беларусь тады магла адразу пасылаць сваю моладзь у гэтую, толькі што закладзеную, цытадэлю веды Але факты, пададзеныя беларускімі летапісамі, сьведчаць пра тое, што чэскую мову ведаў Ягайла, а магчыма й Альгерд. Гэта ды даныя аб уплывах у тыя часы чэскай культуры на беларускую дазваляюць меркаваць, што Беларусь мела пэўную лучнасьць з Праскім унівэрсытэтам ужо ад самага пачатку

У верагоднасьці гэтага нас могуць пераканаць яшчэ гэткія факты

1 Праскі ўнівэрсытэт зараз-жа пасьля ягонага адчыненьня стаўся адным зь перадавых у Эўропе, побач з Парыскім, Оксфардзкім і Балёнскім.

2. Ён прыцягнуў да сябе гэтулькі моладзі з усяе Эўропы, што яму мог-бы пазайздросьціць ці адзін унівэрсытэт нашага часу.

3 Паводле некаторых вестак, беларусы каля гэтага часу здабывалі ўжо асьвету на ўнівэрсытэтах Захаду, прыкладам, у Балёнскім, ды тварылі там нават адзін з «ультрамантанных» (загорных) унівэрсытэцкіх народаў

4. Праскі ўнівэрсытэт быў да Беларусі найбліжэйшы

Гэтыя меркаваньні лягічна прыводзяць да думкі пра навучаньне беларусаў у Праскім унівэрсытэце ад самага пачатку Пэўна-ж весткі аб гэтым мы маем ужо з 1387 г., калі пры ўнівэрсытэце была закладзеная г зв «Літоўская калегія» Але, на жаль, з прычыны зьнішчэньня чэскіх культурных помнікаў у часе «крыжовых» войнаў з гусыцтвам за панаваньня першых Габсбургаў, ды асабліва ў Трыццацігодняю вайну, не засталося архіваў Калегіі, адкуль можна было-б дастаць найпэўнейшыя весткі* Цікава тут толькі адцеміць, што Гус на Канстанцкім саборы прыгадвае аб «русах» як аб сваіх вучнях і пасьлядоўніках.

## 2

Пазьней, калі з прычыны гусыцкага паўстаньня шмат хто з чужынцаў выехаў з Прагі і, найхутчэй з гэтае-ж прычыны, на пачатку XV ст быў абноўлены Кракаўскі ўнівэрсытэт, дык пры ім ужо адразу была адчыненая «руская» калегія і на ейнага кіраўніка прызначаны прафэсар з Прагі Ян Існэры, які раней належаў да кіраўніцтва «Літоўскай калегіі» ў Празе. Пад «русамі» разумеліся беларусы разам з украінцамі, якія, аднак, у гэты час перажывалі цяжкі палітычны крызыс.

Гусыцтва ня толькі ня спыніла выезду беларускай моладзі ў Прагу на вышэйшую навуку, а наадварот — Прага сталася адным з папулярнейшых месцаў Эўропы ў гэтым сэнсе. Праваслаўная Беларусь зь вялікім зацікаўленьнем сачыла за разьвіцьцём падзеяў у сувязі з гусыцтвам, якое мела агульнаэўрапейскі характар, ды жыва адгукалася на іх, становячыся выразна на баку чэхаў. Довадаў на гэта маем вялікі лік.

Даволі прыгадаць тут хоць-бы наведаньне Беларусі Геронімам Праскім, абраньне чэхамі за свайго караля Вітаўта, фактычную ўладу ў Чэхіі ягонага намесьніка Міхала Карыбута Северскага, які нават прыняў гусыцтва. Да гэтага належаць яшчэ весткі пра тое, што ў Табары было поўна «русаў» (беларусаў ды ўкраінцаў) і факт абраньня за караля Ўладыслава Казімеравіча Усё гэта апрацавана ўжо ў асобных манаграфіях.

Трэба мець на ўвеце, што ўнівэрсытэт у гэты час пачаў занепадаць і ў канцы XV ст. у ім застаўся бадай ці не адзін філязофскі факультэт і Liber decanorum падае весткі галоўна аб гэтым факультэце.

* Гісторыя праскай «Літоўскай Калегіі» ў скароце была гэткая: Ягайлава жонка каралева Ядвіга з парады свайго капэляна чэха Шчэкны наважыла дапамагчы выезду на студыі ў Прагу моладзі зь Вялікага Княства. Яна дала грошы, за якія быў куплены ў Празе адмысловы дом. У ім і мелася быць адкрытая «Літоўская Калегія» (бурса) на 12 студэнтаў. Але Ядвіга хутка памерла (1399), і таму Калегія была ўладжаная праз колькі гадоў пазьней. Дзеля гусыцкіх войнаў яна не змагла адыграць тае ролі, якая ёй была прызначаная. Аднак, як падае ў сваёй хроніцы Длугош, яшчэ ў другой палове XV ст Калегія існавала. Утрымлівалася яна тады галоўна колькімі вёскамі, купленымі блізка Прагі за «200 коп шырокіх грошаў праскіх», запісаных «вечным запісам» на гэтую мэту каралеваю Ядвігай. (*Прыпіска рэдакцыі «Запісаў».*)





Да гэтага мусім дадаць, што ў Liber decanorum толькі імёны тых, што скончылі факультэт ці то ў ступені бакалара ці магістра. Іншыя імёны, а іх напэўна было куды болей, загінулі для досьледу.

Трэба яшчэ таксама зацеміць, што адзначэньнем беларускага паходжаньня таго ці іншага магістра ці бакалара служыць толькі ягонае імя й прозьвішча, якія вельмі часта перакручаныя й нічога не гавораць. Таму мы бярэм тыя імёны, якія з гэтага гледзішча найбалей пэўныя, пакідаючы ўбаку імёны спрэчныя З прычыны немагчымасьці ў дадзены мамэнт карыстацца самой Liber decanorum, няможна паказаць гадоў, калі той ці іншы магістар або бакалар быў выпушчаны. Карыстаемся з выпіскаў, зробленых для іншай мэты. Рымскія лічбы паказваюць частку кнігі (Liber ..), арабскія — бачыны, на якіх гэтыя асобы згадваюцца. Вось гэтыя прозьвішчы

1. Dionysius de Smolnycz (відаць, з Смаленску), I, 220.
2 Gabriel Czobot (прозьвішча беларускае ці ўкраінскае), I, 185
3. Joannes de Plocek (так называўся Полацк; Плоцк быў тады малым гарадком), I, 262.
4. Mathias Czobot, I, 317, 318, 347, 368.
5. Mathias de Plocek, I, 222, 241, 256.
6. Mathias de Wilna, I, 382, 397
7 Nicolaus Czobot, I, 165, 213, 205.
8. Nicolaus de Dessna (зь Дзясны), I, 446, 447.
9 Nicolaus Welneri (магчыма, таксама зь Вільні), I, 184.
10. Petrus de Plocko, I, 329
11. Petrus de Policz (магчыма, таксама з Полацку), I, 138.
12 Christophorus de Litwania, I, 367
13. Elias Styrkobskya Wolonicz (зь ведамага беларускага роду), II, 432, 444.
14. Paulus de Podlessko (з Падляшша), I, rog.
15. Markus de Luthonia (імя Марка прамаўляе за праваслаўнасьць), I, 287
16. Marcus de Luthonia, I, 377 g
17 Michael de Luthonia, I, 404, 418, 419, 429, 438, 445.

Ёсьць яшчэ гэткія, як Sythuania, якія падыходзяць да згаданых de Lithuania. Апрача гэтага, шмат прозьвішчаў ёсьць з допісам Orient (усходні) і Crhunensis Crha (па-чэску Кірыла), якія таксама могуць нам нагадваць беларусоў, але, з прычыны няпэўнасьці, апушчаем іх, як і імёны шматлікіх украінцаў з Валыні ды Галіччыны.

Падсумоўваючы, можам сьцьвердзіць, што за XV і ў першай палове XVI ст. толькі адзін філязофскі факультэт Праскага ўнівэрсытэту скончылі каля 17 беларусаў Гэта, бязумоўна, ня ўсё. Шмат губляецца для нас у няясных, перакручаных імёнах, ды шмат вучылася на іншых факультэтах.

Вось у канцы, для прыкладу, яшчэ адзінаццаць прозьвішчаў, зь якіх некаторыя маглі-б таксама быць прозьвішчамі асобаў зь Беларусі.

1. Joannes Bahdonensis, II, 390 (прозьвішча ад праваслаўнага імя Багдан — Багдановіч).
2. Joannes Orient, I, 418.
3 Joannes Ruthardi de Montinus (нібы «рус з гораў»), I, 348-9.
4. Georgius Harownik, II, 280 (прозьвішча, вельмі падобнае да беларускіх).
5. Ingemarus de Arosia, I, 225.
6. Joannes de Arosia, I, 314.
7. Paulus Lithanicus Raconicenius (нібы «Паўла ліцьвін з Аўстрыі»), II, 432
8. Franciskus de Sythania, I, 172-3.
9. Franciskus de Litania, I, 256.
10 Jacobus de Arosya, I, 386, 397
11. Jacobus Rusbach, I, 211.

**Ігнат ДВАРЧАНІН**

*«Запісы Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва».*
*N 2. 1953.*

# ЁН Герман ГЕСЭ



*Мы ідзём да заняпаду... ужо не выпадзе нам на долю нічога больш узнёслага, больш цудоўнага і жаданага, чым выпала дагэтуль... Блізіцца крытычны час, ува ўсім ужо відаць яго прыкметы і знак, свет мерыцца зноў перанесці свой цэнтр цяжару...*

**З паслання Магістра Гульні**





# ГУЛЬНЯ ШКЛЯНЫХ ПЕРЛАЎ

## Спроба ўсім дастунных уводзін у яе гісторыю

*(Урывак)*

**...non entia enim licet quodammodo levibusque hominibus facilius atque incuriosius verbis reddere quam entia, verumtamen pio diligentique rerum scriptori plane aliter res se habet: nihil tantum repuqnat ne verbis illustretur, at nihil adeo necesse est ante hominum oculos proponere ut certas quasdam res, quas esse neque demonstrari neque probari potest, quae contra eo ipso, quod pii diligentesque viri illas quasi ut entia tractant, enti nascendique facultati paululum appropinquant.**

Albertus Secundus
tract. de cristall. spirit. ed.
Clangor et Collof.
lib. I, cap. 28.

*У рукапісным перакладзе Ёзэфа Кнэхта:*
**...бо хай і легкадумныя людзі лічаць, быццам няіснае ў пэўным сэнсе лягчэй і безадказней выявіць праз словы, чым існае, аднак для богабаязнага і сумленнага гісторыка ўсё якраз наадварот: нішто так не ўнікае выяўлення праз слова і нішто з такой мусовасцю не вымагае суду людскога, як некаторыя рэчы, існаванне якіх гэтак жа нельга даказаць, як і прыняць за пэўнасць, але якія менавіта таму, што богабаязныя і сумленныя людзі бачаць іх у пэўным сэнсе як бы існымі, хоць на крок набліжаюцца да свайго быцця і да самой магчымасці свайго нараджэння.**

Альберт Другі[1].
Тракт. пра крыштал. дух.
Выд. Клангор і Колаф. I,
раздз. 28 (*лац.*).

## Пра Яго

**1877** — *нарадзіўся ў невялікім швабскім гарадку Кальве, што на поўдні Германіі, у сям'і пратэстанцкага прапаведніка (бацька Гесэ паходжаннем з Прыбалтыкі; і бацька і маці ўдзельнічалі ў місіянерскіх вандроўках піетыстаў па Індыі, шанавалі ўсходнюю філасофію);*

**1891** — *паступае ў Маўльбронскую семінарыю, дзе рыхтавалі тэолагаў; у сакавіку 1892-га збег, не вытрываўшы тэалагічнай муштры і прыняволення духу; больш нідзе стала не вучыўся здабываў веды самавукам, па большасці — чытаннем класічнай літаратуры і філасофскай спадчыны (пазней даследчыкі будуць сцвярджаць, што для свайго часу Герман Гесэ быў адным з самых начытаных пісьменнікаў);*

**1892—1899** *працуе вучнем у механічнай майстэрні і на фабрыцы вежавых гадзіннікаў у Кальве, затым — паступае вучыцца і працаваць у кніжны гандаль у Цюбінгене, дзе праз тры гады атрымлівае дыплом кнігагандляра (такі вопыт у кнігагандлі раней здабыў толькі Эміль Заля). Той вопыт спатрэбіцца Гесэ пазней, калі ён пачне выдаваць уласныя кнігі;*

**1899** *пасяляецца ў Базелі, і з гэтага часу нейтральная Швейцарыя фактычна станецца для Гесэ другой радзімай, дзе ён пражыве ўсё жыццё; літаратурны дэбют: невялічкі зборнік вершаў «Рамантычныя песні» (аб змесце кажа сама назва);*

**1901** *выхад у свет «тыпова неарамантычнага» празаічнага твора «Герман Лаўшар» (уяўляе сабой суплёт празаічных урыўкаў, вершаў, дзённікавых запісаў);*

**1904** — *аповесць «Петэр Каменцынд» (выдаецца ў Берліне ў выдавецт-*

# МАЙСТАР ГУЛЬНІ

## *Спроба тлумачэння Германа ГЕСЭ*

**На беларускую мову перакладзены толькі адзін буйны твор Германа Гесэ — раман «Гульня шкляных перлаў» («Das Glasperlenspiel», 1943). Што да эсэістыкі і эпісталярнай спадчыны пісьменніка, дык пазнаёміцца з імі беларускі чытач мог толькі праз пасярэдніцтва іншых моў альбо чытаючы Гесэ ў арыгінале. Між тым выключная значнасць Гесэ для літаратуры і гуманістычнага мыслення XX стагоддзя вымагаюць пільнай увагі да гэтай постаці і адпаведнага яе асэнсавання. Не лішне адзначыць, што стэрэатыпныя трактоўкі Гесэ расейскімі перакладчыкамі і крытыкай на сёння не могуць лічыцца адэкватнымі.**

**Справа ў тым, што з наяўных літаратуразнаўчых тлумачэнняў Гесэ паўстае як звыклы «рэаліст» і нават «рамантык», схільны да «сентыменталізму» і «гульні формай». Аніяк не зразумела, ці ўсё-такі Гесэ — «рэаліст», г.зн. мастак навочнай рэчаіснасці, ці ўсё-такі «летуценнік», г.зн. вяшчун рэальнасці надрэчаіснаснай, «патойбочнай». З гэтым трэба разабрацца.**

**Найперш Герман Гесэ — гэта клубок загадак, і каментарыі да яго твораў (што напісаны пасля 1917 года — і справа тут не ў рэвалюцыі ў Расіі), калі б яны былі зроблены, аказаліся б не меншымі, чым расшыфраванне**

..Дарэмна было б вымагаць ад нас поўнага выкладу ўсёй гісторыі і тэорыі Гульні; такая задача не па сіле нават больш спрактыкаваным і вартым за нас. Рашыць яе дазволім будучым пакаленням, калі толькі да іх часу захаваюцца крыніцы і духоўныя патрэбы Яшчэ менш наша праца можа служыць падручнікам Гульні — ён увогуле ніколі не будзе напісаны. Правілы гэтай выключнай Гульні засвойваюцца толькі звычайным, статутным спосабам, на што ідуць гады і гады, і нікому з выбраных і дапушчаных не прыйдзе ў галаву спрашчаць або палягчаць працэс іх засваення

Гэтыя правілы, мова знакаў і граматыка Гульні — не што іншае, як дасканала развіты тайнапіс, укладаюць яго розныя навукі і мастацтва, асабліва матэматыка і музыка (адпаведна і музыказнаўства), гэты тайнапіс можа выявіць і ўзаемна ўвязаць сэнс і вопыт амаль усіх навуковых дысцыплін. Такім чынам, наша Гульня шкляных перлаў — гэта гульня з усімі сэнсамі і каштоўнасцямі нашай культуры, майстар гуляе з імі, пацвельваецца, як у эпоху росквіту жывапісу мастак гуляў фарбамі сваёй палітры. Усім, што ў свае творчыя эпохі чалавецтва стварыла ў сферы пазнання, высокіх намыслаў, мастацтва усім, што стагоддзямі замацоўвалася ў навуковых формулах і стала агульным інтэлектуальным здабыткам,— усім гэтым неверагодна багатым духоўным скарбам майстар Гульні валодае, як арганіст сваім арганам, і арган гэты такі неверагодна дасканалы, што і ўявіць сабе цяжка, яго клавіятура і педалі ўзнаўляюць увесь духоўны космас, яго рэгістры амаль незлічоныя, тэарэтычна на такім інструменце можна рэпрадукаваць усё духоўнае змесціва сусвету < ..>

Як і ва ўсіх вялікіх ідэях, у Гульні па сутнасці няма пачатку, яе ідэя вечная Як ідэю, як нейкае прадчуванне альбо жаданы ідэал мы знаходзім правобраз Гульні яшчэ ў старажытнасці, напрыклад, у Піфагора, пасля на спадзе антычнай культуры — у гнастычных колах элінізму, не радзей у кітайцаў, пазней — у перыяды найвышэйшых узлётаў духоўнага жыцця арабска-маўрытанскага свету, а тады ўжо сляды яе перадгісторыі вядуць праз схаластыку і гуманізм да матэматычных акадэмій семнаццатага і васемнаццатага стагоддзяў, аж да філосафаў рамантызму і рунаў з магічных крозаў Наваліса. У аснове руху духу да запаветнай мэты — universitas litterarum[2]. У аснове ўсякай платонаўскай акадэміі, усякіх зносін інтэлектуальнай эліты, усякай спробы зблізіць дакладныя і гуманітарныя навукі, замірыць навуку з мастацтвам або навуку з рэлігіяй мы бачым адну і тую самую ідэю, якая набыла канкрэтныя рысы ў Гульні шкляных перлаў. Такія слупы духабачання, як Абеляр, Лейбніц, Гегель, яўна выношвалі мару — увесці духоўны універсум у канцэнтрычныя сістэмы, злучыць жывое хараство духоўнасці і мастацтва з магіяй формул, з лаканізмам дакладных дысцыплін. Калі музыка і матэматыка амаль адначасова перажывалі сваю класічнасць, часта можна было бачыць, як па-сяброўску збліжаліся і ўзаемна апладняліся абедзве сферы. <...>

...Мы лічым таксама, хоць і не можам падмацаваць гэтага цытатамі, што ідэяй Гульні былі апанаваны і тыя вучоныя музыкі шаснаццатага, семнаццатага і васемнаццатага стагоддзяў, якія клалі ў аснову сваіх кампазіцый матэматычныя абстракцыі У літаратурах мінуўшчыны сюд-туд натыкаешся на легенды пра мудрыя і чарадзейныя гульні, якія ўзнікалі і жылі сярод вучоных манахаў альбо пры двары якога-небудзь духаводнага князя, напрыклад, у форме адмысловых варцабаў — шахматаў, у якіх фігуры і палі мелі апроч звычайных значэнняў яшчэ і іншы, патайны сэнс. Шырокавядомыя і тыя паведамленні, паданні і сагі з дзяцінства ўсіх культур, у якіх музыцы прыпісваюць апрача яе мастацкага ўздзеяння магічную ўладу над душамі людзей і народаў і ператвараюць яе ў тайную законаўкладальніцу або рэгентку людзей і іх дзяржаў. Думка пра ідэальнае нябеснае жыццё людзей пад гегеманіяй музыкі іграла сваю ролю ад старажытнага Кітая да міфаў грэкаў З такім культам музыкі («і ў вечных пераўтварэннях вітае нас існа напеву таемная ўлада» — Наваліс) самым цесным чынам звязана і Гульня шкляных перлаў.

Аднак, хоць мы і прызнаём ідэю Гульні вечнай, а гэта азначае, што яна жыла і заявіла пра сябе задоўга да свайго рэальнага здзяйснення, усё ж у вядомай нам форме яна мае сваю пэўную гісторыю, пра самыя важныя этапы якой мы паспрабуем цяпер збольшага расказаць.

*ве С.Фішара; шмат якія творы Г.Гесэ будуць надалей выдадзены С.Фішарам). Гесэ здабывае і вядомасць, і матэрыяльнае апірышча.*

*У гэты ж год пісьменнік бярэ шлюб з ураджэнкай Базеля Марыяй Бярнулі і набывае ўласны дом у мястэчку Хаенхофэн ля Бадэнскага возера (трохі пазней уласнаруч будуе новы — свой! — дом). У Хаенхофэне Гесэ пражыве каля васьмі гадоў, тут у яго народзяцца тры сыны;*

**1906** — *аповесць «Пад коламі» («тыпова рэалістычны» твор пра нямецкую сістэму адукацыі — даніна часам, праведзеным у тэалагічнай семінарыі);*

**1907** — *пачынае ўдзельнічаць у выданні часопіса «Мэрц» (Мюнхен), апазіцыйнага да рэжыму Вільгельма II Часопіс выходзіць да 1912 года;*

**1911** — *падарожжа ў «краіну Усходу» Індыю. Вяртаецца адтуль хворым і стомленым (у 1913-м выходзяць нататкі Гесэ «Аб Індыі», у 1922-м — паэма ў прозе «Сідхартха»);*

**1910, 1914** *раманы «Гертруда» і «Росхальд» (абодва прысвечаны тэме мастацтва і адзіноты мастака). Адначасна працягвае пісаць лірычныя вершы, апавяданні пра нямецкія гарадкі і іх дзівакаватых жыхароў;*

**1914** — *першы супрацьваенны артыкул Гесэ ў «Новай цюрыхскай газеце» (3.11.) — «Ах, таварышы, досыць гэтых гукаў!» (словы рэчытатыву з Дзевятай сімфоніі Бетховена). Распачалося цкаванне пісьменніка ў германскім друку. У падтрымку выступілі Рамэн Ралан, супольнікі па выдавецкай справе.*

*За часы вайны Гесэ надрукаваў шэраг супрацьваенных, пацыфісцкіх артыкулаў, бароначы справу культуры і гуманізму (у войска Гесэ не ўзялі з-за дрэннага зроку, усю вайну ён працаваў у Берне ў таварыстве, што дапамагала нямецкім ваеннапалонным);*

**1915** — *выдаецца аповесць «Кнульп»;*

**1917—1919** — *пара надзвычайнай грамадскай актыўнасці Гесэ, што звязана з працай у таварыстве дапамогі ваеннапалонным, «пара абуджэння», як назаве яе сам пісьменнік, пачатак «шляху да самаснасці» (***Eigensinn** *собіць перакласці менавіта як «самаснасць», а не «нутро», як у расейскім перакладзе). Гесэ з асаблівай увагай звяртаецца да псіхааналізу; яшчэ раней ён пазнаёміўся з працамі З.Фрэйда і К.-Г Юнга (у апошняга, бацькі «аналітычнай псіхалогіі», асабліва шанаваў «Метамарфозы і сімвалы лібіда» і «Псіхалагічныя тыпы»), а ў 1916 годзе знаёміцца з вучнем Юнга, цюрыхскім урачом доктарам І.-Б.Лангам — той правёў з Гесэ больш за сто сеансаў псіхааналізу.*

*Ад тае пары Гесэ чытае і рэцэнзуе ледзь не ўсю новую псіхааналітычную літаратуру, якая ў сваю чаргу спрыяла ўмацаванню і выпраўленню яго духоўнага стану, абумовіла «шлях унутр». У 1921 годзе Гесэ асабіста знаёміцца з К.-Г.Юнгам,*

**1919** *цяжкая псіхалагічная хвароба жонкі Гесэ, распад сям'і (плён тае пары — зборнік эсэ з красамоўнаю назвай «Заглядваючы ў хаос», 1920). Пераезд пісьменніка на жыхарства ў мястэчка Мантаньёла паблізу Луганы. Тут, у Мантаньёле, Гесэ і пражыве ўсё астатняе жыццё (калі не лічыць паездак па Швейцарыі і Германіі з лекцыямі) У 1923 годзе пісьменнік адмаўляецца ад германскага грамадзянства і бярэ грамадзянства швейцарскае, канчаткова ўсвядоміўшы нетрываласць Веймарскай рэспублікі і прадчуўшы змрочныя перспектывы ў развіцці германскай дзяржавы. У германскай прэсе ўсчынаецца другая хваля цкавання Гесэ — пад зніштажальным ракурсам пераглядаецца яго творчасць, што быццам (так пісалі ў Германіі) «расчысціла шлях для ўсходняга варварства», ганьбіцца «здрадніцкі эстэтызм»*

**ўтоеных цытат, прамых ці скажоных рэмінісцэнцый і адкрытых алюзій у творах Хорхе Луіса Борхеса. І менавіта Борхеса след лічыць вучнем Германа Гесэ, а не Гесэ — папярэднікам Борхеса. Борхес, калі заўгодна,— гэта Гесэ ў позняй стадыі сваёй творчасці; дзівакаваты стары казачнік, што грэецца ля ўтульнай галандскай печы і прыдумвае пад настрой белетрызаванья і надта мудрагелістыя культуралагічныя «рэбусы»... Гесэ і Борхес — дзве выдатныя постаці, што ў літаратуры XX стагоддзя стаяць упаасобку і наводдаль ад стратэгічных пошукаў авангардызму ва ўсіх яго разнавіднасцях. Гесэ і Борхес адразу перакрочылі авангардысцкі гармідар і апынуліся класікамі постмадэрнізму — найноўшага літаратурнага мыслення і адпаведнай мастацкай практыкі. Менавіта таму ў тлумачэннях і таго і другога непазбежна адчуваецца нейкая, амаль метафізічная, недагаворанасць і невымоўнасць. Невымоўнасць, што ідзе ад недаспасцігнутасці. Тут варта больш пільна прасачыць некаторыя біяграфічныя моманты ў лёсе Г.Гесэ, яўна недаацэненыя крытыкай раней.**

**Да 1917 года, акурат да сваіх 40 год, Гесэ сапраўды лічыўся «рэалістам» і «рамантыкам», і яго творы нічым прынцыповым, апроч, бадай, стылістыкі, з неарамантычнай хвалі ў нямецкай літаратуры не вылучаліся. Так, цэнтральным героем яго аповесцяў і апавяданняў стаў чалавек-адзінотнік, зазвычай мастак альбо вандроўнік, але творчая манера Гесэ радыкальна ад зазвыклага аповеду не адрознівалася... Адзначым наступную акалічнасць: з дзяцінства Герман Гесэ ўзгадоўваўся пераважна на кніжнай культуры і трохі наіўным гуманізме піетысцкага кшталту (паколькі бацькі былі евангельскімі місіянерамі). Гэта, з аднаго боку, заклала ў свядомасць хлопчыка глыбокую пачцівасць — дый проста веды — да сусветных рэлігій і філасофіі; з другога — кніжны досвед у пэўным сэнсе запаланіў яго свядомасць і «самаснасць». Блізка два дзесяцігоддзі пісьменнік патраціў на змаганне з «магіяй кнігі» і да канца яе так і не адолеў... З аднаго боку, яго ўнутраны кніжны Манблан неўнікнёна павялічваўся, разрастаўся да памераў магутнай свядомаснай імперыі; з другога — усё больш прыгнечвалася запаветнае пісьменніцкае «я», наспяваў канфлікт паміж «кніжнай» свядомасцю і ўнутраным «я»...**

**Аднак спачатку Гесэ мусіў прайсці спакушэнне той славутай навочнай рэчаіснасцю, якой спяваў гімны рэалізм, пакаштаваць ціхамірнай слодычы бюргерскага жыцця і быту (праз гэта спакушэнне небезвынікова прайшоў і малады Томас Ман — сведчаннем таму раман «Будэнброкі»). Гесэ досыць хутка, на пачатку 1900-х, стаў прызнаным нямецкім пісьменнікам, пашанотным паэтам-рамантыкам, аўтарытэтным крытыкам і кнігавыдаўцом. Наладзілася асабістае жыццё (гл. «Пра Яго»), раслі дзеці. Але, відаць, метафізічная, надбыццёвая планіда для Гесэ была наканавана інакшай, чымсьці эстэтызацыя, хай і вельмі таленавітая, вартасцяў бюргерскага жыцця. На пачатак першай сусветнай вайны Гесэ даўно забыўся на спакой і лагоду (і прычына разладу далёка не ў вонкавых чынніках; вайна толькі абвастрыла наспе-**

*«Сідхартхі», «беспрынцыпнасць» і «здрада» пісьменніка радзіме... Фактычна, ад пачатку 1920-х і надалей у Германії Гесэ робіцца персонай нон грата;*

**1919—1923** — *удзельнічае ў выданні часопіса «Vivos voco», адрасаванага найперш моладзі; «моладзі» адрасавана і першая аповесць «пары абуджэння» «Дэміян», наступныя за ёю — аповесці «Душа дзіцяці», «Клейн і Вагнэр», «Апошняе лета Клінгздара»;*

**1924** — *бярэ другі шлюб — з маладой базельскай спявачкай Рут Венгер. Праз колькі тыдняў шлюб распадаецца і Гесэ зноў вяртаецца ў Мантаньёлу, каб спазнаваць адзіноту і пакінутасць. Наплываюць думкі аб самагубстве... Плён тае пары — зборнік паэзіі «Крызіс. Вынятка з дзённіка Германа Гесэ»,*

**1925** — *аповесць «Курортнік»;*

**1926** *зноў псіхааналітычныя гутаркі з доктарам І.-Б.Лангам. Большую частку гэтай зімы Гесэ праводзіць ва універсітэцкай бібліятэцы ў Базелі, складаючы анталогію «Класічнае стагоддзе нямецкага духу. 1750—1850» (ажыццявіць выданне не ўдалося; падчас вайны зніклі рукапісы трыццаці тамоў анталогіі). Гэтай жа парой амаль пяцідзесяцігадовы Гесэ бярэ ўрокі модных па тым часе амерыканскіх танцаў, захапляецца джазавай музыкай... Яго часцяком бачаць на святочных карнавалах і маскарадах Цюрыха;*

**1927** — *скончаны і выдадзены знакаміты раман «Стэпавы воўк»,*

**1927** — *у Цюрыху лёс зводзіць Гесэ з мастацтвазнаўцай Нінон Дольбін (Аўслендэр), якая становіцца яго вернай спадарожніцай і затым жонкай (1931). З-за жонкі-яўрэйкі германскі друк зноў бэсціць Гесэ за «здраду свяшчэнным садам германскага ідэалізму, германскай веры і германскай аддаласці...» У 1931 годзе Гесэ пакідае Прускую акадэмію, сябрам якой не без ваганняў стаў у 1926 годзе;*

**1930** *выходзіць раман «Нарцыс і Гальмунт»,*

**1931** *напісана знакамітая аповесць «Паломніцтва ў краіну Усходу» — ці не самы эзатэрычны і «кніжны» твор Гесэ. Пераезд у новы дом — у Мантаньёле ж,— што падараваў пісьменніку яго сябра і мецэнат урач Г.Бадмер, дом пазней атрымаў назву «Дом Гесэ»,*

**1930** — *пачынаецца праца над найзнакамiцейшым філасофскім раманам XX стагоддзя «Гульня шкляных перлаў». У 1942-м годзе раман скончаны. У 1943-м выходзіць у Цюрыху (няскончаным застаўся чацвёрты жыццяпіс Ёзэфа Кнэхта);*

**1946** — *прысуджана Нобелеўская прэмія. У 40-х — 50-х гадах пісьменнік становіцца лаўрэатам шматлікіх літаратурных прэмій, ганаровым сябрам безлічы акадэмій, таварыстваў, з'адзіночанняў і гуртkoў, атрымлівае процьму прызнанняў і пашаноты...*

*Да апошніх дзён жыцця (памёр пісьменнік у Мантаньёле ў 1962-м) Гесэ, хворы на вочы, на рэўматызм, іншыя недамогі, піша лісты, эсэістычную прозу, адказвае на літаратурныя анкеты. Шырока практыкуе «Лісты па крузе» абагуленыя адказы сваім чытачам. У канцы 60-х першай палове 70-х гадоў творы Германа Гесэ здабываюць мільённыя тыражы ў Злучаных Штатах Амерыкі і ў Японіі, а сам пісьменнік робіцца стодам хіпі, кумірам прыхільнікаў «контркультуры»...*

*У Беларусі выдадзены толькі адзін раман Г. Гесэ — «Гульня шкляных перлаў» у перакладзе В Сёмухі. Эсэістыку Г Гесэ перакладае таксама М Сяднёў (гл. «Масеева кніга», Мн., 1994).*

Падрыхтаваў Юрась ЗАЛОСКА.

Духоўны рух, вынікам якога былі заснаванне Ордэна і Гульня шкляных перлаў пачаўся ў той гістарычны перыяд, які з часоў фундаментальных прац гісторыка славеснасці Плінія Цыгенхальса[3] носіць уведзенае памянёным славеснікам найменне «фельетаністычная эпоха» Такія назвы вельмі прыгожыя, але і небяспечныя; яны спакушаюць на несправядлівыя ацэнкі мінулых эпох чалавецтва і прымушаюць нас удакладняць: «фельетаністычная эпоха» зусім не была эпохай бездухоўшчыны альбо хоць бы духоўна беднай. І ўсё ж, зноў паводле Цыгенхальса, эпоха гэтая не ведала, што рабіць са сваёй духоўнасцю, ці, правільней, не ведала, як вызначыць духу вартае месца ў структуры жыцця дзяржавы Шчыра кажучы, мы кепска ведаем гэтую эпоху, хоць менавіта на яе глебе вырасла ўсё тое, што сёння характарызуе наша духоўнае жыццё. <. .>

Пачынаючы ад схілу сярэднявечча, духоўнае жыццё Еўропы выявілася ў дзвюх асноўных тэндэнцыях: вызваленне думкі і веры з-пад уплыву любых аўтарытэтаў, інакш кажучы, барацьба розуму супроць панавання Рымскай царквы, розуму, які ўсвядоміў сябе паўнапраўным і суверэнным, і, з другога боку, патаемная, але тым больш пільная патрэба розуму ва ўзаконенні гэтай яго свабоды, у новым аўтарытэце, які б зыходзіў з яго самога і быў яму адэкватны Падсумоўваючы, можна смела сказаць. у цэлым дух узяў верх у гэтай часам надзіва супярэчлівай барацьбе ў імя дзвюх прынцыпова палярных мэт <. .> Дух цалкам скінуў з сябе апеку царквы, а часткова і дзяржавы і ў канцы «фельетаністычнай эпохі» здабыў нечуваную і для яго самога нясцерпную свабоду, аднак ён так і не знайшоў сфармуляванага ім самім і паважанага закону, новага аўтарытэту, праўдзівай легітымнасці так і не здабыў Далібог, дзіву даешся з прыведзеных Цыгенхальсам прыкладаў прадажнасці і самапаганьбення духу ў тыя далёкія часы

Шчыра кажучы, не можам мы даць адназначнай дэфініцыі таго прадукту, па якім мы называем усю эпоху эпохай «фельетона» Складваецца ўражанне, што «фельетоны» як асабліва папулярныя публікацыі ў штодзённых газетах прадукаваліся мільёнамі і былі галоўнай духоўнай спажывай прагнай да адукацыі публікі, што яны трактавалі ці, правільней кажучы, «абсмоктвалі» ўсялякія прадметы ведаў і, як нам здаецца, самыя разумныя фельетаністы самі пакепвалі са сваёй працы. <...> Найбольш папулярны матэрыял такіх артыкулаў — анекдоты з жыцця і перапіскі славутых людзей, мужчын і жанчын, мільгалі прыкладна такія загалоўкі «Фрыдрых Ніцшэ і дамскія моды ў сямідзесятыя гады дзевятнаццатага стагоддзя», «Любімыя стравы кампазітара Расіні» або «Роля пакаёвых сабачак у жыцці славутых куртызанак» і г д. Вялікая любоў прыпала таксама на долю псеўдагістарычных опусаў на тэмы салонных гутарак, напрыклад. «Векавечныя мары пра штучны выраб золата і відазмяненні іх на працягу стагоддзяў» альбо «Спробы хіміка-фізічнага ўздзеяння на надвор'е» і г.д. Перакладаючы прыведзеныя Цыгенхальсам загалоўкі такіх мудраванняў, мы дзіву даёмся не так таму, што знаходзіліся людзі, якія дзень у дзень глыталі такую бурду, як таму, што аўтары з імем, уплывам і не абы-якой адукацыяй пасаблялі, як гэта тады называлася, «абслугоўваць» неверагодны попыт на займальную лухту; тэрмін гэты азначаў, між іншым, і колішнія адносіны чалавека да машыны. <...> Як мы ўжо казалі да такой рупнасці, мусіць, дамешвалася добрая шчэпця іроніі, гэта была дэманічная іронія, іронія роспачы, нам цяжка асэнсаваць усё гэта; што ж да процьмы недасведчаных, якія ў тыя часы проста-такі прападалі за чытаннем, дык усе тыя гратэскі яны прымалі на чыстую веру <...> Манера падачы гэтых матэрыялаў была пазначана пячаткай «шырспажыўнага» тавару, выробленага ў спеху і пры поўнай безадказнасці Далей, да сферы фельетанізму, як нам здаецца, трэба залічыць і некаторыя гульні, на якія запрашаліся і без таго перакормленыя пазнаваўчым матэрыялам чытачы, пра што сведчыць шырачэзны экскурс Цыгенхальса ў дзівосны феномен —«красворды» Тысячы спрацаваных і змораных цяжкім жыццём людзей у хвіліны адпачынку, каб вы ведалі, сядзелі над квадратамі і крыжамі і ўпісвалі ў іх, як таго вымагалі правілы гульні, розныя літары. Не будзем, аднак, спяшацца разглядаць гэта як смяхотную і дзівацкую вычуду, устрымаемся ад кепікаў Людзей, якія гулялі ў гэтыя дзіцячыя гульні-загадкі, чыталі гэтыя фельетоны, ані ў якім разе нельга назваць наіўнымі дзецьмі альбо ахвочымі да ўсякіх забаў феакійцамі,

**лую ўнутраную драму), жыве ў стане канфлікту са знешнім асяроддзем, больш таго,— небяспечна канфліктуе з самім сабой. Ужо некалькі год, як ён не жыве з жонкай; сялянская ідылія Хаенхофэна засталася ў мінулым. Не дапамаглі прымірыцца са светам і самім сабой і вандраванні на Усход, у Індыю... На 40-гадовым рубяжы Гесэ спасцігае глыбачэнны псіхалагічны крызіс — і крызіс творчы. Ён знаходзіцца на мяжы самагубства (аб гэтым не адно прызнанне ў пазнейшых творах, у тым ліку і ў рамане «Стэпавы воўк»)...**

**Толькі дзве рэчы ўратавалі будучага аўтара «Гульні шкляных перлаў»: сама «кніжная» свядомасць, што змушала шукаць выйсця рацыянальным, «філасофскім» шляхам — а не паддавацца ірацыянальнай стыхіі паняверкі, — і псіхааналіз, што акурат на той час трывала асталяваўся як найноўшая інтэлектуальная плынь, у якой даваліся адказы і на медыцынскія, і на філасофскія, і нават на эстэтычныя пытанні. Шчасце лёсу Гесэ ў тым, што для яго асабістага ўратавання як чалавека і як пісьменніка своечасова саспеў псіхааналіз. А Гесэ ў сваю чаргу стаўся ўдзячным і... таленавітым яго, псіхааналізу, пацыентам! Псіхааналіз дапамог яму развязаць той даўні канфлікт «кніжнай» свядомасці з унутраным «я», з аднаго боку, і — пераадолець (у творчасці) наркатызуючую ўладу той славутай навочнай рэчаіснасці, звярнуцца да рэчаіснасці «ўнутранай», пайсці «шляхам унутр» (гэтак сам Гесэ вызначыў сваю эвалюцыю пасля крызісу; крызіс, між тым, доўжыўся да сярэдзіны 20-х). Па сутнасці, гэты мастак-мысліцель прыйшоў у XX стагоддзе, каб прымірыць «філасофію» з «жыццём», «тэорыю» з «практыкай», «ідэалы» з «дадзенасцю».**

**Але не толькі свае асабістыя праблемы вырашаў Гесэ, штудуючы псіхааналіз, працы З.Фрэйда і асабліва К.-Г.Юнга (менавіта праўдзівым адэптам апошняга, а не Фрэйда, як піша расейская крытыка, ён і стаў, але пра гэта падрабязней — пасля). У асобе Германа Гесэ мы маем, так бы мовіць, перажывальшчыка за ўсё чалавецтва. Гесэ прыйшоў у XX ст., каб вырашаць яго сутнасныя духоўныя пытанні (і ў жыцці, і ў літаратуры). Яго асабісты лёс і мастацкую творчасць пасля крызісу 1917 г вызначала змаганне з розумам — з тым усеабдымным Розумам, што запаланіў быў не толькі асабістую свядомасць пісьменніка, але і свядомасць усяго чалавецтва, свядомасць агульналюдскую. «Розумавы палон» чалавецтва — вось з чым насампраўдзе змагаўся Герман Гесэ, змагаючыся, здавалася б, толькі за самога сябе... І галоўнымі ворагамі Спадара Розуму — а, значыць, і XX стагоддзя, як абшару, палоненага Розумам, — сталі псіхолаг і культурфілосаф К.-Г.Юнг і ягоны пацыент, пісьменнік і паэт Г.Гесэ. Іх лёсы перакрыжаваліся не выпадкова: Юнг таксама змагаўся з засіллем Розуму за вызваленне з-пад яго ўлады Душы. Юнг бачыў, што рацыяналізацыя духоўнасці закрывае чалавецтву неабходны доступ да «Душы», да тае запаветнае чалавечае сутнасці, без зносін з якой чалавек губляе сваю ўласную існасць, існасць сваёй прыроды, і чалавецтва з цягам часу можа ператварыцца ў паслухмяную «масу», абездухоўлены статак, падуладны фатальным псіханеўралагічным захворван-**

насць і шчырае імкненне да яснай адназначнай фармулёўкі якраз і штурхалі да разладу. Але да разладу яшчэ не дайшло. Рым то спрыяў Гульні, то асуджаў яе і гэтым удастаткоўваўся, у кангрэгацыях і сярод вышэйшага кліру самыя светлыя галовы не цураліся Гульні Ды і сама Гульня, з таго часу як Гульні сталі адкрытыя і быў назначаны Magister Ludi, была пад аслонай і апекай Ордэна і Выхаваўчай калегіі, а той і тая ў адносінах да Рыма заўсёды былі — сама рыцарскасць. Папа Пій XV[11], які, яшчэ ў сваім кардынальстве, праславіўся як вопытны і руплівы майстар Гульні, а як стаў папам, дык не толькі, як і папярэднікі, назаўсёды развітаўся з Гульнёй, але і спрабаваў з ёю змагацца,— ледзь не дайшло да забароны каталікам удзельнічаць у Гульнях. Але папа памёр раней, чым рашэнне было прынята канчаткова, і толькі адна вядомая біяграфія гэтага няпростага чалавека малюе яго адносіны да Гульні як глыбокую заўзятасць, якую ён, ужо папам, спадзяваўся прытушыць у сабе, зрабіўшыся яе ворагам.

Гульня, у якую раней свабодна гулялі адзіночкі або суполкі і якая задоўга да таго была аблашчана Выхаваўчай калегіяй, — набыла характар грамадскай арганізацыі спачатку ў Францыі і Англіі, а потым даволі хутка і ў іншых краінах. Якраз тады ў кожнай краіне былі створаны Камісіі Гульні шкляных перлаў і пастаўлены вярхоўныя кіраўнікі са званнем Магістра, а афіцыйныя гульні, якія праходзілі пад асабістым кіраўніцтвам Магістра, былі ўзведзены ў ранг духоўнага свята Вядома, Магістр, як і ўсе высокія і вышэйшыя дзеячы інтэлектуальных сфераў, быў ананімны, за выключэннем некалькіх набліжаных асоб ніхто не ведаў яго грамадзянскага імя. Радыё і іншыя міжнародныя сродкі сувязі выкарыстоўваліся толькі ў час афіцыйных буйных Гульняў, за якія адказваў сам Magister Ludi. Апрача кіраўніцтва публічнымі гульнямі ў абавязкі Магістра ўваходзіла дбанне пра майстроў і школы Гульні і, галоўнае, найстражэйшы прыгляд за развіццём самой Гульні. Толькі сусветная Камісія Магістраў вырашала пытанне (сёння гэта вялікая рэдкасць), прыняць ці не прыняць новыя знакі або формулы ў мову Гульні, пашырыць ці не спіс правілаў, пажадана ці непажадана ўключыць у яе новыя галіны ведаў Калі разглядаць Гульню як нейкую сусветную мову інтэлектуалаў, дык гульнёвыя камісіі асобных краін пад кіраўніцтвам сваіх Магістраў — гэта нібы нешта накшталт акадэміі, якая наглядае за складам, развіццём і чысцінёй гэтай міжнароднай мовы У кожнай краіне ёсць Архіў Гульні, інакш кажучы, спісы ўсіх папярэдне выверамых і дапушчаных сімвалаў і кодаў, лік якіх даўно ўжо пераваліў за лік старадаўніх кітайскіх іерогліфаў Як правіла, дастатковай падрыхтоўкай для майстра Гульні лічыцца выпускны экзамен вышэйшай школы, асабліва элітарнай школы, аднак — так яно было раней, так маўкліва дапускаецца і цяпер — патрэбны таксама і больш-менш сярэднія поспехі ў адной з вядучых галін навукі або ў музыцы

Ледзь не кожны з пятнаццацігадовых вучняў школы эліты марыць стаць калі-небудзь членам Камісіі Гульні або нават Магістрам Гульні Але ўжо сярод дактарантаў толькі мізэрная частка цешыць сябе марнымі мроямі актыўна паслужыцца Гульні і яе далейшаму развіццю Затое ўсе гэтыя прыхільнікі Гульні старанна практыкуюцца ў тэорыі, у медытацыі, а ў час вялікіх Гульняў складаюць тое вузкае кола глыбокашанаваных і адданых Гульням

**Паколькі гэтак званая рэчаіснасць не мае для мяне асабліва вялікага значэння, паколькі мінулае часта ўяўляецца мне жывым, быццам цяперашняе, а цяперашняе адыходзіць у бясконцую даль, пастолькі я роўным чынам не магу аддзяліць будучыні ад мінуўшчыны гэтак выразна, як гэта звычайна робіцца. Вельмі важнай часткай сваёй істоты я жыву ў будучым...**

*("Кароткі жыццяпіс", 1925)*

**Сярод тых светаў, што не падораны чалавеку прыродай, а створаны з матэрыялаў яго ўласнага духу, свет кнігі — найбольшы... <...> Калі хто-небудзь раптам зробіць спробу замыкнуць у абмежаванай прасторы — у адным доме ці ў адным пакоі — гісторыю чалавечага духу, дык ён здолее зрабіць гэта адзіна праз пасярэдніцтва якога-небудзь падбору кніг... <...>**

**Фармулёўка думкі пры дапамозе слова і перадача такіх фармулёвак пры дапамозе пісьменнасці... адзіны сродак, дзякуючы якому чалавецтва можа спазнаць уласную гісторыю і бесперапынна ўсведамляць сябе. <...>**

**...Кожны сапраўдны чытач, нават калі б не з'явілася болей ніводнай кнігі, здолеў бы працягваць насалоджвацца скарбамі, створанымі ў мінулыя дзесяцігоддзі і стагоддзі, пранікаць у іх, спрачацца з імі. Кожная новая мова, якую мы вывучаем, павялічвае колькасць магчымасцяў перажыць нешта, а існуе ж неверагодна многа моў... Існуе... сотня нямецкіх моў... ёсць столькі... моў, колькі ў кожнага з народаў знойдзецца спосабаў мыслення і адценняў адчування жыцця, колькі ў яго адмысловых мысляроў і паэтаў. <...> І ўсе**





удзельнікаў, якія і надаюць публічным гульням урачысты характар і ахоўваюць іх ад ператварэння ў нейкае дэкаратыўнае гульбішча. Для гэтых самых заўзятых знаўцаў Гульні Magister Ludi — нейкі цар ці першасвятар, ледзь не божышча.

Але для кожнага самастойнага майстра і тым болей для Магістра Гульня шкляных перлаў ёсць найперш музыкаванне, прыкладна ў духу тых слоў, якія сказаў аднойчы Ёзэф Кнэхт наконт сутнасці класічнай музыкі:

«Мы лічым класічную музыку нейкім экстрактам і сэрцам нашай культуры, бо яна ёсць найбольш выразны і характэрны жэст яе. У гэтай музыцы мы бачым спадчыну антычнасці і хрысціянства, дух светлага і мужнага дабралюбства, непераўзыдзеную рыцарскую этыку Бо ўрэшце ўсякае класічнае самавыяўленне культуры — гэта сведчанне пэўнай этыкі, гэта даведзены да пластычнай выявы праўобраз чалавечых паводзін Паміж 1500 і 1800 гадамі стваралася ўсякая музыка, стылі і сродкі яе былі самыя розныя, аднак дух ці, правільней, этычны змест яе быў адзін Пазіцыя чалавека, якая выявілася ў класічнай музыцы, усюды тая самая[12], яна ўгрунтаваная на адным і тым самым спосабе пазнання жыцця, імкнецца да аднаго спосабу пераважыць выпадковае і ўзвысіцца над ім. Асноўныя рысы класічнай музыкі веданне пра трагізм чалавечага жыцця, прыняцце чалавечага лёсу, мужнасць і яснасць! Хай гэта грацыя менуэта Гендэля ці Куперэна, або субліміраваная да далікатнага руху пачуццёвасць, як шмат у якіх італьянцаў ці ў Моцарта, або ціхая, засяроджаная гатоўнасць да смерці, як у Баха,— гэта заўсёды нейкі супор, нейкая незастрашальнасць, нейкае рыцарства, і ва ўсім гэтым водгук звышчалавечага смеху, неўміручай яснасці Хай прагучыць гэта і ў нашых гульнях, ва ўсім нашым жыцці ва ўсім тым, што мы ствараем і перажываем».

Словы гэтыя былі запісаны адным Кнэхтавым вучнем. Імі мы і завяршаем нашу нататку пра Гульню шкляных перлаў

**Пераклаў з нямецкай Васіль СЁМУХА.**

[1] У гісторыі філасофіі і тэалогіі вядома імя Альберта Вялікага (1193 (1207) — 1280). «Альберт Другі» няйнакш выдумка Г.Гесэ. Тэкст эпіграфа належыць самому пісьменніку. (*Заўвага рэд.*)

[2] Супольнасць, сукупнасць навук (*лац.*).

[3] Імя выдуманае. (*Заўвага рэд.*)

[4] Відавочная алюзія на О.Шпэнглера, галоўны твор якога, выдадзены ў 1918 г., меў назву «Заняпад Еўропы». (*Заўвага рэд.*)

[5] Алюзія на крызіс эпохі Класіцызму. (*Заўвага рэд.*)

[6] Алюзія на саперніцтва каталіцкай царквы і таемных арганізацый — масонскіх ложаў — на Захадзе. (*Заўвага рэд.*)

[7] Дробязі, якія не датычацца справы (*грэч.*).

[8] Майстар Гульні (або Жанглёр) з Базеля (*лац.*).

[9] Самацытацыя Г.Гесэ: «Магічны тэатр» — назва аднаго з раздзелаў рамана «Стэпавы воўк». (*Заўвага рэд.*)

[10] Рэмінісцэнцыя філасофскіх поглядаў Платона. (*Заўвага рэд.*)

[11] Асоба выдуманая. У часы напісання рамана рымскім папам быў Пій XI. (*Заўвага рэд.*)

[12] Улюбёная, шмат дзе паўтораная думка Гесэ аб нязменнасці законаў развіцця духу і духоўнасці. У гэтым Гесэ наследуе эзатэрычную і акультную традыцыі. (*Заўвага рэд.*)

**гэтыя мовы, па сутнасці, не паддаюцца перакладу! Спроба высокаразвітых народаў (немцы тут стаяць першымі) у перакладах авалодаць усёй сусветнай літаратурай удае сабой нешта дзіўнае, у асобных выпадках яна прыносіла выдатныя вынікі, але ўвогуле гэта не толькі не можа ўдацца цалкам, але і прынцыпова немагчыма. <...>**

**...Нават калі чытач не авалодае болей ніводнай з моў, нават калі ён перастане знаёміцца з новай, да таго невядомай яму літаратурай, ён здолее прадоўжыць чытанне да бясконцасці, працягваючы дзяліць матэрыял, удакладняючы разуменне, робячыся больш адукаваным. Кожная кніга любога мысліцеля, кожная страфа любога паэта праз год-другі паказвае чытачу новае, змененае аблічча: яна можа быць інакш зразумета, можа разбудзіць новыя водгукі <...>Вопыт такога чытання адкрывае нешта таямнічае... мы танчэй адчуваем і разумеем багацце суадносін у прачытаным, выразней бачым непаўторнасць, індывідуальнасць і дакладную абумоўленасць кожнай думкі, кожнага верша; мы бачым, што прыгажосць і вабнасць іх якраз і створаны менавіта гэтай індывідуальнасцю, непаўторнасцю; мы атрымліваем, апроч таго, магчымасць бачыць усё больш выразней, што сотні тысяч галасоў усіх народаў свету звернуты да аднаго і таго ж, пад рознымі імёнамі заклікаюць адных і тых жа багоў, мрояць тымі ж летуценнямі, трываюць тыя ж беды. З бясконцага перапляцення бясконцых моў і кніг усіх стагоддзяў у момант прасвятлення на чытача глядзіць дзівосна ўзвышаная і вышэйшая за рэальнасць выява: чалавечы**

## СПРОБА ТЛУМАЧЭННЯ «ГУЛЬНІ»

Мелася некалькі — не менш чатырох — варыянтаў «Уводзін». Гісторыя іх стварэння, а таксама іх змест, што паслужыў адмысловым пралогам да рамана, вымагаюць асобнага каментарыя Па-першае, «Уводзіны» — сапраўды пралог, г.зн неад'емная — мастацкая — частка твора, у якой «закадзіравана» метафізічная сутнасць зместу З гэтай сутнасцю — сутнасцю Гульні шкляных перлаў — аўтар і «гуляе», усяляк асэнсоўваючы гэты вобраз-сімвал-ідэю, надаючы тым самым белетрыстычнай частцы аповеду філасофскі, «містычны» падтэкст (г.зн. ствараючы дапаможны сэнсавы рад для адэкватнага прачытання твора — а патрэба ў такім дапаможным сродку для «Гульні шкляных перлаў» існуе). Карацей, ва «Уводзінах» аўтар найбольш рупіцца выказаць, «намацаць» метафізіку рамана. Дзеля гэтага прадмет белетрызацыі — Гульня і школа Гульні — падпадае пад рафінаваную эсэістычную медытацыю.

Што такое Гульня шкляных перлаў і ў якім часавым прасцягу «існуе» яе вобраз? Пры адказе на гэтыя пытанні вытлумачальнік сутыкаецца з прынцыповай немагчымасцю як-небудзь канкрэтызаваць змест Гульні і яе «часавую» прыпіску Як і час «фельетоннай эпохі» Бо праз «Уводзіны» ў якасці прыёму праходзіць няўлоўнае змяненне перспектывы і рэтраспектывы, перамена іх месцамі: як быццам Гульня папярэднічала «фельетоннай эпосе», і як быццам «фельетонная эпоха» была да ўзлёту Гульні, як быццам аўтар судзіць будучнасць («фельетонную эпоху» і яе наступствы) з мінуўшчыны, з пары паслярэнесанснага класіцызму, і як быццам ён — у самой «фельетоннай эпосе», затым здаецца, што аўтар увогуле — у недасяжнай будучыні, і яго аповед — не што іншае, як фантастыка, утопія. Такім чынам, маем суплёт метадаў пісьма — утопія-фантастыка-сімвалізацыя, прычым сімволіка ў рамане мяжуе з алегорыяй (зрэшты, як у шмат якіх творах Гесэ «пары абуджэння»). Напрыклад, вобраз Гульні паслядоўна прачытваецца (маюцца на ўвазе «Уводзіны») то як алегорыя духоўнага жыцця ўвогуле, то як алегорыя масонства, то як утапічная алегорыя гуманістычнай культуры будучнасці Адпаведна, усе сэнсы вобраза складваюцца і ў выніку фармуецца вобраз шматсімвальны, Сімвал, які ў любы момант можа актуалізаваць адно са сваіх значэнняў Менавіта гэтая многасць сэнсавых значэнняў і дазваляе аўтару напоўніць «падтэкст вобраза» (Гульні) мноствам культуралагічных і філасофскіх рэмінісцэнцый (гл. паасобныя каментарыі).

Што да нашага разумення вобраза Гульні шкляных перлаў, дык, на наш погляд, Гульня не ўяўляе сабой звыклы вобраз-утопію, альбо выдумку,— Гульню можна вызначыць як, хутчэй, абстрактны семіятычны канцэпт, што саспеў у свядомасці Гесэ ў выніку працяглага пошуку універсальнай мадэлі культуры Над прыродай і таямніцай культуры (духоўнасці) Гесэ разважаў усё жыццё. Таму Гульня для яго — так бы мовіць, універсальная семіятычная мадэль, пабудаваная пры дапамозе мастацкіх, а не «навуковых» сродкаў (У Эко, як вядома, пайшоў адваротным шляхам: перш напісаў некалькі тэарэтычных работ па семіётыцы і эстэтыцы, а затым стварыў мастацкі твор — раман «Імя ружы»,— напісаны паводле папярэдне сфармуляваных тэарэтычных поглядаў.) Таму, адпаведна, звыклая літаратуразнаўчая тэрміналогія — як то вобраз, выяўленчыя сродкі, сюжэт і да т п — да «Гульні шкляных перлаў» не зусім стасуюцца. Падаецца больш адпаведнай тэрміналогія металітаратурная, менавіта не *вобраз* Гульні, а — *канцэпт*. У такім выпадку прачытанню твора якраз і задаецца той адпаведны сэнсавы рад, які пераносіць чытацкае мысленне з узроўню белетрыстыкі на ўзровень метатэорыі культуры (у дадзеным выпадку — белетрызаванай).

Адзначым у якасці дапушчэння, што прынцып белетрызацыі культурнага канцэпта — на гэты раз міфалагічна-эзатэрычнага — белетрызацыі, даведзенай да абсурду, да вышэйшай ступені рэлятывізму ў выкарыстанні фармальных сродкаў аповеду,— няйнакш свядома выкарыстаны М.Павічам, аўтарам славутага «Хазарскага слоўніка». Вобраз выдуманага Слоўніка відавочна блізкі да вобразу Гульні, блізкі менавіта т ы п а л а г і ч н а: ён служыць найперш актуалізацыі пэўнага шэрагу *ідэй*, і толькі затым — мастацкай формы (без чаго тэкст увогуле перастае быць «мастацкім» — ператвараецца ў «філасофскі», навуковы і г.д.).

Такое наша разуменне Гульні шкляных перлаў Паўтараем, з-за універсальнасці вобраза шматлікія кантэкстуальныя рэмінісцэнцыі, што будуць узнікаць і пры чытанні «Уводзін», і пры чытанні астатніх частак рамана, нельга прымаць за «ключавыя»· сама тканіна Гесэўскага твора ёсць спроба гульні па магчымасці з «усімі сэнсамі і каштоўнасцямі культуры»

Аднак жа, як гэта ні дзіўна, мантаньёльскі летуценнік, непрымірымы вораг рэалій XX стагоддзя Г Гесэ пры ўсім пры тым аказаўся ці не большым рэалістам, чым якія «цвярозыя» рэалісты У 1934 годзе пісьменнік перачытаў створаны раней трэці варыянт «Уводзін» і быў ашаломлены д а к л а д н а с ц ю, здавалася б, чыста мастацкіх прагнозаў: аўтар прадказваў дзесяцігоддзе «па ўсёй бачнасці нястрымнага падзення Германіі», запанаванне тэрору і насілля як сродкаў вырашэння палітычных і грамадзянскіх праблем, пад імем аўтара расавай тэорыі Ліцке лёгка пазнаваўся Гітлер... Пісьменнік вымушаны быў «перасунуць» рэальнасць «Уводзін» далей ад сучаснасці, што разгортвалася акурат па яго сцэнарыі Агаворымся, што, тым не менш, пазнейшае жыццё — спрэс да нашых дзён — дакладна пацвердзіла і звышсублімаваныя, вынесеныя за межы якой-небудзь сацыяльнай канкрэтыкі культуралагічныя прадказанні Гесэ. Гэта і прадказанне эпохі «жахлівай дэвальвацыі слова», і прадбачанне «ўсталявання новай маралі» праз перакроенне свету, «пасля доўгай палітычнай барацьбы і войнаў» (што, як не прадбачанне другой сусветнай вайны?), і прагноз скіравання ўвагі да духоўнай спадчыны Усходу, і патрэба вызвалення мастацтва ад сацыяльнай карумпаванасці... Як панадчасавы і універсальны сэнсатворны ідэал чалавецтва паўстае вобраз Гульні шкляных перлаў, гульцы якой, майстры і вучні, ахоўваюць і парадкуюць «усё, што ў свае творчыя эпохі чалавецтва стварыла ў сферы пазнання, высокіх намыслаў, мастацтва», — то бок гуманістычную спадчыну, якая у разуменні Г Гесэ, ёсць абагулены з н а к д а б р а, плён духоўнага дасканалення чалавека і чалавецтва, якое (дасканаленне) само па сабе не звязана ні з якім часам і заўжды на «павестцы дня»

Гесэ верыў, што законы развіцця духу — нязменныя, што шматлікія пакаленні людзей па сутнасці выконваюць адну і тую ж метафізічную задачу, і што за бясконцым развоем Гульні стаіць «адзіны і галоўны натхняльнік» Хто гэты натхняльнік — няцяжка здагадацца. .

**Ю.З.**

---

**твар, несумяшчальнасць рысаў якога цудным чынам пераўтворана ў адзінства.**

*("Магія кнігі", 1930)*

**Большасць людзей не ўмеюць чытаць, і большасць не ведаюць добра, навошта чытаюць. Адны глядзяць на чытанне як на пераважна цяжкі, але непазбежны шлях да «адукацыі», усялякае чытанне іх толькі «адукоўвае». Для другіх жа чытанне — лёгкая насалода, спосаб змарнаваць час, і ім па сутнасці зусім усё роўна, што чытаць, абы не было сумна. <...>**

**Нам, аўтарам, прыемна, што гэтак многа чытаюць, і, магчыма, неразумна з боку аўтара казаць, што чытаюць занадта многа. Але... мець дзесяць добрых, удзячных чытачоў лепш і прыемней, чым тысячу абыякавых. Таму я і бяру на сябе смеласць сцвярджаць, што паўсюдна чытаюць надта шмат і многачытанне гэтае для літаратуры не гонар, а на шкоду. <...>**

**Чыста вонкава чытанне — гэта занятак, які змушае да засяроджанасці, і няма нічога болей падманнага, чым чытаць, каб «развеяцца». Недушэўнахворым людзям зусім не трэба развейвацца, наадварот ім належыць быць засяроджанымі паўсюль і, дзе б яны ні знаходзіліся, чым бы ні займаліся, аб чым бы ні думалі, што б ні адчувалі, заўсёды быць у віры падзей усімі сіламі сваёй істоты. Гэтак і пры чытанні трэба разумець, што кожная вартая кніга — гэта перадусім засяроджанасць, звядзенне ў адну кропку і інтэнсіўнае спрашчэнне заблытаных рэчаў. Такое спрашчэнне і засяроджанасць чалавечых пачуццяў — ужо само маленькі верш, і калі пры чытанні ўва мне няма волі для таго, каб, напружваючы ўвагу, саўдзельнічаць і суперажываць, дык я дрэнны чытач...**

*("Пра чытанне", 1911)*

**Ад недасканаласці і беднасці мовы пісьменнік пакутуе болей, чым ад недахопу ўсяго іншага. Іншы раз ён проста ненавідзіць мову, абвінавачвае і праклінае яе, а дакладней — самога сябе за тое, што народжаны для працы з гэтай вартай жалю прыладай. <...>**

**...Пісьменнік вымушаны выкарыстоўваць тую ж мову, на якой і вучаць у школах, і заключаюць гандлёвыя дамовы, і дасылаюць тэлеграмы, і выступаюць у судзе. <...> Пісьменнік не можа ўжыць ані слова, якое б адначасна не азначала і нешта іншае, не прыўносіла б чужых, замінаючых, непажаданых уяўленняў...**

**Пісьменнік не можа... даць і дзесятай, і сотай долі таго, што хацеў бы, ён рады, калі зразуметы хоць бы адчужана, хоць бы прыблізна, сяк-так, хоць бы без грубых непаразуменняў адносна самага важнага. Большага пісьменнік дамагаецца рэдка. І паўсюль, дзе яго хваляць ці ганяць, дзе ён здабывае поспех ці кпіны, дзе яго любяць ці адхіляюць, справа не ўласна аб яго думках і мроях, а толькі аб сотай долі таго, што змагло прабіцца праз вузкі канал мовы і не больш прасторны канал чытацкага ўспрымання.**

**Вось таму людзі гэтак страшна супрацівяцца — супрацівяцца не на жыццё, а на смерць, — калі якісьці мастак альбо цэлая грамада творчай моладзі, парушаючы гнятлівыя аковы прынятых стыляў, спрабуюць**

# ПАЭТ

## *Казка*

Расказваюць, быццам кітайскі паэт Ган Фок у маладосці быў апантаны дзівосным жаданнем спазнаць усё і ўдасканаліцца ва ўсім, што было ад мастацтва паэзіі. Яшчэ тады, калі ён жыў на радзіме, на Жоўтай рацэ, па сваёй добрай волі і з дапамогаю бацькоў, якія яго пяшчотна любілі, ён заручыўся з дзяўчынай з добрага дому, і ўжо былі назначылі вяселле на спрыяльны шчасцю дзень. Ган Фоку споўнілася тады дваццаць гадоў, ён быў прыгожы сабою, сціплы, з далікатнымі манерамі, абазнаны ў навуках і, хоць сабе малады, але ўжо некалькімі выдатнымі вершамі ўвядоміўся сярод літаратараў краіны Не будучы багатым, ён мог разлічваць на прыстойны маёнтак, які чарамі нявесты можна было яшчэ й прыбольшыць, а як што нявеста апрача ўсяго была прыгожая і поўная ўсялякіх цнотаў, дык шчасцю маладога хлопца, здавалася, не было ніякіх завадаў І ўсё ж ён не быў да канца задаволены, бо ў сэрцы жыло палкае жаданне стаць дасканалым паэтам.

Неяк яно так супала, што аднаго вечара, калі на рацэ спраўлялі свята сярэдзіны восені, Ган Фок самотна ішоў па другім беразе ракі Ён спыніўся пад дрэвам, што нахілілася над вадою, і сачыў, як плылі і дрыжалі на люстры вады тысячы вогнікаў, як у джонках перагукаліся мужчыны, жанчыны і маладыя дзяўчаты, як яны красавалі, бы кветкі ў сваіх святочных строях, слухаў ціхае мармытанне асветленай вады, песні, пераборы цытры, салодкія гукі жалеек, а над усім гэтым — блакітная ноч, як скляпенне храма — плыве, лунае. У хлопца заекатала сэрца, калі ён, самотны сузіральнік, у палоне мроі, пабачыў усю гэтую красу. Але як яго ні разбірала пайсці туды, да ўсіх, быць там, цешыцца святам разам з нявестай і сябрамі, яшчэ з большым запалам прагнуў ён прымаць усё гэта самому, тонка адчуць і перадаць у дасканалым вершы· блакітнасць ночы і гульню вогнікаў на вадзе, весялосць людзей на свяце і захапленне ціхага гледача каля камля дрэва на беразе. Ён адчуваў, што на ўсіх святах пры ўсёй весялосці гэтай зямлі яму ніколі не магло быць зусім добра і цёпла на сэрцы, што ён і ў самым разгары жыцця застаецца самотнікам і ў пэўным сэнсе сузіральнікам і чужым, ён адчуваў, што яго душа сярод усіх людзей так настроеная, што ён мусіць адначасова адчуваць і хараство зямлі і тайнае жаданне чужынца. Гэта яго засмуціла, навяло на роздум, і думкі акрэслілі мэту — сапраўднае шчасце і глыбокае наталенне дасца яму толькі тады, калі нарэшце ўдасца адлюстраваць свет у вершах так дасканала, што ён і сам авалодае светам, ім самім агучаным і ўвечненым у гэтых люстраных вобразах.

Ган Фок, ледзьве ўсведамляючы, чувае ён ці дрэмле, пачуў лёгкі пошум і ўбачыў пад дрэвам незнаёмага, нейкага старога дзеда ў фіялетавым убранні з азнакай годнасці на абліччы Ган Фок выпрастаўся і прывітаў таго вітаннем, якім вітаюць старэйшых і знакамітых, але незнаёмы ўсміхнуўся і сказаў некалькі радкоў вершам, у якіх было якраз усё тое, што толькі што адчуў хлопец, ды так дасканала і прыгожа, па ўсіх правілах высокай паэзіі, што ў хлопца сэрца зайшлося ад здзіўлення.

—О, хто ты,— усклікнуў ён, нізка кланяючыся,— ты, які ўмееш заглянуць у маю душу і прамаўляеш прыгажэйшымі вершамі, чым я калі чуў з вуснаў маіх настаўнікаў?

Незнаёмы зноў усміхнуўся і сказаў·

—Калі ты хочаш быць паэтам, ідзі да мяне. Ты знойдзеш маю хаціну каля крыніцы на вялікай рацэ ў паўночна-заходніх гарах. Імя маё — Майстар Дасканалага Слова.

І з гэтым старац ступіў у вузкі цень дрэва і адразу знік, і Ган Фок, які марна шукаў яго і не знаходзіў ні следу ні звання, ужо цвёрда падумаў, што ўсё гэта была толькі ўява, ад стомы Ён заспяшаўся да лодак і ўзяў удзел у свяце, але ў шуме гамонкі і жалезных мелодый увесь час чуў таямнічы покліч незнаёмага, і, здавалася, душа яго памыкалася следам, ён сядзеў адчужана з задуменнымі вачыма сярод вясёлых людзей, якія цвялілі яго сваёй закаханасцю.

Праз некалькі дзён бацька Ган Фока меўся склікаць сяброў і сваякоў, каб назначыць дзень заручынаў Ды тут заўпарціўся малады і сказаў·

—Даруй мне, калі здасца, што я супроць паслушэнства, якога сын вінен бацьку. Але ты ведаеш, якое вялікае маё жаданне вызначыцца ў мастацтве паэзіі, і калі нават некаторыя мае сябры хваляць мае вершы, я ўсё адно ведаю, што пакуль што я толькі пачатковец і ўсё яшчэ на ніжніх прыступках творчага шляху Таму прашу цябе — дай мне крыху пабыць аднаму, пазаймацца сваімі практыкаваннямі, бо мне здаецца, што як толькі я вазьмуся кіраваць жанчынай і домам, усё гэта звядзе мяне ўбок ад паэтычных спраў Сёння я яшчэ досыць малады і без абавязкаў і мог бы яшчэ які час пажыць дзеля мастацтва паэзіі, ад якой я чакаю сабе радасці і славы.

Прамова гэтая здзівіла бацьку, і ён сказаў·

—Гэтае мастацтва, мусіць, табе найдаражэйшае за ўсё, калі дзеля яго ты нават хочаш ад-класці сваё вяселле. Альбо, можа, нешта прабегла паміж табою і нявестаю, тады скажы мне, каб я мог неяк паспрыяцца і памірыць вас, альбо пашукаць другую.

Але сын пабажыўся, што любіць нявесту не менш чым учора і заўсёды, што паміж імі не лёг нават цень непаразумення. І расказаў бацьку, што яму абвясціў у сне ў дзень восеньскага свята Майстар, стаць вучнем якога ён прагне больш за ўсякае шчасце на свеце.

—Добра,— сказаў бацька,— я даю табе год. У гэты час ты можаш лавіць сваю мару, якую, відаць, паслаў табе Бог.

—Можа, яно будзе і два гады,— сказаў Ган Фок, павагаўшыся,— хто яго там ведае, як яно абернецца.

Тады бацька адпусціў яго і быў вельмі замаркочаны, а хлопец напісаў нявесце ліст, развітаўся і пайшоў з дому

Пасля доўгіх вандровак дабраўся ён да крыніцы на рацэ, знайшоў там асамотненую бамбукавую хаціну, а перад хацінай сядзеў на плеценай цыноўцы старац, якога ён бачыў тады на беразе пад дрэвам. Ён сядзеў і граў на лютні і угледзеўшы госця, які набліжаўся з вялікай пачцівасцю, не ўстаў, не прывітаў, а толькі ўсміхнуўся і прабегся далікатнымі пальцамі па

**увесці ва ўжытак новыя выразы і мовы. <...>**

**Суграмадзяне, засвоіўшы мову, што лічыцца ў іх мовай мастацтва, задаволены і ўяўляюць, што цяпер вось яны разумеюць мастацтва, цяпер вось яно ім даступнае, а даведаўшыся, што мова, з такой цяжкасцю вывучаная імі, прыдатная толькі для нязначнай сферы мастацтва, абураюцца. У часы нашых дзядоў жылі старанныя і адукаваныя людзі, якія ў музыцы, апроч Гайдна і Моцарта, дамагліся разумення Бетховена. І адчулі, што «ідуць у нагу з часам». Але, калі з'явіліся Шапэн, Вагнэр і Ліст, прапанаваўшы ім зноў авалодваць яшчэ адной мовай, яшчэ раз па-рэвалюцыйнаму і па-маладому, радасна і памяркоўна ўспрыняць нешта новае, яны забурчэлі, загаварылі пра занялад мастацтва і выраджэнне эпохі, у якой ім паміжволі даводзіцца жыць. Тое, што здарылася з тымі няшчаснымі, зноў адбываецца з многімі тысячамі. Мастацтва спараджае новыя відмы, новыя мовы, па-новаму вучыцца казаць і выяўляць сябе, яно сытае па горла ўчарашнімі і пазаўчарашнімі мовамі, яно прагне не толькі маўлення, але таксама і танца, прагне зламаць усе абмежаванні, ссунуць капялюш набакір і пайсці ўлукаткі. І ад таго суграмадзяне раз'юшаны, ім здаецца, што гэта кпенне над імі, што з карэннем вырываюцца іх каштоўнасці, і, выбухаючы лаянкай, яны хаваюцца пад коўдру ўласнай адукацыі... бягуць у суд, дасканаляцца ў абразах.**

**Але гэтае абурэнне і гэтая бясплённая мітусня не вызваляюць суграмадзян, не разраджаюць і не ачышчаюць іх нутра, ніяк не ўтаймоўваюць іх унутранага неспакою і раздражнення. А мастак, у якога скардзіцца на суграмадзян падстаў не меней, выяўляе свой гнеў, горыч, вышукваючы, ствараючы, развучваючы новую мову. Ён адчувае, што лаянка яго не выратоўвае, што той, хто абражае, заўсёды не мае рыцы. І, з тае падставы, што ў нашу эпоху ў мастака няма іншых ідэалаў, апроч як быць самім сабой і выказваць тое, што зададзена ў ім прыродай, сваю варожасць да суграмадзян ён ператварае ў найбольш асабістае, найбольш прыгожае, найбольш вымоўнае, але не выплёскваючы гневу з шумой на роце, а выбіраючы і будуючы, адліваючы і адточваючы справядлівую форму для свайго гневу — новую іронію, новы гратэск, новы спосаб абярнуць непрыемнае і раздражняльнае ў прыемнае і прыгожае...**

*("Мова", 1918)*

**У наш час пісьменнік як чысцейшы тып адухоўленага чалавека, заціснутага ў беспаветранай прасторы паміж светам машын і светам інтэлектульнай мітусні, асуджаны на смерць ад удушша. Бо пісьменнік — прадстаўнік і адвакат менавіта тых сіл і патрэб чалавека, якім наш час фанатычна аб'явіў вайну.**

**<...> Калі пісьменнік імкнецца застацца верным свайму паходжанню і пакліканню, ён не павінен далучацца ні да свету, што ап'янеў ад поспехаў у пакарэнні жыцця прамысловасцю і арганізацыяй, ні да свету рацыяналістычнай духоўнасці, што пануе зараз ва універсітэтах. Адзіная задача пісьменніка — быць служкаю, адвакатам і рыцарам душы, нават калі ён адчуе, што ў цяперашнім светаімгненні ён вырачаны на**

струнах, і па даліне паплыла чароўная музыка, як срэбнае воблака аж хлопец спыніўся, здзівіўся і ў салодкім задуменні забыўся пра ўсё на свеце, пакуль Майстар Дасканалага Слова не адклаў убок лютню і не ўвайшоў у хаціну. Ган Фок пайшоў следам і застаўся старцу за слугу і вучня.

Прайшоў месяц, і ён навучыўся пагарджаць усімі песнямі, якія сам склаў раней, ён вытруціў іх са сваёй памяці. І потым зноў праз месяцы вытруціў з памяці песні, якіх ён дома навучыўся ад настаўнікаў. Майстар амаль не гаварыў з ім ні слова, ён моўчкі вучыў майстэрству лютневай ігры, аж пакуль усё вучнева нутро і сутнасць не прасякнуліся музыкай. Аднаго разу Ган Фок напісаў кароценькі верш, у якім паказаў палёт дзвюх птушак па восеньскім небе, верш гэты яму падабаўся. Ён не адважыўся паказаць яго Майстру, але аднаго вечара ён заспяваў яго ўбаку ад хаціны, і Майстар добра чуў. Але зноў не сказаў ні слова, а толькі ціха зайграў на сваёй лютні, і тут у паветры пахаладала, апусцілася сутонне, падняўся парывісты вецер, хоць на дварэ стаяла лета, па пашарэлым небе праплылі дзве чаплі ў магутным парыве да вандравання, і ўсё было настолькі прыгажэй і дасканалей, чым у вершы вучня, што гэты засмучана змоўк і адчуў сябе нічым. І так старац рабіў кожнага разу, і прайшоў год, і Ган Фок амаль дасканала навучыўся іграць на лютні, а мастацтва паэзіі ўсё больш і больш здавалася яму цяжкім і ўзнёслым.

А як мінула два гады, адчуў хлопец моцную тугу па доме, па сваіх, па радзіме і нявесце, і ён папрасіў Майстра адпусціць яго.

Майстар усміхнуўся і кіўнуў

—Ты свабодны,— сказаў ён,— і можаш ісці куды хочаш Можаш вярнуцца, можаш не вярнуцца, рабі, як табе заўгодна, воля твая

Хлопец выбраўся ў дарогу і ішоў, не ведаючы спачыну, аж пакуль аднае раніцы яшчэ ў прыцемках не апынуўся на родным беразе. З гарбатага моста ўгледзеў бацькоўскі горад. Крадком-потайкам прабраўся ў бацькаў сад, пачуў праз акно спальні бацькава дыханне, бацька яшчэ спаў, і хлопец пракраўся садам да дома сваёй нявесты і ўбачыў з вяршаліны грушы сваю нявесту ў свяцёлцы,— стаяла і часала валасы І пакуль усё гэта, убачанае на жывыя вочы, ён параўноўваў з вобразам, намаляваным у карціне тугі па радзіме, зрабілася ясна, што яму наканавана быць паэтам, і ён убачыў, што ў паэтавых крозах жыве прыгажосць і ваба, якіх марна шукаеш у жыцці. Ён злез з дрэва і ўцёк з саду, і цераз мост з бацькоўскага горада вярнуўся ў горную даліну А там, як і раней, на беднай цыноўцы перад хацінай сядзеў стары Майстар і перабіраў пальцамі струны лютні, і замест прывітання ён сказаў два вершы дабраслаўлення мастацтву,— і вершы былі такія глыбокія і мілагучныя, што ў хлапца аж слёзы пабеглі

Зноў застаўся Ган Фок у Майстра Дасканалага Слова, які цяпер, калі ўжо хлопец авалодаў лютняю, вучыў яго іграць на цытры, і паляцелі месяцы, як снег з заходнім ветрам, паляцелі. Яшчэ два разы захліствала хлопца туга. Першага разу ён употайкі ўцёк сярод ночы, але перш чым паспеў дабрацца да павароту даліны, начны ветрык прабегся па цытры, якая вісела ў дзвярах хаціны, гукі дагналі яго і паклікалі вярнуцца, і ён не здолеў ім усупрацівіцца. Другім разам яму праснілася, быццам ён садзіць маладое дрэўца ў сваім садзе, а поплеч стаіць жонка, а дзеткі паліваюць дрэўца віном і малаком. Калі ён прачнуўся, месяц свяціў у яго пакойчык, ён устаў збянтэжаны, убачыў, што ляжаў і драмаў каля Майстра, а сівая барада ў таго ціха дрыжала, і яго ахапіла дзікая нянавісць да гэтага чалавека, які, як яму здавалася, разваліў яму жыццё і ашукаў яго ў спадзяваннях на будучыню. Ён ужо хацеў быў кінуцца на старца і забіць яго, калі тут стары расплюшчыў вочы і заўсміхаўся з далікатнай журботнай лагодлівасцю. Гэта абяззброіла вучня.

—Ведай, Ган Фок,— ціха сказаў стары,— ты свабодны, вольны рабіць, што хочаш Можаш ісці на радзіму і садзіць дрэвы, можаш ненавідзець мяне і забіць, мне гэта не абыходзіць.

—Ах, як я магу цябе ненавідзець,— усклікнуў паэт, моцна ўзрушаны.— Гэта ўсё адно, як бы калі б я ненавідзеў неба

І ён застаўся і вучыўся іграць на цытры, а потым на флейце, а пазней пачаў па ўказаннях Майстра пісаць вершы, і вывучыў паступова тое таемнае мастацтва, толькі з выгляду простае і сціплае, мастацтва гаварыць, але пры гэтым развярэджваць душу слухачам, як вецер паверхню вады Ён апісаў прыход сонца, як яно запавольваецца на краі гор, і бязгучнае шмыганне рыбак, калі яны, як цені, снуюць пад вадой, альбо гайданне маладой вярбы на вясеннім вятры, і таму, хто слухаў, было гэта не сонца, і не гульня рыбак, і не толькі шэпт вярбы, а, здавалася, неба і свет кожны раз на нейкае імгненне зліваліся ў дасканалую музыку, кожны слухач з радасцю альбо болем думаў пра тое, што ён любіў альбо ненавідзеў, хлопчык пра ігру, юнак пра каханую і стары пра смерць.

Ган Фок больш не ведаў, колькі ўжо гадоў пражыў ён з Майстрам каля крыніцы на вялікай рацэ, часам яму здавалася, што ён толькі ўчора ўвечары спусціўся ў даліну і быў сустрэты струннай ігрою старца, яму нават здавалася, быццам за ім абваліліся і сталі бяссутнаснымі ўсе чалавечыя ўзросты, часіны і поры.

Але аднойчы раніцай ён прачнуўся ў хаціне, і колькі ён ні шукаў ні клікаў, стары Майстар знік, як і не было яго. На ноч раптам апусцілася восень, рэзкі вецер закалаціў старую халупняжыну, а над горным хрыбтом шнурамі пацягнуліся ў вырай птушкі, хоць і не ў свой час яшчэ.

Ган Фок узяў лютню і спусціўся з гор на зямлю бацькоў, прыйшоў да людзей, яны павіталі яго вітаннем, якім вітаюць звычайна старых і знакамітых, і калі ён увайшоў у свой родны горад, ягоны бацька, і яго нявеста, і яго сваякі ўжо паўміралі, іншыя людзі жылі ў іхніх хатах. А ўвечары спраўлялі на рацэ свята сярэдзіны восені, і паэт Ган Фок стаяў па той бок на цёмным беразе, прыхіліўшыся да камля старога дрэва, і калі ён зайграў на сваёй маленькай лютні уздыхалі жанчыны і пазіралі захоплена і заклапочана ў ноч, а маладыя мужчыны клікалі таго, хто іграў на лютні, і нідзе не маглі яго знайсці, і гукалі гучна, і казалі, што ніхто з іх яшчэ ніколі дагэтуль не чуў такіх мелодый. А Ган Фок усміхаўся Ён глядзеў у раку, дзе плылі тысячы вобразаў тысячаў вогнікаў; і як не ўмеў ён ужо адрозніць адбіткі вогнікаў на вадзе ад сапраўдных, дык і не знайшоў у сваёй душы ніякай розніцы паміж гэтым светам і тым першым, калі ён стаяў тут сама маладым хлопцам і слухаў словы чужога Майстра

---

**адзіноту і пакуту, якія, зрэшты, наканаваны не кожнаму. <...>**

**Некаторыя з тых, хто і сапраўды варты звання «пісьменнік», гінуць нячутна ў беспаветранай прасторы гэтага пекла. Іншыя ж зноў прымаюць пакуту, ператвараючы яе ў сваё крэда, не супрацівяцца кону і не пярэчаць, бачачы, што вянец, які прысуджаўся некалі пісьменнікам, стаў цяпер цярновым вянцом. Гэтым пісьменнікам аддаю я любоў, да іх брацтва жадаю належаць. Мы пакутуем, але не ў знак пратэсту і непрыняцця. Мы задыхаемся ў непрыгоднай для нас атмасферы машыннага свету і барбарскіх патрэб, акаляючых нас, але не аддзяляем сябе ад цэлага... Няма ў нас веры ні ў адзін з ідэалаў нашай эпохі... Але мы верым, што чалавек не памрэ, што зноў адновіцца аблічча яго, як бы яго цяпер ні скажалі... Мы не імкнёмся ні тлумачыць наш час, ні паляпшаць яго і ні павучаць, але, выяўляючы свае пакуты і летуценні, зноў і зноў хочам расчыніць перад ім свет вобразаў і свет душы. І хоць гэтыя летуценні часткова злыя прывіды, а гэтыя вобразы часткова страшныя дзівы, нам не варта нічога прыхарошваць, не варта адварочвацца ад праўды. Мы не ўтойваем, што душа чалавецтва ў небяспецы і на ўзмежку бяздоння. Але мы не павінны ўтойваць і таго, што верым у яе бессмяротнасць.**

*("Крэда пісьменніка" 1927)*

**...Абывацель схільны ўважаць летуценніка за вар'ята. І чуццё не падманвае абывацеля: ён зараз жа згубіць розум, калі, накшталт мастака, верніка, філосафа, дапусціць сябе да бездані ўласнага нутра. Як бы мы ні называлі гэтую бездань, душой ці бессвядомым, менавіта яна крыніца кожнага руху нашага жыцця. У абывацеля ж паміж ім самім і яго душой маецца вартаўнік свядомасць, выхаванасць, інстытуцыя бяспекі; і для абывацеля не існуе нічога, што сыходзіць з душэўнага бяздоння яго непасрэдна, без дазволу вартаўнічай інстанцыі. А мастак заўсёды недаверлівы не да вобласці душы, а да той мытні, і, таемна абмінуўшы яе, ён туд-сюд курсуе праз мяжу паміж «гэтым» і «тым» бакамі, паміж свядомасным і бессвядомым, рыхтык ён дома і тут і там.**

**Знаходзячыся па гэты бок, у вядомай асветленай вобласці, дзе пражывае і абывацель, ён адчувае сябе неймаверна прыгнечаным убоствам усіх моў, і жыццё пісьменніка здаецца яму тады цярністым. Але калі ён на тым баку, у вобласці душы, дык кожны павеў чароўна робіцца словам, і ліецца музыка зор, і ўсміхаюцца горы, і свет, мова Гаспадара, дасканалая, у ім пад рукой усе літары і словы, усё вымоўнае, усё гучыць і ўсё выкуплена.**

*("Мова", 1918)*

**...Яшчэ болей рэдкі, чым прыроджаны пісьменнік, прыроджаны крытык: менавіта чалавек, у якога імпульс да крытычнай творчасці сыходзіць не са стараннасці і вучонасці... а з прыроджанай вастрыні розуму, сілы аналітычнага мыслення, пачуцця адказнасці за культуру. <...>**

**Крытыка стала інстанцыяй пастаяннай, прафесіяй, неабходным фактарам грамадскага жыцця... Патрэба ў крытыцы**

# ВОЎК

*Апавяданне*

Яшчэ ніколі ў французскіх гарах не было такое вусцішна халоднае і зацяжное зімы Дзень у дзень, тыдзень у тыдзень паветра чысцюткае, крохкае і скалелае. Удзень снежныя палі, бясконцыя, матава белыя, касагорыліся пад рэзка блакітным небам, уначы над імі плыў ясны, сцепнуты месяц, гнеўны марозлівы месяц з жоўтым бляскам, пранозлівае святло якога на снезе аддавала сінім і тупым і было падобнае на ўцялеснены мароз. Людзі абміналі дарогі, асабліва вышыні, яны шыліся ў шчыліны, сядзелі, лаяліся ў вясковых хатах, чырвоныя шыбіны ў якіх уначы закурэла мутна свяціліся ў месячным блакіце і неўзабаве патухалі.

Гэта быў цяжкі час у тутэйшага звяр'я Драбнота вымярзала масава, нават птушкі паддаваліся марозу, іх схуднелыя, скарчанелыя тушкі даставаліся ў трафей каршунам і ваўкам. Але ж і гэтыя страшэнна цярпелі ад сцюжы і голаду Жыло там усяго некалькі ваўчыных сем'яў, і ліхата змушала іх гуртавацца цясней. Удзень яны выходзілі паасобку. Прамільгне сюд-туд чорнай рысінай па снезе, худы, галодны, ашчэзлы і чуйны, маўклівы і нясмелы, як здань. Побач з ім слізгае па снежнай роўнядзі яго вузкі цень. Абнюхваючы, усунецца вострая морда ў вецер, і тут можна пачуць часам сухую, вымучаную яглу А вечарамі яны выходзілі поўнай гайнёю і з хрыпатым сковытам гапатавалі вакол вёсак. Адтуль смачна пахла стойламі і катухамі, але за моцнымі аканіцамі ляжалі напагатове зараджаныя стрэльбы. Рэдка, рэдка калі выпадаў сякі-такі луп — разява-сабака які, ці што там яшчэ, а тым часам ужо два з гайні леглі пад кулямі.

А мароз усё трымаўся Часам ваўкі ляжалі ціха і панура, грэючыся адзін ад аднаго, і занепакоена ўслухоўваліся ў мёртвую пустку, пакуль каторы, стурзаны жудаснымі курчамі голаду, не ўскокваў раптам з жахлівым рыкам. Тады ўсе астатнія паварочвалі да яго морды, дрыжалі і раптам закіпалі страхотлівым, пагрозлівым і жаласным выццём.

Нарэшце меншая частка гайні рашылася на далёкую вылазку. Рана раніцай пакінулі яны свае логвы, збіліся ў гурт, узбуджана і палахліва ўнюхваючыся ў марознае паветра. Потым шпарка і роўна пашыбавалі прэч. Пазасталыя глядзелі ім услед шырокімі, шклянымі вачыма, прабеглі некалькі дзесяткаў метраў, спыніліся, нерашучыя і бязрадныя, і павольна вярнуліся ў апусцелыя логвы.

А вандроўнікі апалудні падзяліліся. Тры павярнулі на ўсход да Швейцарскай Юры, астатнія пабеглі далей на поўдзень. Трое былі прыгожыя, дужыя звяры, але страшэнна худыя Запалыя светлыя жываты былі вузкія, як рэмень, на грудзях выпіралі рэбры, пысы сухія, вочы шырокія і поўныя роспачы. Утрох яны далёка заглыбіліся ў Юру, на другі дзень задралі барана, на трэці сабаку і жарабя, і цяпер іх з усіх бакоў шалёна аблёг мясцовы люд. У раёнах, дзе шмат вёсак і гарадкоў, асеў страх перад незвычайнымі ўваранцамі Узброілі паштовыя сані, без стрэльбы ніхто не хадзіў з вёскі ў вёску У незнаёмых мясцінах, пасля такой добрай здабычы, тры ваўкі адчувалі сябе адначасова і баязліва і вальготна, яны моцна пасмялелі, не тое, што дома, і ўжо сярод белага дня залезлі ў хлеў Мейерхофа. Мычанне кароў, трэск дошак у загародках, тупат капытоў і гарачае, зяхлівае дыханне напоўнілі цеснае, цёплае памяшканне. Але гэтым разам нарваліся на людзей. За ваўкоў была назначана прэмія, і гэта падвоіла адвагу сялян І яны паклалі-такі двух, аднаму вінтовачны стрэл знізаў шыю, другога засеклі сякерай. Трэці вырваўся і бег, бег, аж пакуль паўмёртвы не ўпаў на снег. Ён быў самы малады і самы прыгожы воўк, горды звер магутнай сілы і дасканалых формаў Доўга ляжаў ён, адсопваўся Чырвоныя крывавыя плямы плылі перад вачыма, і часам з яго са свістам вырываўся балючы стогн Кінутая сякера дастала яго ў спіну Але ён адпачыў і ўжо мог зноў падняцца. Толькі цяпер ён убачыў, як далёка забег. Нідзе людзей, нідзе хат. А перад ім заснежаная, магутная гара. Гэта Шасэраль. Воўк рашыў абысці яе. Мучыла смага, і звер з'еў некалькі кавалкаў замерзлага, цвёрдага снежнага шарону

Па той бок гары ён адразу выйшаў на вёску. Вечарэла. Воўк чакаў у густым ельніку. Пасля асцярожна пракраўся за садовыя платы, прываблены пахам цёплых хлявоў На вуліцы не было нікога. Палахліва і хіжа бліскаў вачыма з-паміж дамоў. І тут стрэл, знянацку Воўк адкінуў угору галаву і кінуўся ўпрочкі, і грымнуў другі стрэл. Гэты быў цэльны. Белаватае падчарэўе збоку зардзелася крывёю, якая пачала сцякаць густымі кроплямі. Але зверу ўсё ж удалося вялікімі скачкамі ўцячы і дабегчы да горнага лесу. Там ён пачакаў, прыслухоўваючыся, некалькі хвілін, пачуў спаабапал галасы і крокі. Са страхам паглядзеў на гару Гара была спадзістая, залешаная, падымацца на такую — пакута. Але выбару не было. Хрыпла зяхаючы, воўк пачаў успінацца на гэтую сцяну, а ўнізе чуліся лаянка, загады, мільгалі ліхтары. Паранены воўк трымцеў і караскаўся праз паўцёмны яловы лес, а на баку густа і павольна сачылася рудая кроў

Холад адступіў Заходняе неба замроілася туманам, абяцаючы снегапад.

Нарэшце, выдыхшыся, воўк дабраўся да вяршыні. Ён стаяў на крыху пахілым заснежаным плато, недалёка ад Монт Кразіна, высока над вёскай, з якое ўцёк. Голад не адчуваў, а толькі замаркотлівы, сціснуты боль у ране. Ціхі, хворы брэх вырваўся з яго абвіслага пыска, сэрца стукала цяжка, балюча і, як невыказна даўні цяжар, адчувала на сабе руку смерці. Яго прывабіла адзінокая яліна з трыма галінамі, там ён сеў і тужліва ўтаропіўся ў шэрую снежную ноч. Прайшло паўгадзіны. На снег легла матавае чырванаватае святло, дзіўна і мякка. Воўк застагнаў, падняўся і павярнуў прыгожую галаву насустрач святлу Гэта быў месяц, які велізарна, крывава-чырвона павольна падымаўся з паўднёвага ўсходу на смутным небе, вышэй, вышэй. Ужо не першы тыдзень не быў ён такі чырвоны і вялікі. Жаласна завісла вока блізкага да скону звера на матавым дыску, і зноў у горле заклекатала, балюча і бязгучна,— сковыт у ноч.

Ліхтары і крокі наблізіліся. Сяляне ў кажухах, егеры і маладыя дзецюкі ў аўчынных шапках і няўклюдных гамашах тупталі па снезе. Радасны лямант Знайшлі параненага ваўка, далі па ім яшчэ два стрэлы і абодва міма. Тады ўбачылі, што звер ужо канае, і наваліліся на яго з каламі і ражнамі Але той ужо нічога не чуў.

Пакалечанага, патрушчанага звалаклі яго ў Сэн-Імэр. Рагаталі, хваліліся, радаваліся, п'ючы шнапс і каву, спявалі, лаяліся. Ніводзін не ўбачыў прыгажосці заснежанага бору, ні бляску горнага плато, ні чырвонага месяца, завіслага над Шасэралем, і дрогкага водсвету яго на люфах стрэльбаў — у снежных крышталях і ў вачах забітага воўка.

**Пераклаў з нямецкай Васіль СЁМУХА.**

---

падаецца бессумлеўна абавязковай: грамадства мае патрэбу ў органе, які б спецыялізаваўся на інтэлектуальным утаймаванні феноменаў эпохі. <..>

Для пісьменніка прынявольная залежнасць ад заганнага крытычнага апарату — гора найвялікшае. Памылка лічыць, што пісьменнік баіцца крытыкі, што перад правідловай, прычэплівай крытыкай ён з мастацкага славалюбства аддасць перавагу дурной лісліваcці. Наадварот: пісьменнік шукае не толькі любові, якую шукае кожная істота, ён нястомна шукае таксама і разумення і асабістага атаясамлення... Кожны сапраўдны пісьменнік рады ўсякаму сапраўднаму крытыку — але не таму, што дзеля свайго мастацтва ён мог бы ў яго шмат чаму павучыцца, а таму, што крытыка для яго — крыніца неабходных ведаў і карэктыроўка дзеля таго, каб сябе і сваю працу бачыць ўключанымі ў баланс сваёй нацыі і культуры... <..>

Для сапраўднага пісьменніка няма нічога больш агіднага, чым быць у сяброўстве з... пасрэдным крытыкам, з бяздарнай літаратурнай машынай, што выдае артыкулы. Ён імкнецца хутчэй справакаваць крытыка і для яго лепей быць апляваным і разарваным на кавалкі, чым апынуцца ў становішчы, калі яго дабрамысна паляпваюць па плячы. Сапраўднага ж крытыка, нават калі той адкрыта выступае супраць, сапраўдны пісьменнік нязменна сустракае з пачуццём калежскасці. Упэўніцца, што ты дасканала зразуметы і прадыягназаваны крытыкам,— усё роўна, што трапіць на абследаванне да добрага доктара...

*("Пра добрых і благіх крытыкаў", 1930)*



# Паэтыка душы ў творах Германа ГЕСЭ

*(Раман «Стэпавы воўк»)*

Сустрэла я ў Р.Барта цудоўнае вызначэнне тэксту, пачэрпнутае вучоным у арабскіх эрудытаў· «верагоднае цела». «Тэкст мае чалавечы воблік; можа, гэта вобраз, анаграма чалавечага цела? Несумненна»,— задаецца пытаннем і адказвае сабе Р.Барт. Дык што ж за «целы» творы Германа Гесэ? Фізічныя, з якімі самы час мець справу анатамам і фізіёлагам? Крыніцы асалоды, маральнай і нават пачуццёвай? І якім чынам узнікае «верагоднасць», «дакладнасць» гэтага тэксту-«цела»? На мой погляд, як гэта ні парадаксальна, не столькі за кошт уласна «цялеснага» (у маім разуменні, канкрэтна-падзейнага), колькі за кошт пранікнення — аўтарскага і нашага — у сферу эзатэрычнага, душэўна-духоўнага. Наўрад ці да месца тут разважаць пра катэгорыю душы ўвогуле; варта толькі звярнуць увагу на яе сапраўды сімвалісцкую шматзначнасць, на бездань яе тлумачэнняў сучаснай свядомасцю і, у прыватнасці, сучасным мастацтвам. Шматзначнасць узмацнялася па меры эвалюцыі паняцця «душа», і ў гэтай эвалюцыі, можа, найбольш яскрава вымалёўваліся заканамернасці чалавечага

развіцця — філасофскага, рэлігійнага, эстэтычнага, сацыяльнага. Тым не менш, увесь шырокі спектр сэнсаў мог і можа быць зведзены да галоўнага: унутраны змест чалавека, тое, што І.Кант вызначыў як «Werth» (унутраная каштоўнасць) у процівагу «Preis» (каштоўнасць знешняя). Абвастрылася ўвага да душы як да ўнутранай каштоўнасці чалавека, здаецца, на мяжы XVIII — XIX стст., калі асоба, чалавечае «я» перажывае свой апафеоз і адначасова найглыбейшы крызіс; абодва бакі гэтага працэсу аказаліся ўвасобленымі ў працах Жан-Поля Рыхтэра, іншых філосафаў, у мастацтве рамантыкаў.

Безумоўна, філасофія і паэтыка душэўнага ў Гесэ мае свае (у адных выпадках лёгка, у іншых — больш цяжка распазнавальныя) крыніцы. Агульным месцам даследаванняў творчасці Гесэ стала акцэнтаванне яе аўтабіяграфічнасці. Сапраўды, пры ўсёй загадкавасці і таямнічасці мастак ці не спавядаецца. І гэта — першая антытэза з шэрагу мноства іншых у яго творах, адзначыць якую вельмі важна, бо і паэтыка Гесэ ўвогуле, і яго паэтыка душы пабудавана якраз на антыноміі, на антытэзе, імі кіруецца, ад іх адштурхоўваецца. Адзін з самых знакамітых раманаў Гесэ, «Стэпавы воўк» (1927), асабліва аўтабіяграфічны. У перыпетыях лёсу галоўнага героя, Гары Галера (паказальнае ўжо супадзенне ініцыялаў персанажа і аўтара), адбілася шмат што з перажытага да таго часу самім пісьменнікам, у тым ліку з глыбока асабістага (першая жонка Гесэ, Марыя Бярнулі, была ў 1919 г змешчана ў псіхіятрычную лякарню; няўдачна склаўся другі шлюб — з маладой спявачкай Рут Венгер). Хваробы, заняткі, узрост аўтара — усё пазнаецца ў жыццёвым вопыце яго цэнтральнага героя.

І ўсё ж «Стэпавы воўк» — не аўтакаментарый, а Гары Галер — зусім не самапраекцыя. Мне, напрыклад, уяўляецца безумоўнай паралель «Гары Галер — Ніцшэ», асабліва ў дачыненні структуры іх асоб (ніжэй яшчэ пойдзе гаворка аб гэтых перазовах). Не кажучы ўжо пра тое, што філасофія Ніцшэ — адзін з важнейшых духоўных стымулятараў як для самога Гесэ, так і для яго персанажа. Зрэшты, у мысліцельным задыяку пісьменніка аказваюцца Вагнэр, Бах і Моцарт, Кант, Шапэнгаўэр і Жан-Поль Рыхтэр, Гётэ, Брэнтана, Бадлер, Наваліс і Дастаеўскі, Фрэйд і Юнг, а таксама хрысціянства і філасофска-рэлігійныя сістэмы Усходу. Крыніц душэўна-духоўнага такое мноства, што звесці да адной з іх унутраны змест героя Гесэ не ўяўляецца ні магчымым, ні правільным. Пры ўсёй выключнасці, вобраз Галера ў найвышэйшай ступені збіральны (вось і яшчэ адна відавочная антытэза): гэта крызісны чалавек крызіснага часу, гэта, нарэшце, чалавек увогуле. «Гэты чалавек — зноў праматэрыял, неаформлены матэрыял душэўнай плазмы»,— скажа неяк Гесэ пра аднаго з герояў Дастаеўскага ў эсэ «Браты Карамазавы, ці Заняпад Еўропы» (1919). Гэтыя словы можна аднесці і да героя Гесэ — Стэпавага воўка Гары Галера.

«Біяграфіямі душы» называў свае творы Гесэ. І ў рамане «Стэпавы воўк» не вуліцы і дамы, не гасцёўні і рэстараны, а душа героя — сапраўднае месца дзеяння. Яна — эпіцэнтр усяго, што адбываецца, у ёй змадэлявана маральна-філасофска-псіхалагічная рэакцыя творчай — і ў літаральным, і ў шырокім, як у рамантыкаў, сэнсах слова — асобы на адзін з самых складаных перыядаў і ў культурным, і ў палітычным жыцці грамадства, перыяд краху былых каштоўнасцяў і пошуку новага светапарадку, новай гуманнасці, новай эстэтыкі, новых чалавечых узаемаадносін. Сам гэты час паміж сусветнымі войнамі дваісты: у ім, па словах Гесэ, «перакрыжоўваюцца дзве эпохі, дзве культуры, дзве рэлігіі».

Ці варта ў такім выпадку здзіўляцца дваістасці героя Гесэ, яго душэўнаму разладу? Рух, парывы душы наогул рэдка бываюць аднанакіраванымі. Успомнім прызнанне Фаўста, што гучыць, дарэчы, і ў свядомасці гесэўскага персанажа:

«Ах, дзве душы ў грудзях
зацяты бой
Вядуць і варагуюць
між сабой».
*(пер. В. Сёмухі)*

Такімі прызнаннямі, што прагучалі ў розныя эпохі, можна запоўніць вялікае мноства старонак. Аднак вось яшчэ адно, ніцшэўскае: «Вакол мяне заўсёды на аднаго чалавека больш, чым трэба... Бо заўсёды адзін на адзін — гэта атрымліваецца ў рэшце рэшт два!»

Своеасаблівую антыномію (вось мы і прыйшлі да яе, асноўнай, вакол якой будуецца ўся сістэма гесэўскіх антытэз) уяўляе сабой і душа Галера. Але ў чым яе своеасаблівасць? У тым, што складнікі гэтай антыноміі не заўсёды варожыя адна адной, часам яны нібы ўзаемаперацякаюць, узаемапранікаюць і нават адна адну сілкуюць. Праславутае адзінства процілегласцяў — вось, хутчэй, што гэта такое. Як вядома, у такім выглядзе гесэўская канцэпцыя асобы сфармавалася пад уплывам «аналітычнай псіхалогіі» К.-Г.Юнга, згодна з якой душа чалавека шматаблічная і зменлівая і ў той жа час усе яе праяўленні, нават пазасвядомыя, маюць заканамерны характар і могуць быць вытлумачаны На думку Юнга, асоба спалучае ў сабе «маску», «сацыяльную скуру», ролю, з аднаго боку, і ўнутраную сутнасць, сапраўднасць, «самасць» (Selbst) — з другога.

Менавіта сваёй дваістасцю, трагічным унутраным разладам прыцягвалі ўвагу Гесэ вялікія творцы. Дастаеўскі, напрыклад, быў блізкі Гесэ тым, што сукупнасцю сваіх герояў ён стварыў «чалавека еўрапейскага крызісу», якога нельга звесці ні да паэта, ні да святога, ні да злачынцы: у ім усё гэта суіснуе. «У гэтым чалавеку знешняе і ўнутранае, дабро і зло, бог і д'ябал непарыўна злітыя»,— піша Гесэ ва ўжо цытаваным эсэ «Браты Карамазавы, ці Заняпад Еўропы». «Бог, які адначасова і д'ябал,— гэта ж старажытны дэміург,— працягвае Гесэ.— Ён быў спрадвечна; ён, адзіны, знаходзіцца па той бок усіх супярэчнасцяў, ён не ведае ні дня, ні ночы, ні дабра, ні зла. Ён — нішто, і ён — усё. Мы не можам пазнаць яго, бо мы пазнаем што-небудзь толькі ў супярэчнасцях, мы — індывідуумы, прывязаныя да дня і ночы, да цяпла і холаду, нам патрэбны бог і д'ябал».

Воўчы і чалавечы пачаткі спалучаюцца ў душы героя Гесэ,





кожны з якіх можа ў якісьці пэўны момант дамінаваць, але ніколі не існуе аўтаномна: вобраз «воўка» ў Гесэ ўпершыню з'яўляецца ў апавяданні «Воўк» (1907), сустракаецца ў нататках 20-х гадоў («стэпавы звер»), у лірычным дзённіку «Крызіс» (1925). Як вядома, «воўк» можа разглядацца як вобраз-сімвал трохсэнсавы. міфалагічны, філасофскі, псіхалагічны. У якасці першага воўк — зааморфны сімвал злога, дэманічнага, д'ябальскага. У якасці другога ён знаходзіць увасабленне ў філасофіі Ніцшэ: гэта чалавек-адзінотнік, «геній», «звышзвер», які рашаецца супрацьпаставіць сябе «статку». Найважнейшым з гэтай градацыі сэнсаў з'яўляецца псіхалагічны: «воўк» гэта сфера пазасвядомага, інстынктыўнага жыцця, якое, на думку Гесэ, належыць прывесці да гарманічнага суіснавання з жыццём свядомым, мэтанакіраваным, сацыяльна і маральна арыентаваным. Менавіта два апошнія — філасофскі і псіхалагічны — аспекты найбольш распрацаваныя Гесэ. Пры гэтым яны пераплецены, як, можа, ні ў кога з мастакоў слова: яго герой — геній, але — «геній пакуты», геній душэўна-духоўнага жыцця, такога напружанага, быццам Гары Галеру наканавана стаць пакутнікам за ўсіх, Хрыстом, што ўсвядоміў таямніцу існавання і праз гэта прыйшоў да прадоння адзіноты, стаў ворагам для ўсіх «правільных», «нармальных».

Душа Галера — трагічная, бо разлад, раскол — яе стыхія, а ці не душэўны разлад быў заўсёднай і найгалоўнейшай прыкметаю трагічнага героя? Гары — чужаніца, пан-адасоблены ад «астатніх»: «...я і ёсць той самы стэпавы воўк... звер, які апынуўся ў чужым незразумелым свеце і не знаходзіць сабе ні радзімы, ні ежы, ні паветра». Але герой не быў бы гесэўскім героем, калі б і тут не давала аб сабе знаць яго дваістасць: праз татальную адчужанасць амаль крычыць страснае жаданне «далучанасці», своеасаблівага паяднання з чалавецтвам, каб «усе належалі мне, усім належаў я».

Дваістасцю, суіснаваннем «воўчага» і «чалавечага», цялеснага і духоўнага, інстынктыўнага і свядомага пазначаны кожная думка, кожны ўчынак героя. У гэтым аўтсайдэры, чый заўсёды стан — мроя, а запаветная мара — астральныя вышыні і роўнасць з «бессмяротнымі», жыве прага звычайнага цяпла, утульнасці, жаночай пяшчоты, тая самая патрэба ў любові і прызнанні, якую геніяльна проста выказаў калісьці Паскаль — адзін з улюбёных Гесэ і яго персанажам мысліцеляў: «Мы валодаем такім высокім уяўленнем аб чалавечай душы, што не можам пераносіць, калі намі ў душы пагарджаюць і калі ніводная душа нас не цэніць». Найбольш глыбокае ўвасабленне — і вытлумачэнне — матыў дваістасці знаходзіць у раздзеле «Трактат пра Стэпавага воўка»: у Галеры «дзве прыроды, чалавечая і воўчая». Адной часткай сваёй душы Галер сцвярджае тое, што другой — абвяргае. Больш таго, ён нават не з дзвюх натур складаецца, ён змяшчае ў сабе сотні, тысячы розных Галераў. «Цела кожнага цэласнае, душа — не». Тым больш душа чалавека крызіснага, чалавека, які з'яўляецца не чымсьці застылым, а «нейкім пераходам», спробай ачалавечання, якое пісьменнік і яго герой разумелі яшчэ і як шлях да геніяльнасці ва ўсіх яе праяўленнях. Пісаў жа Ніцшэ ў «Чалавечым, надта чалавечым» аб «геніяльнасці справядлівасці». «І я не магу,— зазначаў ён,— ацаніць яе ніжэй, чым якую-небудзь філасофскую, палітычную ці мастакоўскую геніяльнасць». Чаму ў такім разе нельга гаварыць аб геніяльнасці душэўных пакутаў ці, напрыклад, аб імкненні да геніяльнага гарманічнага існавання? Калі ёсць мэта ў гесэўскага героя, то гэта менавіта найвышэйшая душэўная цэласнасць, што спалучала б у сабе волю, індывідуальнасць і — далучанасць да ўсеагульнага, будзённае, зразумелае і — сакральнае, недаступнае звычайнаму разуменню. Галер прагне таго і іншага; ён, гаворачы словамі Ніцшэ, «лабірынтны чалавек» у пошуках не столькі ісціны, колькі сваёй Арыядны.

Апафеоз гэтых пошукаў увасоблены Гесэ ў «магічным тэатры» — разгорнутай метафары эзатэрычнай сферы, сімвале душы гесэўскага героя і чалавечай душы ўвогуле з усімі яе, часта палярнымі, магчымасцямі. Сцэны з «магічным тэатрам» — гэта сапраўдны паноптыкум апрадмечаных душэўных іпастасяў; мая першая асацыяцыя гэтых эпізодаў — з Вальпургіевай ноччу, матыў якой у літаратуры XX ст. асабліва моцна прагучаў у «Чароўнай гары» Т.Мана. Але экстатычная, па-сюррэалісцку дэсанансная атмасфера «магічнага тэатра» — гэта не толькі экстракт чалавечай душы ў стане яе расколатасці; гэта, безумоўна, і парадыгма свету, што ўпэўнена крочыў насустрач фашызму і другой сусветнай вайне. У другой палове 20-х гадоў да вобраза крывавай бойні звяртаецца шмат хто з мастакоў — суайчыннікаў Гесэ, якімі якраз і кіравала прадбачанне блізкай ужо катастрофы.

Вядомы расійскі літаратуразнаўца С.Аверынцаў звяртае ўвагу на тое, што герой Гесэ паўстае ў сцэнах з «магічным тэатрам» не ў самым лепшым выглядзе. Сапраўды, уражанне такое, нібыта свядомасць і пазасвядомасць персанажа, яго душа захоплены апакаліптычнымі канвульсіямі, у якіх б'ецца свет падчас нейкага зацьмення. Паспрабаваць — не, не апраўдаць — патлумачыць стан героя можна словамі самога Гесэ з усё таго ж эсэ «Браты Карамазавы, ці Заняпад Еўропы», тым больш што ў дадзеным выпадку размова ідзе пра Карамазавых умоўных, інакш кажучы — пра пэўны тып, з якім судакранаецца і Стэпавы воўк. «Гэтыя людзі адрозніваюцца ад іншых, ранейшых людзей парадку, разліку, выразнай станоўчасці, па сутнасці, толькі тым, што яны столькі ж жывуць унутры сябе, колькі звонку, тым, што ў іх вечныя праблемы з уласнай душой. Карамазавы здольныя на любое злачынства, але ўчыняюць яны злачынства толькі як выключэнне, бо ім часцей за ўсё дастаткова здзейсніць злачынства ў думках, у сне, у гульні з магчымасцямі. У гэтым іхняя таямніца».

Дадамо: не толькі таямніца, але і разгадка. У Галеры жыве Фаўст, як жыве ён у той ці іншай ступені ў кожнай асобе. Душэўны разлад можа прымусіць чалавека зазірнуць у прадонне смерці або злачынст-

ва; але калі ён знойдзе ў сабе сілы ўстояць «на ўскрайку», яго ўнутранае супрацьстаянне мае шанц набыць іншы накірунак. Як у Гётэ: «смерць для новага жыцця». Так і для героя Гесэ «веданне зла» (Kenntnis Unmoral) павінна закончыцца пераадоленнем гэтага зла, станам іншабыцця. (Зрэшты, Гесэ — далёка не адзіны пісьменнік, чые персанажы праходзілі праз — так бы мовіць — саўдзел менавіта ў стане трансу.)

Як гэта ні дзіўна, якраз сцэны з «магічным тэатрам» умацоўваюць у правамернасці паралелі «Стэпавы воўк» — Ніцшэ». Дарэчы, цікава было б на матэрыяле твораў Ніцшэ і рамана Гесэ зрабіць параўнальны аналіз тэксту філасофскага і тэксту мастацкага, пры гэтым з твораў Ніцшэ могуць быць прыцягнуты і «Нараджэнне трагедыі», і «Так сказаў Заратустра», і «Чалавечае, надта чалавечае»... Але гэта ўжо тэма іншага эсэ ці артыкула. Тут жа абмяжуюся толькі некаторымі амаль відавочнымі аналогіямі паміж Ніцшэ і героем Гесэ. Абодва ўсведамляюць сваё месіянства, далучанасць да «бессмяротных», сваю геніяльнасць, абодвум уласцівая пакутлівая хваравітасць, як душэўна-маральная, так і фізічная; перадусім яна і ўтварае паміж Ніцшэ і персанажам Гесэ інтымнае, у пэўным сэнсе, падабенства. Тое ж будзе потым назірацца паміж Ніцшэ і героем рамана Т.Мана «Доктар Фаўстус».

«Геній пакуты» — так вызначыў сутнасць свайго Стэпавага воўка Гесэ. «Ва ўсе ўзросты майго жыцця я зведваў неймаверны лішак пакутаў»,— заканстатуе адночы Ніцшэ. Звыклая духоўная і фізічная адзінота, пустэльнасць акаляючага свету, бездухоўнасць, амерыканізаванасць (у Гесэ адным з сімвалаў яе з'яўляецца джаз), паглыбленасць у сябе і свой час — час дэкадансу, сконy, вечныя блуканні, самотніцтва; лекі, бессань, рэдкія імгненні шчасця, падоранья жанчынай ці музыкай, што даводзіць да слёз і болю, сапраўднае донжуанства пазнання, фанатычны пошук сябе цэласнага — усё гэта і шмат што іншае аднолькава ўласціва і герою Гесэ, і яго — падкрэслю, на маю суб'ектыўную думку — слыннаму прататыпу. Можна было б знайсці цэлы шэраг адпаведнасцяў, амаль літаральных супадзенняў у выказваннях, падводзінах, адчуваннях Ніцшэ і гесэўскага персанажа. Што датычыцца сцэн з «магічным тэатрам», то яны могуць успрымацца як надзвычай своеасаблівая метафара калі не ўсяго жыцця вялікага філосафа, дык амаль несумненна — апошніх гадоў, якія папярэднічалі вар'яцтву і аб якіх С.Цвэйг у эсэ «Фрыдрых Ніцшэ» (1925) пісаў як аб смяротна балючых «ускрыццях уласнага цела», любаярліва-жорсткіх «бясконцых аўтадафэ», празе «дабяла распаліць сваё пякучае адчуванне быцця», «скоках над безданню». «Полымя — вось мая душа»,— усклікнуў Ніцшэ ў адным са сваіх вершаў. Тое ж мог бы сказаць пра сябе і герой Гесэ. «Толькі для вар'ятаў» — папярэджвае надпіс над уваходам у «магічны тэатр» і на вокладцы «Трактата пра Стэпавага воўка». «Кніга для свабодных розумаў» — папярэджвае Ніцшэ чытачоў «Чалавечага, надта чалавечага». (Для «Ідыётаў» — мог бы сказаць аб сваіх кнігах Дастаеўскі.) «Вар'яты», «Ідыёты», «свабодныя» — усё гэта людзі як не з гэтага свету, яны заўсёды ў пошуку, у самастварэнні, каб урэшце прыйсці да стану «дзіцяці» — той, згодна з Ніцшэ, апошняй стадыі ў духоўных метамарфозах чалавека, якая абяцае далейшае, стваральнае, жыццё (слова «дзіця» не аднойчы гучыць у рамане Гесэ). Відавочныя, на мой погляд, і паразовы кантраверсы «чалавек — воўк» у Гесэ са славутай ніцшэўскай антыноміяй апаланізму і дыянісійства.

Гесэўскай канцэпцыі душы з яе двайстасцю, імкненнем да пераадолення хаосу, да касмічнай гармоніі адпавядае і архітэктоніка «Стэпавага воўка». Першая яго частка, канкрэтна-падзейная,— гэта погляд на Гары Галера «знізу», погляд свету мяшчанскага, якім герой пагарджае. Другая — «Трактат пра Стэпавага воўка» — медытатыўная; гэта позірк «зверху», тых, каму як быццам усё вядома і кім усё прадвызначаецца. І, нарэшце, трэцяя — самы экспрэсіўны, пранізлівы аповед з усіх трох, які толькі і дае поўнае ўяўленне аб душэўна-духоўнай існасці героя, бо ні богу, ні д'яблу, а толькі самому чалавеку і адкрываюцца патаемныя глыбіні яго ўласнай душы.

Сваю канцэпцыю душы Гесэ ўвасабляе ў разнастайных сімвалах, якія, пры ўсёй сваёй шматлікасці і шматзначнасці, строга суадносяцца адно з адным і з ідэяй твора. Асобныя з іх выконваюць функцыю інфернальную (перадусім гэта «люстэрка», «вада», «сцяна»); некаторыя («ноч», «мокры асфальт», «зіхатлівы след») выстройваюцца амаль у блокаўскае: «Ноч. Вуліца. Ліхтар...», ператвараючы раман у шчымлівую песню душы.

Абрываецца песня, знікае яе выканаўца. Але не гэта самае важнае. Важна, на якой ноце яна абрываецца. Дый ці абрываецца? Ці можа знікнуць, канчыць самагубствам чалавек, чыя, я б сказала, усепрысутнасць і пасля прачытання кнігі адчуваецца амаль фізічна? У пасляслоўі да аднаго з выданняў рамана Гесэ пісаў: «Зразумела, я не магу, ды і не хачу прадпісваць чытачу, як яму належыць успрымаць мой расповед. Няхай кожны возьме з яго тое, што палічыць для сябе вартым і патрэбным! Тым не менш мне было б прыемна, калі б шмат хто з чытачоў заўважыў, што гісторыя Стэпавага воўка хоць і паказвае хваробу і крызіс, аднак не хваробу, што вядзе да смерці, не гібель, а яе процілегласць: вылекаванне».

Пад заслону зададзімо ніцшэўскае: «Што гэта дае мне?..» Што творчасць Гесэ дае нам сёння, калі, кажучы словамі з пастарнакаўскага «Гамлета», «ідзе іншая драма»? Ды пакуль не такая яна ўжо іншая: і час наш — крызісны, і асоба ўсё яшчэ застаецца праблемай, і пытанні Стэпавага воўка — надзённыя і нават вечныя, і чалавек па-ранейшаму прадзіраецца скрозь старую шкарлупіну да новага жыцця, новай любові. І калі нехта ў канцы XIX ст. сцвярджаў, што Сафокла ад Гётэ аддзяляе адна гадзіна культурнага развіцця, а Гётэ ад канца стагоддзя — дваццаць чатыры гадзіны, дык у такім разе пра душэўныя пакуты героя Гесэ, мастака, які пайшоў з жыцця нейкія тры дзесяцігоддзі таму, можна гаварыць амаль у цяперашнім часе.

Ева ЛЯВОНАВА



# Патрык ЗЮСКІНД

ЯНЫ

# ПАРФУМА

## ГІСТОРЫЯ АДНАГО ЗАБОЙЦЫ

*Раман*

**15**

Грануй найперш адкаркаваў бутлю з вінным спіртам. Добра напяўшыся, ён падняў цяжкую пасудзіну амаль на вышыню свайго росту, бо якраз так высока стаяў змяшальнік з насаджанай на яго лейкай, куды ён без мензуркі ўліў алкаголь проста з балона. Бальдзіні здрыгануўся, убачыўшы такое жахлівае блюзнерства і бездапаможнасць, мала таго, што хлопец перавярнуў дагары нагамі ўвесь парфумніцкі светапарадак, пачаўшы з растваральніка і не маючы пры гэтым канцэнтрату, які трэба разбавіць,— у яго і фізічнай сілы на гэта не было! Ён дрыжаў ад натугі, а Бальдзіні зусім падупаў з духу і толькі чакаў, што цяжкі балон вось-вось грымнецца і ўдрузг разнясе ўсё на стале.. Свечкі, думаў ён, госпадзе, толькі б не абярнуў свечкі! Будзе выбух, ён мне пусціць дымам увесь дом! . І ўжо хацеў быў кінуцца да стала, каб вырваць у вар'ята балон, але тут Грануй сам паставіў яго на месца, пасля апусціў на падлогу і зноў закаркаваў У змяшальніку калыхалася лёгкая празрыстая вадкасць — ні кропелькі не пралілося міма Некалькі імгненняў Грануй пераводзіў дух з такім задаволеным тварам, быццам самая цяжкая праца ўжо зроблена. І праўда, усё далейшае пайшло так шпарка, што Бальдзіні ледзьве паспяваў заўважаць паслядоўнасць альбо хоць парадак аперацый, не кажучы пра тое, каб разумець працэс.

Здавалася, Грануй наўздагад хапаў той ці іншы флакон з духмянай эсэнцыяй, вымаў з яго шкляны каранец, на секунду падносіў да носа змесціва, а потым вытрэсваў з адной бутэлечкі, накапваў з другой, выплёхваў з трэцяй у лейку і так далей Да піпеткі, прабіркі, лыжачкі і мяшалкі — прыладаў, якія дазвалялі парфумніку авалодаць складаным працэсам змешвання, — Грануй не дакрануўся ні разу Ён быццам забаўляўся, як малое дзіця, якое хлюпае, плёскае і плешчацца з вадою, травою і гразёю, забоўтвае нейкую калатушу, а потым заяўляе, што гэта, бычыце, суп. Так, як дзіця, думаў Бальдзіні, і з выгляду дзіця, нягледзячы на гузаватыя рукі, рабы, увесь у шнарах і воспінах твар і старэчы нос бульбінай. Ён здаўся мне старэйшым, чым ён ёсць, а цяпер здаецца маладзейшым, ён быццам двойчы і тройчы, як тыя недаступныя, неспасцігальныя, капрызныя маленькія недачалавекі, якія нібыта нявінна ду-

*Працяг. Пачатак у № 7 (1 — 2, 1995).*

маюць толькі пра сябе, хочуць у свеце ўсё падначаліць і нават могуць гэта зрабіць, калі не акілзаць іх манію велічы, не ўжыць да іх самых строгіх выхаваўчых мер і не прывучыць іх да дысцыплінаванага існавання паўнацэнных людзей Такі вось маленькі фанатык агнездаваўся ў гэтым маладым хлапчаняці; з агнём у вачах стаіць ён каля стала, забыўшыся на ўсё навокал, не ўсведамляючы, што ў майстэрні ёсць яшчэ нешта апрача яго і гэтых флаконаў, якія ён няўклюдна, але борздзенька падносіць да лейкі, каб змяшаць сваю ідыёцкую суп-калатушу, а потым катэгарычна настойваць — а яшчэ і верыць у гэта! — што ён склаў вытанчаныя духі «Амур і Псіхея». У мігатлівым святле свечак Бальдзіні бачыў, як цынічна і самаўпэўнена ўпраўляўся чалавек каля стала,— і жахаўся ад агіды! Такіх, як гэты, падумаў ён і на нейкі момант адчуў тую самую горыч, і роспач, і шаленства, як і раней, у змроку, калі глядзеў на ахоплены чырвоным заравам горад,— такіх раней не было; гэта цалкам новы экземпляр чалавечай пароды, ён мог узнікнуць толькі ў эпоху расхлябанага, распуснага бясчасся...

Але яго трэба правучыць, гэтага самаўпэўненага хлопца! Хай вось толькі скончыць свой смяхотны спектакль, яму ўжо будзе адважана, ён выпаўзе адгэтуль ракам, нікчэма! Дрэнь! Сённяшнім часам увогуле ні з кім не варта звязвацца, столькі навокал усякай набрыдзі кішыць! Бальдзіні так захапіўся сваім абурэннем і гідлівасцю да эпохі бясчасся, што не адразу ўцяміў, чаму Грануй раптам пазатыкаў усе флаконы, зняў лейку, а саму бутлю ўхапіў за рыльца, прыкрыў левай далоняй і моцна страсянуў Толькі калі бутля некалькі разоў перавярнулася ў паветры, а яе каштоўнае змесціва рванулася, як ліманад з жывата ў горла і назад, у Бальдзіні вырваўся лямант гневу і жаху. «Стой! — хрыпла застагнаў ён.— Годзе! Перастань! Баста! Пастаў бутлю на стол і больш нічога не чапай, ясна? Больш нічога пальцам не руш! Мусіць, я зусім ужо з'ехаў, наслухаўшыся тваёй дурной балбатні Тое, як ты за ўсё хапаешся, твая грубасць, твая прымітыўная тупасць паказваюць, што ты нічога не петрыш, што ты варвар і невук і да таго ж нахабны смаркач. Ты не можаш змяшаць ліманад, табе нельга даверыць гандляваць простай лакрычнай вадой, а ты лезеш у парфуму! Будзь рады і дзякуй, што твой гаспадар дапускае цябе да дубільнага расолу! І ніколі, чуеш ты, ніколі не пераступай парога ў дом да парфумніка!»

Так кіпеў Бальдзіні. І пакуль ён гневаўся, прастора вакол яго напоўнілася пахам «Амура і Псіхеі». У духмянасці ёсць пераканаўчасць, якая мацнейшая за словы, відавочнасць, адчуванне, волю. Пераканаўчасць паху неабвержная, неадольная, яна ўваходзіць у нас, як уваходзіць у нашыя лёгкія паветра, якім мы дыхаем, яна напаўняе, запаўняе нас па берагі

Грануй адставіў бутлю, зняў з рыльца мокрую руку і выцер яе аб куртку Адзін, два крокі назад, няўклюдны паклон усім целам пад градам павучанняў Бальдзіні дастаткова ўскалыхнулі паветра, каб разнесці толькі што створаны водар. Хоць Бальдзіні яшчэ бушаваў, і выклінаў, і лаяўся, з кожным уздыхам яго шаленства ўсё больш выдыхалася. Ён здагадваўся, што пераможаны, таму фінал ягонай прамовы змог узнесціся толькі да пустога пафасу Ён змоўк, даволі доўга маўчаў, і яму ўжо лішні быў Грануеў даклад. «Гатова». Ён і так усё ведаў

Але нягледзячы на гэта, хоць яго з усіх бакоў апанаваў пах «Амура і Псіхеі», ён падышоў да старога дубовага стала зняць пробу Дастаў з кішэні каптана, з левага, свежую беласнежную карункавую хустачку, расправіў яе і змачыў некалькімі кроплямі, якія высмактаў доўгай піпеткай са змяшальніка. Памахаўшы хустачкай у выцягнутай руцэ, каб выветрыць, ён потым капрывычным далікатным рухам правёў яе ў сябе пад носам, уцягваючы пах. У час доўгага выдыху ён вымушаны быў прысесці на зэдлік. Яшчэ хвіліну назад яго твар быў барвовы ад шалу — цяпер ён раптам спалатнеў.

—Неверагодна,— ціха прамармытаў ён,— далібог, так не бывае. — Ён зноў і зноў прыціскаў хустачку да носа, і прынюхваўся, і круціў галавой, і мармытаў' «так не бывае». Гэта былі «Амур і Псіхея», несумненна «Амур і Псіхея», ненавісная, геніяльная сумесь пахаў, скапіраваная з такой дакладнасцю, што і сам Пелісье, пабажыцца можна, не здолеў бы адрозніць яе ад свайго прадукту «Не, так не бывае...»

Маленькі і бледны, сядзеў вялікі Бальдзіні на зэдліку і выглядаў смешна са сваёй хустачкай у руцэ, ён сюд-туд прыціскаў яе да носа, як паненка з насмаркам. Ён проста страціў дар мовы Ён ужо нават не мог вымавіць «не, так не бывае!», а толькі ціха ківаў і ківаў галавой, неадрыўна гледзячы на змяшальнік, і манатонна лапатаў' «Гм, гм, гм. гм, гм, гм.. гм, гм, гм...» Праз нейкі час Грануй наблізіўся і моўчкі, як цень, падышоў да стала

—Гэта кепскія духі,— сказаў ён,— яны вельмі няўмела складзены, гэтыя духі.





—Гм, гм, гм,— сказаў Бальдзіні, а Грануй — далей

—Калі вы дазволіце, мэтр, я іх папраўлю. Дайце мне адну хвілінку і я складу вам з іх прыстойныя духі!

—Гм, гм, гм, — сказаў Бальдзіні і кіўнуў Не таму, што ён згадзіўся, а таму што быў такі апатычна бездапаможны, што толькі і мог сказаць «гм, гм, гм», і нават не спрабаваў умяшацца, калі Грануй другі раз прыступіўся да справы, другі раз наліў спірту з балона ў змяшальнік — у тыя духі, што ўжо ў ім былі, другі раз як бы наўгад, не трымаючыся ні пасля-доўнасці, ні прапорцыі, абярнуў у лейку змесціва флаконаў. Толькі пад канец усёй працэдуры — гэтым разам Грануй не трос бутлю а толькі асцярожна нахіляў яе, як келіх з каньяком, магчыма, з павагі да датклівасці Бальдзіні, а можа, таму, што гэтым разам змесціва здавалася яму больш каштоўным — дык вось цяпер, калі ўжо гатовая вадкасць калыхалася ў бутлі, Бальдзіні выйшаў з шоку і падняўся з зэдліка, зразумела, усё яшчэ прыціскаючы да носа хустачку, быццам хацеў засланіцца ад новага напору на ягоную душу.

—Гатова, мэтр,— сказаў Грануй.— Цяпер атрымаўся зусім неблагі пах.

—Так, так, добра,— адказваў Бальдзіні, адмахваючыся вольнай рукою.

—Вы не хочаце ўзяць пробы? — зноў завуркатаў Грануй.— Няўжо не будзеце мэтр? І не паспрабуеце?

—Потым, цяпер я не схільны да пробаў. мне не да іх. Цяпер ідзі! Ідзі сюды!

І ён узяў свечнік і пайшоў да дзвярэй у лаўку Грануй за ім. Вузкім калідорам яны прайшлі да чорнага ходу Стары, шаркаючы, падышоў да нізкіх дзверкаў, адвёў засаўку, адчыніў і ступіў убок, каб прапусціць хлопца

—А цяпер мне ўжо будзе можна працаваць у вас, мэтр, можна? — спытаўся Грануй, ужо на парозе, зноў згорблены, зноў насцярожаны.

—Не ведаю,— сказаў Бальдзіні,— я падумаю Ідзі!

І тады Грануў умомант знік, прапаў паглынуты цемрай Бальдзіні стаяў і глядзеў у ноч. У правай руцэ свечнік, у левай хустачка, як чалавек, у якога з носа пайшла кроў, а адчуваў усё-такі толькі страх. Ён хуценька зачыніў дзверы на засаўку Потым адняў ад твару хустачку, сунуў яе ў кішэню і праз лаўку вярнуўся ў майстэрню.

Пах быў такі нябесна прыемны, што ў Бальдзіні аж слёзы нагарнула. Яму не трэба было браць пробы, ён толькі стаяў каля стала і дыхаў Парфума была цудоўная У параўнанні з «Амурам і Псіхеяй» гэта было — як сімфонія перад адзінокім пілікannем скрыпкі. І яшчэ нешта большае. Бальдзіні заплюшчыў вочы, і ў ім прачнуліся самыя ўзнёслыя ўспаміны Ён убачыў сябе маладым кавалерам на шпацыры ў садах вечаровага Неапаля, ён убачыў сябе ў абдымках прыгожай смуглянкі, убачыў сілуэт букета ружаў на падваконні пад парывамі начнога ветру: ён пачуў зусім блізка, над вухам. шэпт' «Я кахаю цябе» і адчуў, як у яго ад асалоды валасы заварушыліся, цяпер! цяпер, у гэтую хвіліну, у гэта самае імгненне! Ён расплюшчыў вочы і застагнаў ад шчасця Гэтыя духі былі не духі, вядомыя дагэтуль. Гэта быў не водар, які паляпшае ваш пах, не нацiранне, не прадмет туалету Гэта была своеасаблівая, новая рэч, якая магла выдабыць з сябе цэлы свет, чароўна багаты свет, і вы адразу забывалі ўсё мярзотлівае, што было навокал, і адчувалі сябе такім багатым, такім удачлівым, такім добрым

Валасы на галаве ў Бальдзіні ўлегліся, і яго агарнуў дурманлівы душэўны спакой. Ён узяў скуру, казліныя скуры што ляжалі на краі стала, узяў нож і раскроіў скуру Потым склаў кавалкі ў шкляную кювету і заліў іх новымі духамі. Потым накрыў кювету шкляной пласцінай, пераліў рэшту духмянасці ў два флакончыкі, наляпіў на іх этыкеткі, а на іх напісаў назву «Неапалітанская ноч». Потым патушыў святло і выйшаў

Наверсе, на вячэры, ён нічога не сказаў жонцы Найперш ён нічога не сказаў жонцы пра ўрачыста-святое рашэнне, якое прыняў удзень. Жонка яго таксама нічога не сказала, бо заўважыла, што ён павесялеў, і была з гэтага вельмі радая Не пайшоў ён і ў Нотр-Дам дзякаваць Богу за сілу свайго характару Вой, у гэты дзень ён упершыню забыўся памаліцца нанач.

## 16

На раніцу ён выправіўся да Грымаля. На добры пачатак заплаціў за лайку заплаціў цалкам, без лішняга торгу і буркатні. А потым запрасіў Грымаля ў «Срэбную вежу» на пляшку белага і выкупіў у яго вучня Грануя Зразумела не сказаў, чаму і навошта той яму спа-

трэбіўся Нахлусіў нечагась пра буйны заказ на пахучую лайку, а для яго выканання яму патрэбен неабвучаны памагаты Патрэбна, сказаў, сціплае хлапчо, каб выконвала просценькія даручэнні, кроіла скуры і ўсякае такое іншае. Ён заказаў яшчэ адну пляшку і прапанаваў дваццаць ліўраў адшкадавання за нязручнасці Грымалю пасля зыходу Грануя. Дваццаць ліўраў былі сума немалая Грымаль адразу згадзіўся. Яны вярнуліся ў гарбарню, дзе Грануй, як ні дзіўна, ужо чакаў з клуначкам. Бальдзіні заплаціў тыя дваццаць ліўраў і тут жа, ведаючы, што гэта самы лепшы гешэфт у ягоным жыцці, забраў хлопца з сабой

Грымаль, які быў таксама пераканаsuccessful, што пафартуніла яму нарвацца на дурніцу, вярнуўся ў «Срэбную вежу», спаражніў там яшчэ дзве пляшкі, потым, пад полудзень, перабраўся ў «Залаты леў» на другім беразе, напіўся яшчэ і там пад самую загнетку і, калі позна ўвечары спрабаваў зноў перабрацца ў «Срэбную вежу», пераблытаў вуліцы Жафруа л'Анье і Нонэндзье і, замест таго, каб, як ён лічыў, апынуцца на мосце Мары, фатальным чынам трапіў на набярэжную Вязаў, адкуль шабоўтнуўся ў ваду як у мяккі ложак. Ён памёр імгнення Аднак рацэ спатрэбіўся яшчэ нейкі час, каб звалачы яго з плыткага, міма прышвартаваных лодак, на большую быстрыню, і толькі рана раніцай гарбар Грымаль, ці хутчэй яго набрынялы труп, ціха сплыў уніз па рацэ, на захад.

Калі ён праплываў міма моста Мяняйлаў бясшумна, не чапляючыся за апоры, Жан-Батыст Грануй за дваццаць метраў над ім якраз укладваўся спаць. Яму быў пастаўлены тапчан у заднім кутку майстэрні Бальдзіні, і цяпер ён збіраўся легчы, тым часам як яго былы гаспадар, распластаўшыся, плыў уніз па халоднай Сене Грануй з прыемнасцю згарнуўся і зрабіўся маленькі, нібы клешч. Засынаючы, ён усё глыбей апускаўся ў самога сябе і трыумфальна ўязджаў у сваю ўнутраную фартэцыю, дзе ён святкаваў у крозах нейкую перамогу нюху, гіганцкую оргію з густым дымам ладану і міры ў свой гонар.

## 17

Набыццё Грануя сталася пачаткам узлёту фірмы Джузэпэ Бальдзіні да нацыянальнай і нават еўрапейскай вядомасці Персідскі званочак дзылінкаў не аціхаючы чаплі беспераcтанку фантанавалі ў лаўцы на мосце Мяняйлаў

Першага ж вечара Граную давялося намяшаць вялікі балон «Неапалітанскай ночы», з якога на другі дзень было прададзена восемдзесят флаконаў Слава гэтых пахошчаў шырылася з шалёнай хуткасцю. У Шанье ўваччу рэзала столькі давялося пералічыць грошай, і забалела спіна ад нізкіх паклонаў А аднаго разу дзверы — на ўсю сцежу! і заходзіць лёкай самога графа д'Аржансона і крычыць, як умеюць крычаць толькі лёкаі, што — падавай яму аж пяць бутэлек новай парфумы, і Шанье яшчэ чвэрць гадзіны пасля таго як той сышоў дрыжаў ад пачцівага страху. бо граф д'Аржансон быў Інтэндант і Ваенны міністр Яго Вялікасці і самы ўплывовы чалавек у Парыжы.

Пакуль Шанье адзін адбіваў у лаўцы налёты пакупцоў Бальдзіні з сваім новым вучнем замкнуўся ў майстэрні Каб неяк апраўдаць гэта, ён паднёс Шанье нейкую фантастычную тэорыю, якую назваў «рацыяналізацыяй і падзелам працы» З ягоных слоў выходзіла, што ён гады-гадамі цярпліва сачыў, як Пелісье і такія, як ён суб'екты пагарднікі і пагрэбнікі цэхавых традыцый адбівалі ў яго кліентуру і пэцкалі рэпутацыю фірмы Але цяпер яго прарвала. Цяпер ён прымае іх нахабны выклік і заплаціць гэтым выпаўзням гэтым выскачкам, гэтым выкалупням той самай манетай. Штосезону, штомесяца, а калі спатрэбіцца, дык і штотыдня ён будзе дэбютаваць новымі духамі — і якімі ж духамі! Ён адкрывае залатадайную жыліну сваёй творчасці. А дзеля гэтага трэба, каб ён паслугуючыся толькі неабвучаным чалядніком, цалкам аддаўся вырабу духмянасцяў, тым часам як Шанье павінен прысвяціць сябе выключна іх збыту Гэтая сучасная метода, уталкоўваў ён Шанье, адкрые новы раздзел у гісторыі парфумнага мастацтва змяце канкурэнтаў і зробіць нас бясконца багатымі — так, ён свядома і падкрэслена казаў «нас», бо збіраўся адшчыкнуць свайму старому адданаму чалядніку пэўны працэнт ад гэтых «бясконцых» багаццяў

Яшчэ некалькі дзён назад Шанье палічыў бы такія словы свайго гаспадара знакам пачатку старэчага маразму «Ну вось, ён гатовенькі для «Шарытэ»,— падумаў бы ён — Яшчэ крыху, і ён зусім звіхнецца»

Але цяпер ён больш нічога такога не думаў Не было калі думаць — зашмат працы А працы было аж так шмат, што вечарамі ён ледзь знаходзіў у сабе сілу апаражніць бітком набітую касу і адлічыць сабе сваю долю. Ён ні на хвіліну не засумняваўся ў законнасці прыбыткаў Бальдзіні ж ледзь не кожнага дня выходзіў з майстэрні з якім-небудзь новым водарам.

І якія ж гэта былі пахошчы! Не толькі духі найвышэйшай, самай найвышэйшай пробы, але і крэмы, і пудра, і мыла, і ласьёны для валасоў, і ўсякія прыціркі, і шмараванні Усё, што павінна было раскошна пахнуць, пахла цяпер па-новаму, і інакш, і раскашней, чым калі раней І на ўсё, сапраўды на ўсё, нават на араматызаваныя стужкі ў валасы, якія аднаго разу стварыў капрызлівы настрой Бальдзіні, публіка накідвалася, як ачмурэлая, і цэны не мелі аніякага значэння. Усё, што вырабляў Бальдзіні, мела поспех, сапраўдны суксэс. І поспех гэты так уражваў, што Шанье ўспрымаў яго як з'яву прыроды і больш не даследаваў ягоных прычын А ў тое, напрыклад, што новы вучань, нязграба і гном, што, як сабака, туліўся ў майстэрні, якога часам, калі майстар выходзіў з дому, можна было ўбачыць у глыбіні памяшкання, як ён мыў шклянкі і чысціў ступкі, у тое, што гэтая пустая мізэра нейк шчэпіцца да казачнага росквіту фірмы — вы што, зусім здурнелі? — Шанье не паверыў бы, нават калі б яму пабажыліся

Яно так, яно, канечне, гном меў дачыненне, гном пасабляў. Што Бальдзіні прыносіў у лаўку і пакідаў Шанье на продаж, было толькі невялікай часткай таго, што Грануй змешваў за зачыненымі дзвярыма. Бальдзіні даўно ўжо падвёўся на нюху. Часам вялікая пакута была выбраць з таго, што яму вырабляў Грануй. Гэты кудзеснік-вучань мог бы заваліць рэцэптамі ўсіх парфумнікаў Францыі, ні разу не паўтарыўшыся, ні разу не зрабіўшы чаго-небудзь непаўнацэннага, ужо не кажучы пра пасрэднае. Рэцэптамі, інакш кажучы — формуламі, ён якраз і не мог забяспечыць, бо спачатку Грануй ствараў свае араматычныя кампазіцыі тым хаатычным і цалкам непрафесійным спосабам, які быў вядомы Бальдзіні, а менавіта змешваючы інгрэдыенты, здавалася б, наўздогадзь, у дзікім беспарадку Каб не тое што кантраляваць, але хоць бы зразумець гэтую бязглуздзіцу, Бальдзіні аднаго разу запатрабаваў ад Грануя, каб той пры складанні сумесяў карыстаўся, хай без асаблівай патрэбы, хай для блізіру, вагамі, піпеткай і мензуркай — наперад прывыкай лічыць віннны спірт не пахучым рэчывам, а растваральнікам, які трэба дадаваць напаследак; і нарэшце, дзеля Бога, рабі ўсё павольна, грунтоўна і спакваля, як прынята ў парфумнікаў

Грануй выканаў загад. І ўпершыню Бальдзіні здолеў пасачыць і задакументаваць асобныя аперацыі гэтага чарадзейства. Ён сядзеў порбач з Грануем з пяром і паперай і запісваў, запісваў, увесь час заклікаючы не спяшацца — колькі грамаў таго, колькі шчэпцяў гэтага, колькі кропель чагосьці трэцяга Такім вось дзіўным чынам, а менавіта, наўздзагон аналізуючы працэс тымі сродкамі, без якіх ён, руку на сэрца, увогуле нічога не атрымаў бы, Бальдзіні, нарэшце, дабіўся сінтэтычнага рэцэпта Як мог Грануй без такога рэцэпта змешваць свае пахошчы, заставалася Бальдзіні загадкай і нават цудам, але цяпер ён, прынамсі звёў цуд да формулы, тым самым крыху спатоліў прагу да класіфікацыі і асланіў свае парфумерыстычныя погляды ад поўнага краху.

Ён усё выпытваў і выпытваў у Грануя рэцэпты пахошчаў, якія той выдумляў, пакуль ён, Бальдзіні, не з'явіцца з пяром і паперай, каб, як Аргус, сачыць за працэсам і крок за крокам дакументаваць яго. Свае нататкі — неўзабаве набралася некалькі дзесяткаў формул — ён потым педантычна перапісваў роўным почыркам у дзве розныя кніжачкі, адну ён замкнуў у незгаральнай шафе, а другую заўсёды меў пры сабе, а нанач клаў пад падушку Гэта дадавала яму ўпэўненасці Бо цяпер ён змог бы, каб захацеў, сам паўтарыць Грануевыя дзівосы, якія так уразілі яго, калі ён упершыню іх памацаў. Ён думаў, што калекцыя запісаных ім формул паставіць заслону жахліваму творчаму хаосу, які патокам выліваўся з самага нутра яго вучня А тая акалічнасць, што ён больш не проста запісваў у тупым здзіўленні, а, назіраючы і рэгіструючы, браў удзел у творчых актах, супакойвала Бальдзіні і мацавала ягоную самаўпэўненасць. Праз нейкі час ён паверыў, што сам унёс даволі істотны ўклад у стварэнне вытанчаных пахаў І, спачатку натуючы іх у сваіх кніжачках, а потым хаваючы ў сейфе і на грудзях, ён ужо наогул не сумняваўся, што цяпер яны цалкам яго ўласныя

Але і Грануй меў свае выгоды з дысцыплінаванай працэдуры, навязанай яму Бальдзіні. Самому, праўда, яна не была патрэбная Яму ніколі не залежала звярацца са старою формулай, каб праз некалькі тыдняў альбо месяцаў рэканструяваць склад духоў, бо ён ніколі пахаў не забываў Але дзякуючы абавязковаму карыстанню мензуркамі і вагамі, ён вывучыў мову парфюмерыі і інстынктыўна адчуваў, што веданне гэтай мовы магло яму спатрэбіцца. Праз

некалькі тыдняў Грануй не толькі авалодаў назвамі ўсіх духмяных рэчываў у майстэрні Бальдзіні, але навучыўся і самастойна запісваць формулы сваіх духоў і, наадварот ператвараць чужыя формулы і інструкцыі ў духі і розныя іншыя пахучыя вырабы. Больш за тое! Навучыўшыся выяўляць свае парфумныя задумы ў грамах і кроплях, ён пачаў абыходзіцца без ніякіх прамежкавых проб. Калі Бальдзіні даручаў яму скласці новы пах, скажам, каб араматызаваць насоўкі, для сухіх духоў альбо румянаў, Грануй больш не хапаўся за флаконы і парашкі, а проста сядаў за стол і тут жа запісваў формулу Ён навучыся падоўжваць дарогу ад свайго ўнутранага нюхальнага ўяўлення да гатовага прадукту за кошт вырабу формулы. У яго гэта была аб'язная дарога. З усімі прынятага пункту погляду, г зн з пункту погляду Бальдзіні, гэта, аднак, быў прагрэс. Цуды Грануя заставаліся цудамі. Але рэцэптура, якую ён цяпер пастаўляў, пазбаўляла іх страхотлівага німба, і гэта мела свае перавагі. Чым лепей Грануй авалодваў прафесійнымі прыёмамі і метадамі, чым нармальней ён умеў размаўляць на ўмоўнай мове парфюмерыі, тым менш апасаўся і гневаўся на яго гаспадар. Неўзабаве Бальдзіні пачаў лічыць яго чалавекам хоць і даволі ўталентаваным, што да нюху, але зусім не другім Франжыпані і, вядома ж, не нейкім вусцішным ведзьмаром, а Грануя гэта было якраз у самы акурат. Рамесныя ўлоўкі і жаргон служылі яму цудоўнаю маскіроўкай. Ён проста закалыхваў Бальдзіні ўзорным захаваннем правілаў, калі выважваў дабаўкі або калі трос змяшальнік, калі змочваў белую пробную хустачку Ён умеў распраўляць яе амаль гэтаксама манерна, праводзіць пад носам амаль гэтаксама элегантна, як і сам гаспадар. Але пры выпадку, асцярожна дазуючы інтэрвалы часу, ён рабіў памылкі, разлічаныя на тое, каб Бальдзіні іх заўважыў; забываўся нешта прафільтраваць, няправільна ставіў вагі, упісваў у формулу недарэчна высокі працэнт амбры і даваў зачэпку ўказаць яму на памылку, каб потым вельмі дакладна выправіць яе. Так яму ўдалося закалыхаць Бальдзіні ў ілюзіі, што, зрэшты, усё ідзе па правілах і правільна Ён не хацеў адпудзіць старога Ён хацеў у яго сапраўды навучыцца. Не складаць духі, не правільна кампанаваць той ці іншы пах, не! У гэтай вобласці не было нікога на свеце, хто мог бы яго навучыць. Інгрэдыентаў у лаўцы ў Бальдзіні не хапіла б на рэалізацыю ягоных уяўленняў пра сапраўды вялікі пах. Тыя пахі, якія ён мог скласці ў Бальдзіні, былі дзіцячая забаўка ў параўнанні з тымі, якія ён насіў у сабе і збіраўся рэалізаваць калі-небудзь у будучым. Але на тое, ён ведаў, патрэбныя былі дзве ўмовы Першая — хоць які блізір больш-менш людскага існавання, хоць бы становішча чаляднікa, прыкрываючыся якім, ён мог бы нястрымна аддавацца свайму захапленню і без завады ісці да сваёй мэты. Другая — веданне тых прыёмаў рамяства, якія дазвалялі б рабіць, выдзяляць, канцэнтраваць, кансерваваць пахучыя рэчывы і тым самым у прынцыпе даваць іх яму на нейкі вышэйшы ўжытак. Бо хоць Грануй сапраўды меў найлепшы ў свеце нос, хоць ягоны нюх быў настолькі ж аналітычны, наколькі візіянерскі, ён яшчэ не ўмеў фізічна авалодаць пахамі.

## 18

І ён ахвотна падпарадкаваўся інструкцыям, асвойваў майстэрства варыць мыла з свінога сала, шыць пальчаткі з замшы, змешваць пудру з пшанічнай мукі, і міндальнай крошкі, і тоўчанага фіялкавага кораня Ён качаў духмяныя свечкі з вугалю, салетры і стружкі сандалавага дрэва. Ён прасаваў усходнія пасцілкі з міры, бензойнай смалы і бурштынавага парашку Ён замешваў у цеста ладан, шалак, ветыверыю і карынку і качаў з іх курыльныя шарыкі Ён прасейваў і расціраў шпаталем poudre impériale з раскрышаных ружовых пялёсткаў і кветак лаванды і кары каскары Ён варыў грым, белы і венозна-блакітны, і фармаваў тлушчавыя палачкі, кармінава-чырвоныя, для вуснаў. Ён распускаў у вадзе драбнюткі пылок-парашок для пазногцяў і розныя вапны для зубоў, з прысмакам мяты. Ён складваў вадкасць на завіўку парыкоў, кроплі на звод бародавак і мазалёў, адбельвальнік скуры і выцяжку беладоны для вачэй, мазь са шпанскіх мушак кавалерам і гігіенічны воцат дамам... Грануй навучыўся рабіць усялякія ласьёнікі і парашочкі, туалетныя і касметычныя наборчыкі, і апрача таго гарбатныя сумесі, сумесі прыправаў, лікёраў, марынадаў і ўсялякае такое іншае, карацей, ён засвоіў усю традыцыйную мудрасць, якую мог перадаць яму Бальдзіні, хоць і без асаблівай зацікаўленасці, але без нараканняў і даволі паспяхова. Затое ён паказаў адмысловую руплівасць, калі Бальдзіні інструктаваў яго ў прыгатаванні тынктураў, выцяжак і эсэнцый.





Нястомна трушчыў ён у вінтавым прасе ядры горкага міндалю, тоўк мускатнае зерне, сек сечачом шэры кавалак амбры, альбо шчапаў фіялкавы корань, каб потым настойваць стружку на чысцюткім спірце. Ён навучыўся карыстацца сепаратарнай лейкай, каб аддзяліць чысты алей з выціснутай лімоннай лупіны ад каламутнай рэшты Ён навучыўся высушваць траву і кветкі — на рашотках у цяні і цяпле — і кансерваваць шабурсткую лістоту ў замазаных воскам гаршчыках і шкатулках. Ён авалодаў майстэрствам выварваць памады, рабіць настоі, фільтраваць, канцэнтраваць, высвятляць і рабіць выцяжкі.

Праўда, майстэрня Бальдзіні не была разлічана на аптовую вытворчасць кветкавых і травяных алеяў. Ды ў Парыжы наўрад ці знайшлася б патрэбная колькасць свежых раслін Але часам, калі размарын, шалфей, мяту або анісавае насенне можна было купіць танна на рынку ці калі паступалі даволі вялікія партыі клубняў касача, ці балдрыянавага кораня, кмену, мускатнага арэха, ці сухіх кветак гваздзікоў, у Бальдзіні прачынаўся азарт алхіміка, і ён даставаў свой вялікі медны перагонны куб з насаджаным на яго кандэнсатарным кубкам. Ён называў гэта «маўравай галавой» і ганарыўся, што сорак гадоў назад на паўднёвых схілах Лігурыі і вышынях Люберона ён у чыстым полі дыстыляваў з яго дапамогаю лаванду І пакуль Грануй драбіў тавар, што меўся быць перагнаны, Бальдзіні, як у ліхаманцы — бо то ж хуткасць апрацоўкі ёсць альфа і амега гэтай справы, — распальваў каменную печ, куды ставіў кацёл з вадою. Ён кідаў туды дробна пасечаныя расліны, насаджваў на патрубак двухсценнае вечка — «галаву маўра» — і падключаў два невялікія шлангі для вады, каб сцякала і каб налівалася. Гэтая хітрамудрая канструкцыя для ахаладжэння кандэнсату была ўманцыравана пазней, працуючы ў полі, ён, вядома дасягаў ахалоды з дапамогаю ветру. Пасля ён запальваў агонь.

Змесціва куба спакваля закіпала. І праз нейкі час спачатку трапяткімі кроплямі, потым нітачкай дыстылят струменіўся з трэцяй трубкі «маўравай галавы» ў фларэнтыйскую бутлю, падстаўленую Бальдзіні. Спачатку ён выглядаў непрэзентабельна, як рэдзенькі каламутны супчык. Але паступова, асабліва пасля таго як поўная бутля замянялася на парожнюю і спакойна адстаўлялася ўбок, гэтая гушча раздзялялася на дзве розныя вадкасці унізе адстойвалася кветкавая або травяная вада, а паверсе плаваў тоўсты пласт алею. Цяпер заставалася толькі асцярожненька, праз ніжні гарлячок фларэнтыйскай бутлі, сцадзіць далікатна-духмяную кветкавую ваду і атрымаць урэшце чысты алей, эсэнцыю, моцна пахучую сутнасць расліны.

Грануй быў без памяці ад гэтага працэсу. Калі што ў жыцці і выклікала ў яго захапленне — вядома, знешне нічым не выдаванае, а прыхаванае, халодна-палымянае захапленне, — дык менавіта гэты спосаб пры дапамозе агню, вады і пары і мудронай апаратуры выдабываць з рэчаў іх духмяністую душу. Бо духмяністая душа, эфірны алей, было самае каштоўнае, адзінае, што яго цікавіла. Пошлая рэшта: кветкі, лісты, лупіны, плады, фарбы, хараство, жывасць і ўсякая іншая лухта яму не абыходзілі Гэта была толькі абалона, баласт. Гэта ішло к чортавай матары.

Час ад часу, па меры таго як дыстылят рабіўся вадзяніста-празрыстым, яны здымалі кацёл з агню, адчынялі яго і вытрасалі шчолак і гушчу Яна была бясформная і бясколерная, як распараная салома, як косці маленькіх птушак, як пераварaная гародніна, бляклая і валакністая, халепная, ледзь пазнавальная, агідна-трупная і амаль зусім без паху. Яны вывальвалі яе праз акно ў раку Потым даставалі свежыя расліны, далівалі вады і зноў ставілі перагонны куб на агонь І зноў у ім пачынала кіпець, і зноў жыццёвы сок раслін сцякаў у фларэнтыйскія бутлі. Часта гэта задоўжвалася на цэлую ноч. Бальдзіні сачыў за печчу, Грануй не зводзіў вачэй са струменьчыка — больш яму не было чаго рабіць да моманту змены бутляў.

Яны сядзелі каля агню на зэдліках, у палоне ў няўклюднага агрэгата, абодва прычараваныя, хоць і па зусім розных прычынах. Бальдзіні умляваў ад самога гарэння агню і чырвоных водбліскаў полымя на медзі, яму падабалася патрэскванне дроў і булькат у перагонным кубе, бо гэта было як і раней І ён пачынаў расказваць гісторыі, бясконцыя гісторыі пра тое, што было, што збылося. Пра вайну за Іспанскую спадчыну, на вынік якое ён істотна паўплываў, ваюючы супраць аўстрыйцаў, пра партызанаў, з якімі ён наводзіў жудасць на Сэвэны, пра дачку аднаго гугенота ў Эстэрлі, якая аддалася яму, ап'янелая ад паху лаванды, пра лясны пажар, якога ён ледзь быў не нарабіў і які спустошыў бы ўвесь Праванс, далібог, далібог спустошыў бы, бо дзьмуў такі моцны містраль; і ён расказваў пра дыстыляцыю, зноў і зноў пра тое, што было тады, уначы, у чыстым полі, пры святле месяца, пра віно і цакатанне цыкадаў,

пра лавандавы алей, які ён тады прыгатаваў, такі вытанчана-пахучы, што яго бралі ў яго на вагу срэбра, пра сваю вучобу ў Генуі, пра гады бадзянняў і пра горад Грас, дзе парфумнікаў столькі, колькі ў іншых мясцінах гарбароў, а сярод іх ёсць такія багатыя, што яны жывуць, як князі, у раскошных дамах з ціністымі садамі і тэрасамі і ядуць у ядальнях, ашаляваных драўлянымі панэлямі, ядуць з парцалянавых паўмісачак залатымі відэльцамі і нажамі і гэтак далей.

Такія вось гісторыі распавядаў стары Бальдзіні за келіхам віна, і ад віна, і ад полымя, і ад захаплення сваімі ж гісторыямі шчокі ў яго займаліся агнём. Але Грануй, які больш трымаўся ў цяні, зусім яго не слухаў. Яго не займалі ніякія старыя прыгоды, яго цікавіла адно тое, што адбывалася ў яго на вачах. Ён неадступна глядзеў на трубачку ў корку перагоннага куба, з якое тонкім струмочкам бег дыстылят Гледзячы на яго, ён уяўляў сябе такім самым перагонным кубам, дзе ўсё кіпіць, і булькае, і адкуль таксама выцякае дыстылят, толькі яшчэ лепшы, навейшы, незвычайнейшы, дыстылят тых рэдкіх раслін, якія ён сам вывеў усярэдзіне ў сябе самога, якія там расцвіталі, даступныя толькі ягонаму нюху, і якія маглі б сваім дзівосным водарам ператварыць свет у пахучы Эдэм, дзе яму жылося б, прынамсі нюхальна, прыстойна. Быць вялікім перагонным кубам, з якога выліваліся б на ўвесь свет створаныя ім дыстыляты,— вось якім марам аддаваўся Грануй.

Але калі Бальдзіні, разагрэты віном, усё больш расплываўся ў бясконцых гісторыях пра тое, як яно ўсё было раней, і ўсё больш безразважна ўпадаў у туманныя мроі, Грануй неўзабаве забараніў сабе забывацца ў неацуглёных фантазіях. Спачатку ён выкінуў з галавы вобраз вялікага перагоннага куба, а замест гэтага рашыў скарыстацца сваімі нядаўна набытымі ведамі дзеля самых блізкіх мэтаў

## 19

Прайшло няшмат часу, і ён зрабіўся спецыялістам у рамястве перагонкі Ён выявіў — і ягоны нос дапамог яму ў гэтым больш, чым правілы і настаўленні Бальдзіні,— што жар агню найбольш уплывае на якасць дыстыляту. Кожная расліна, кожная кветка, кожны від драўніны і кожны плод вымагаюць адмысловай працэдуры. Часам даводзілася ўчыняць магутнае пераўтварэнне, часам — толькі больш-менш моцнае кіпенне, а некаторыя кветкі аддаюць свой найлепшы пах, толькі калі прымусіць іх пацець на самым маленькім агні

Не менш важны быў і сам працэс прыгатавання. Мяту і лаванду можна было апрацоўваць цэлымі абярэмкамі Андрэс мусова было акуратна перабраць, пасячы, нашынкаваць, патаўчы і нават расцерці на муку, перш чым класці ў медны кацёл. А сёе-тое ўвогуле не паддавалася перагонцы, і гэта было Грануя асабліва прыкра.

Убачыўшы, як упэўнена Грануй абыходзіцца з апаратурай, Бальдзіні цалкам даверыў яму перагонны куб, і хлопец адразу скарыстаўся свабодай. Цэлымі днямі ён складаў духі і ўсялякія розныя іншыя пахошчы, а ўначы займаўся выключна таямнічым мастацтвам перагонкі. Ягоны план быў у тым, каб стварыць абсалютна новыя пахучыя рэчывы, і з іх дапамогаю атрымаць хоць некаторыя з тых пахошчаў, якія ён насіў у сваім уяўленні. Спачатку яму спрыяў пэўны поспех. Удалося вырабіць алей з крапівы і насення крэс-салаты і туалетную ваду з свежай кары конскага бэзу і галінак цісу.

Праўда, дыстыляты сваім пахам амаль не нагадвалі зыходных рэчываў, але ўсё-такі былі цікавыя для далейшай перапрацоўкі. Зрэшты, потым траплялся рэчывы, непрыдатныя пад гэты спосаб. Напрыклад, Грануй спрабаваў дыстыляваць пах шкла, гліністa-халодны пах гладкага шкла, якога звычайны чалавек зусім не чуе. Грануй дастаў аконнае шкло і апрацоўваў яго вялікімі кавалкамі, абломкамі, асколкамі, пылам — ані знаку поспеху Ён дыстыляваў латунь, парцаляну і скуру, зерне і жвір. Проста зямлю. Кроў і драўніну, свежую рыбу Свае ж валасы. Нарэшце, ён дыстыляваў нават ваду, ваду з Сены, бо яму здалося, што яе адмысловы пах варта захаваць. Ён думаў, што з дапамогай куба ён зможа выдабыць з гэтых рэчываў іх своеасаблівы пах, як здабываў яго з чабору, лаванды і насення кмену. Ён жа не ведаў, што ўзгонка ёсць не што якое, як спосаб раскладання змешаных субстанцый на іх лятучыя і нелятучыя складнікі і што ў парфумерыі яна карысная толькі тым, што можа аддзяліць лятучыя эфірныя алеі некаторых раслін ад іх бяспахавай рэшты Для субстанцый без гэтых





эфірных алеяў такі метад дыстыляцыі, зразумела, не меў сэнсу Нам, людзям сучасным, якія вывучалі фізіку, гэта і без таго ясна. Але Грануй прыйшоў да такога пераканання цаною вялікіх высілкаў пасля многіх-многіх марных доследаў Месяцамі ён праседжваў каля куба цэлыя ночы і ўсімі магчымымі спосабамі спрабаваў праз перагонку вырабіць зусім новыя пахі, водары, якіх дагэтуль не было на зямлі ў канцэнтраваным выглядзе. І нічога з гэтага не атрымалася, акрамя некалькіх мізэрных раслінных алеяў З глыбокага, багатага калодзежа свайго ўяўлення ён не здабыў ані кропелькі канкрэтнай пахавай эсэнцыі, з усяго, што мроілася яго фантастычнаму нюху, ён не здолеў рэалізаваць аніводнага атама

Усвядоміўшы сваю поўную плягу, ён спыніў доследы і захварэў так, што ледзь не памёр.

## 20

У яго пачалася моцная гарачка, першымі днямі з вялікім пацennем, а потым, калі перасталі функцыянаваць поры ў скуры, усё цела пайшло нарывамі Гэтыя барвовыя пухіры абсыпалі яго з ног да галавы. Некаторыя лопаліся і вывяргалі сваё вадзяністае змесціва, каб потым нарваць зноў Другія распухалі да памераў фурункулаў, брынялі, барвовелі і выбухалі, як кратэры, сачыліся мярзотным гноем і вылівалі разведзеную жоўтымі пацёкамі кроў Неўзабаве Грануй стаў падобны на пакутніка, прабітага камянямі з сярэдзіны, зняможанага сотнямі гнойных ран.

Бальдзіні, вядома, затрывожыўся Было б вельмі недарэчы страціць такога каштоўнага вучня пад той момант, калі ён толькі-толькі намерыўся пашырыць свой гандаль за межы горада і нават усёй краіны І не дзіва, не толькі з правінцыі, але і з-за мяжы, ад асоб, набліжаных да двара, усё часцей ішлі заказы на тыя модныя пахошчы, ад якіх вар'яцеў Парыж; Бальдзіні насіўся з ідэяй задаволіць гэты попыт і адкрыць філію ў Сэнт-Антуанскім прадмесці, сапраўдную маленькую мануфактуру, адкуль найбольш хадавыя духмянасці, змяшаныя en gros*, налітыя ў далікатныя маленькія флаконікі і ўпакаваныя чароўнымі маленькімі дзяўчаткамі, будуць рассылацца ў Галандыю, Англію і Германскую імперыю. Праўда, такі інтэрас быў бы не зусім законны ў аселага ў Парыжы рамесніка, але ж з нядаўняга Бальдзіні даступіўся да высокай ласкі, заўдзячаючы ёй сваімі рафінаванымі духамі; апекаваўся мэтрам не толькі Інтэндант, але і такія ўплывовыя асобы, як пан Даглядаты парыжскай мытні ці Член каралеўскага фінансавага кабінета і лепшы прыяцель эканамічна расквітнелых прадпрыемстваў пан Фэйдо дэ Бру. Гэты памянёны нават намякаў на магчымасць атрымаць каралеўскі прывілей — найлепшае, пра што можна было марыць: гэты прывілей дазваляў абысці ўсе дзяржаўныя і цэхавыя завалы, азначаў канец усім цярпенням у камерцыі і вечную гарантыю надзейнага, недатыкальнага дабрабыту.

Апрача таго быў і яшчэ адзін план, які выношваў Бальдзіні, яго неадчэпная ідэя, нейкі антыпод праекту мануфактуры ў Сэнт-Антуанскім прадмесці — вытворчасць тавараў хай не масавага, але ўсё ж даступнага ў лаўцы любому і кожнаму

Ён хацеў бы стварыць персанальныя духі ўсім выбраным з высокай і найвышэйшай кліентуры: каб духі, як пашытая па мерцы вопратка, пасавалі толькі адной пэўнай асобе, каб толькі гэтая асоба мела права карыстацца імі і даваць ім сваё найсвятлейшае імя. Ён уяўляў сабе: парфума «Маркіза дэ Сэрнэй», «Маршал дэ Віяр», «Герцаг д'Эгіён» і г.д. Ён марыў пра духі «Мадам маркіза дэ Пампадур» і нават пра духі «Яго Вялікасць Кароль» у грацыёзным гранёным гранатавым флаконе і аправе з залатой чаканкай, а ўсярэдзіне на донцы будзе выгравіраваны сціплы надпіс: «Джузэпэ Бальдзіні, парфумнік» Каралеўскае імя і імя ягонае, Бальдзіні, на адным прадмеце. Вось у якіх вышынях лунала фантазія Бальдзіні! І раптам Грануй захварэў. А Грымаль жа, царства яму нябеснае, бажыўся, што хлопец ніколі не хварэе, што яму ўсё — дармо, што нават чорная чума яго не бярэ. А ён вось узяў і як бы знехаця захварэў мала не да смерці. А калі памрэ? Жах! Тады разам з ім памруць і ўсе мары пра мануфактуру, цудоўных маленькіх дзяўчатак, прывілей і духі Караля.

* Оптам (*фр.*).

Таму Бальдзіні рашыў зрабіць усё, каб уратаваць дарагое жыццё свайго вучня. Ён загадаў перасяліць яго з нараў у майстэрні на верхні паверх дома, у чыстую пасцель. Ён загадаў абцягнуць пасцель дамастынам. Сваімі рукамі дапамагаў ён заносіць угору вузкі тапчан, хоць яго аж на ваніты брала, калі ён бачыў пухіры і гнойныя нарывы Ён загадаў жонцы гатаваць хвораму курыны булён з віном. Ён запрасіў самага моднага ў квартале доктара, нейкага Пракопа, якому — заплаці наперад за адну толькі згоду на візіт

Доктар прыйшоў, падняў вострымі пальцамі прасціну, кінуў толькі позірк на цела Грануя, якое сапраўды выглядала так, быццам яго прастрэлілі сто куль, і выйшаў з пакоя, нават не адчыніўшы сумкі, якую ўвесь час цягаў за ім памочнік. Выпадак абсалютна ясны, заявіў ён Бальдзіні Гаворка ідзе пра сіфілітычны падвід чорнай воспы з давескам гнойнага адзёру in stadio ultimo* Лячэнне не мае сэнсу ўжо таму, што нельга як след зрабіць кравапусканне: адсоска не ўтрымаецца ў целе, бо яно распадаецца і падобнае больш на труп, чым на жывы арганізм. І хоць характэрны гэтай хваробе чумны пах яшчэ не пранюхваецца — што ўжо само па сабе дзіва і ў навуковым аспекце ёсць пэўны кур'ёз,— няма ніякага сумнення, што хворы памрэ ў бліжэйшыя сорак восем гадзін. Гэта ясна, як і тое, што яго завуць доктар Ракоп. Потым ён яшчэ раз спатрабаваў дваццаць франкаў ганарару за візіт і складзены прагноз — з іх ён абяцаўся вярнуць пяць франкаў у тым выпадку, калі яму аддадуць труп з класічнай сімптаматыкай дзеля дэманстрацыйных мэтаў,—і адкланяўся.

Бальдзіні быў сам не свой. Ён енчыў і стагнаў ад роспачы. У гневе на ліхую долю ён кусаў сабе пальцы Зноў пайшлі марна ўсе планы на вельмі буйны поспех, а мэта была такая блізкая У свой час яму заступілі дарогу Пелісье і дужа вынаходлівыя спрытнюгі-браты па цэху. А цяпер вось гэты хлопчык з яго невычэрпным запасам пахаў, гэты маленькі гаўнюк, якога нельга ацаніць нават золатам, надумаў якраз цяпер, калі інтэрас так удала шырыцца, падчапіць сіфілітычную воспу і гнойны адзёр in stadio ultimo! Чаму не праз два гады? Чаму не праз год? Да таго часу яго можна было б вычарпаць да дна, як срэбную рудню, выдаіць, як залатога асла. І хай бы спакойна сабе тады паміраў. Дык жа, бач, не! Яму закарцела памерці цяпер, каб яму трайная скула, памрэ праз сорак восем гадзін!

Нейкі кароткі момант Бальдзіні падумваў выправіцца ў паломніцтва за раку ў Нотр-Дам, паставіць свечку і вымаліць у святой Багародзіцы ацаленне Граную. Але потым ён адмовіўся ад гэтага намыслу, бо часу было пад абрэз. Ён збегаў па чарніла і паперу і прагнаў жонку з пакоя хворага. Сказаў, што падзяжурыць сам. Потым сеў на крэсла каля ложка з лістком для запісак на каленях і, умачыўшы пяро, паспрабаваў схіліць Грануя на парфумніцкую споведзь. Хай ён, напрамілы Бог, не маўчыць, не забірае ў магілу скарбы, якія носіць у сабе! Хай не маўчыць. Цяпер, у апошнія гадзіны, ён павінен перадаць у надзейныя рукі тастамант, каб не пакідаць нашчадкаў без найлепшых пахошчаў усіх часоў! Ён, Бальдзіні, надзейна разбярэцца з гэтым тастамантам, з гэтым канонам формулаў усіх самых узвышаных пахаў, якія калі-небудзь існавалі на свеце, ён даб'ецца іх працвітання. Ён дасць імю Грануя неўміручую славу, ён прысягае ўсімі святымі, што найлепшы з гэтых пахаў пакладзе да ног самога караля, у агатавым флаконе і чаканным золаце з выгравіраваным прысвячэннем «Ад Жан-Батыста Грануя, парфумніка з Парыжа». Так гаварыў альбо так нашэптваў Бальдзіні на вуха Граную, нястомна заклінаючы, умаўляючы і падахвочваючы ласкаю.

Але ўсё было марна. Грануй не выдаваў нічога, апрача, бадай што, белаватай сакрэцыі і крывавага гною. Ён моўчкі ляжаў на дамаставым палатне і выліваў з сябе гэтыя гідотныя сокі, а зусім не свае скарбы, не свае веды, ён не назваў ніводнай формулы ніякага водару Бальдзіні хацелася задушыць яго, падраць на кавалкі, ён гатовы быў выбіць з кволага цела неацэнныя тайноты, калі б меў хоць якія-колечы шанцы на поспех. і калі б гэта так жахліва не супярэчыла ягонаму ўяўленню пра хрысціянскую любоў да блізкага.

І так ён усю ноч сюсюкаў і саладка разліваўся салаўём. Перасільваючы агіду, ён завіхаўся каля хворага, абкладваў мокрымі ручнікамі яго спацелы лоб і запаленыя вулканы нарываў і паіў з лыжачкі віном, каб прымусіць яго варочаць языком,— дарма. А пад раніцу змогся і здаўся. Седзячы ў крэсле, адчуваючы нават не гнеў, а ціхую роспач, ён неадрыўна глядзеў на ложак, дзе памірала маленькае цела Грануя, якога ён не мог ні выратаваць, ні абараніць: з яго нельга было нічога выціснуць, можна было толькі бяссіла назіраць за яго сконам. Бальдзіні адчуваў сябе капітанам, у якога на вачах гіне яго карабель, несучы на дно ўсё ягонае багацце.

І тут раптам вусны ў невылечна хворага растуліліся, і ён спытаўся ясным і цвёрдым голасам, у якім амаль не адчувалася хуткай пагібелі

—Скажыце, мэтр, ці ёсць іншыя сродкі, апрача выціску і перагонкі, каб атрымаць пах з якога-небудзь цела?

Бальдзіні здалося, што гэты голас прагучаў альбо ў ягоным уяўленні, альбо з таго свету, і ён механічна адказаў·

—Так, ёсць.

—Якія? — зноў прагучала пытанне, і гэтым разам Бальдзіні заўважыў рух Грануевых вуснаў «Вось і ўсё,— падумаў ён.— Вось і канец, гэта гарачка, ужо агонія». І ён устаў, падышоў да ложка і нахіліўся над хворым. Той ляжаў з расплюшчанымі вачыма і глядзеў на Бальдзіні такім самым насцярожлівым , нерухомым позіркам, як і падчас іх першай сустрэчы.

—Якія? — спытаўся ён

Бальдзіні ачуўся, пераўзмог раздражнёнасць,— нельга ж адмаўляцца выканаць чалавеку яго апошнюю просьбу — і адказаў: —Ёсць тры такія спосабы, сыне мой. enfleurage á chaud, enfleurage á froid і enfleurage á l'huile* Яны намнога лепшыя за дыстыляцыю, і імі карыстаюцца, каб атрымаць самыя тонкія пахі з язміну, ружы і апельсінавага цвету.

—Дзе? — спытаўся Грануй.

—На поўдні, — адказаў Бальдзіні.— Найперш у горадзе Грасе.

—Добра, — сказаў Грануй.

І з гэтымі словамі ён заплюшчыў вочы Бальдзіні павольна ўстаў. Ён сабраў свае лісткі, на якіх не было напісана ні радочка, і пашукаў свечку На дварэ ўжо світала. Бальдзіні ледзь трымаўся на нагах, аж так стаміўся Трэба клікнуць святара, падумаў Потым машынальна перахрысціўся і выйшаў

Але Грануй не памёр. Ён толькі моцна спаў, аддаўшыся мроям, і ўцягваў у сябе свае сокі. Пухіры на целе ўжо пачалі падсыхаць, гнойныя кратары зацягвацца плеўкай, язвы сцягвацца. Праз тыдзень ён паправіўся

## 21

Найбольш яму хацелася б паехаць на поўдзень, туды, дзе можна вывучыць новыя тэхнічныя прыёмы, пра якія сказаў стары Але пра гэта, вядома, і марыць не было чаго. Ён жа толькі вучань, інакш кажучы — ніхто. Калі шчыра, дык, патлумачыў яму Бальдзіні, адолеўшы першы наплыў радасці, калі Грануй паўстаў з мёртвых, калі шчыра, ён быў нават менш, чым ніхто, бо прыстойны вучань павінен мець бездакорнае паходжанне, інакш кажучы, законна пашлюбаваных бацькоў, сваякоў у саслоўі і дагавор з майстрам пра навучанне. А ў Грануя нічога такога не было і ў заводзе. І калі ён, Бальдзіні, усё-такі згаджаецца памагчы яму стаць калі-небудзь чаляднікам, дык зробіць гэта пры ўмове бездакорных паводзінаў Грануя ў будучым і з ласкі да ягонага не зусім беспахібнага таленту. Хоць ён, Бальдзіні часта цярпеў ад сваёй бясконцай дабрыні, якую не мог пераcіліць.

Ясна, каб стрымаць абяцанне, ягонай дабрыні спатрэбіўся даўжманы тэрмін — аж тры гады За гэты час Бальдзіні з дапамогай Грануя здзейсніў свае ўзнёслыя мары Ён адчыніў мануфактуру ў Сэнт-Антуанскім прадмесці, выбіўся са сваімі выштукаванымі парфумамі ў прыдворныя парфумнікі, атрымаў каралеўскі прывілей. Яго тонкія пахошчы знайшлі збыт усюды, аж да Пецярбурга, да Палерма, да Капенгагена. Адзін гатунак, з мускусным адценнем, ішоў нарасхват у Канстанцінопалі, а там жа, бачыць Бог, чаго-чаго, а сваіх пахучасцяў ніколі не бракавала — заваліся. У элегантных канторах лонданскага Сіці пах бальдзінеўскіх парфумаў трымаўся гэтак жа стойка, як і пры пармскім двары, варшаўскі Бэльвэдэр прабраў ён гэтаксама, як і сядзібу графа фон-унд-цу Ліпэ-Дэтмальда. Сямідзесяцігадовы Бальдзіні, які ўжо быў змірыўся з перспектывай правесці старасць у чорнай нэндзы пад Месінай, акрыяў, узвысіўся да стану бясспрэчна найвялікшага парфумніка Еўропы і аднаго з найбага-

* У крайняй стадыі (*лац.*).

* Гарачы, халодны і алейны анфлераж (*фр.*).

цейшых буржуа ў Парыжы.

На пачатку 1756 года — пад той час ён абставіў яшчэ адзін дом побач з старым на мосце Мяняйлаў, толькі пад жытло, бо стары літаральна да вышак быў напханы духмянымі рэчывамі і спецыямі,— ён паведаміў Грануя, што цяпер згодзен адпусціць яго, зрэшты, пры трох умовах: па-першае, той не меціме права ні рабіць ніякіх духоў, што нарадзіліся пад дахам у Бальдзіні ні перадаваць іх формулаў трэцім асобам; па-другое, ён павінен пакінуць Парыж і не вяртацца туды, пакуль жыцьме Бальдзіні, і, па-трэцяе, ён павінен маўчаць пра дзве першыя ўмовы. Хай ён прысягне ў гэтым усімі святымі, беднай душою сваёй маці-нябожчыцы і сваім гонарам.

Грануй, які не меў ніякага гонару, не верыў у святых, а ўжо тым больш у бедную душу сваёй маці, прысягнуў. Ён прысягнуў бы ўсім. Ён прыняў бы любую ўмову Бальдзіні, бо яму патрэбная была грамата чалядніка — яна дазваляла яму непрыкметна жыць, падарожнічаць і ўладкавацца на працу На астатняе яму напляваць. Ды і што гэта за ўмовы! Не вяртацца ў Парыж? Навошта яму здаўся той Парыж! Ён ведаў яго напамяць да самага апошняга смярдзючага закутка, ён усюды насіў яго з сабою, ён валодаў Парыжам ужо шмат гадоў Не рабіць бальдзінеўскіх модных духоў? Не перадаваць формулаў? Нібыта ён не можа прыдумаць тысячу іншых, такіх самых добрых, яшчэ лепшых — варта захацець толькі! Але ж ён зусім гэтага не хацеў! Ён не збіраўся канкурыраваць з Бальдзіні альбо з кім бы тое ні было з іншых буржуазных парфумнікаў Ён і не думаў рабіць вялікія грошы на сваім таленце, ён нават не хацеў зарабляць ім на пражытак, калі здолее жыць інакш. Ён хацеў неяк выпусціць вонкі сваё ўнутранае «я», не што іншае, а менавіта ўнутранае «я», якое лічыў больш вартасным, чым усё, што мог прапанаваць яму свет І таму ўмовы Бальдзіні Грануя не значылі анічагуткі Навесну, ранняй травеньскай раніцай, ён выправіўся ў дарогу. Ён атрымаў ад Бальдзіні маленькі юрзачок, яшчэ адну кашулю, пару панчох, столку каўбасы, конскую гуньку і дваццаць пяць франкаў. Гэта куды больш, чым належыцца, сказаў Бальдзіні, бо ж Грануй набыў у яго глыбокую адукацыю, за якую не заплаціў нічога. А звычайна даюць на дарогу два франкі, і ўсё. Але ён, Бальдзіні, чалавек лагодны, мяккі і не мае сілы перабароць сваю дабрыню і тую глыбокую сімпатыю, якая за гэтыя гады назапасілася ў ягоным сэрцы да слаўнага Жан-Батыста. Ён зычыць яму ўдачы ў ягоных вандроўках і яшчэ раз настойліва заклікае не парушаць сваёй клятвы З гэтымі словамі ён правёў яго да чорнага ходу, дзе калісьці прыняў, і адпусціў у белы свет

Рукі ён яму не падаў — аж так далёка сімпатыя ягоная не сягала. Ён яму ніколі так і не падаў рукі Ён увогуле стараўся не дакранацца да яго, адчуваючы нешта накшталт багавейнай агіды, быццам баяўся набрацца заразы, апаганіцца. Ён толькі коратка развітаўся. А Грануй кіўнуў і адвярнуўся, і пайшоў прэч. На вуліцы не было ні душы

## 22

Бальдзіні глядзеў яму ўслед, пакуль той шкандыбаў уніз па мосце да Вострава, маленькі, скурчаны, з юрзачком, падобным на горб; са спіны ён быў рыхтык як дзядок які. Па той бок ракі, каля будынка Парламента, дзе завулак робіць паварот, Бальдзіні ўпусціў яго з вачэй і адчуў незвычайную палёгку.

Гэты хлопец ніколі яму не падабаўся, аніколі, цяпер ён мог сабе нарэшце ў гэтым прызнацца. Увесь час, пакуль ён трываў яго ў сябе пад дахам, пакуль ён яго абіраў, яму было несамавіта на душы Ён адчуваў сябе чалавекам бездакорнай маральнасці, які ўпершыню ўчыняе нешта забароненае, гуляе ў нейкую гульню недазволенымі прыёмамі. Вядома, рызыка выкрыцця была мізэрная, а шанцы на поспех — велізарныя; але ж такія вялікія былі і нервознасць, і дакоры сумлення. І праўда, праз усе гэтыя гады не праходзіла дня, каб яго не тачыла непрыемная думка, што нейкім чынам яму ўсё ж давядзецца расплачвацца за тое, што ён знюхаўся з гэтым чалавекам. «Толькі б пранесла! — зноў і зноў баязліва маліўся ён.— Толькі б мне ўдалося скарыстацца поспехам гэтай авантуры, не плацячы за яе неверагоднымі працэнтамі з барышу! Толькі б удалося! Увогуле я раблю блага, але Гасподзь мне гэта перапусціць, вядома. Ён так і зробіць! Так было ўсё маё жыццё. Ён часта выпрабоўваў мяне, без ніякага на тое права, так што будзе толькі справядліва, калі гэтым разам ён будзе паблажлівы Ды і ў чым маё злачынства, калі толькі гэта злачынства? Самае большае — у тым, што я крыху парушыў цэхавы статут, эксплуатуючы чужую адоранасць нейкага невука і выдаючы ягоныя здольнасці за свае. Самае большае — у тым, што я трошкі збіўся са сцежкі традыцыйнай рамесніцкай дабрачыннасці. Самае большае — што сёння я раблю тое, што яшчэ ўчора выклінаў. Хіба гэта злачынства? Іншыя ўсё жыццё з ашукі жывуць. А я крыху сшустрыў, усяго некалькі гадоў. Ды і тое таму, што так знагодзілася. Можа, і нагоды тае не было зусім, можа, сам Гасподзь паслаў мне ў дом гэтага чалавека, каб узнагародзіць мяне за прыніжэнні, якія я выцерпеў ад Пелісье і ягоных захрыбетнікаў Можа, кара Божая чакае якраз не мяне, а Пелісье! Гэта вельмі нават магчыма! Бо чым бы яшчэ Гасподзь мог пакараць Пелісье, як не маім узвышэннем? Значыцца, маё шчасце ёсць спаруда промыслу Божага, і я не толькі маю права, я абавязаны ягоны дар прыняць, які ён ні ёсць, без сораму і каяння ..

Так часта разважаў Бальдзіні ў мінулыя гады, раніцамі, спускаючыся па вузкай лесвіцы ў лаўку, вечарамі, падымаючыся ўгору з касавым зборам і пералічваючы цяжкія залатоўкі і срэбныя манеты ў сваім куфры, і начамі, лежачы поруч з хрыпатым шкілетам жонкі і не могучы заснуць проста ад страху за сваё шчасце.

Але цяпер нарэшце змрочныя думкі прападуць, каб яны прапалі Вусцішны госць сышоў і не вернецца ніколі А багацце засталося, і будучыня была забяспечана. Бальдзіні паклаў руку на грудзі і пад тканінай каптана намацаў на сэрцы маленькую кніжку. У ёй былі запісаны шэсцьсот формулаў — больш, чым калі-небудзь змаглі б рэалізаваць цэлыя пакаленні парфумнікаў Калі сёння ён страціць усё, дык з дапамогай гэтай цудоўнай кніжкі ён за год зноў разбагацее. Далібог, ці ж можна патрабаваць большага!

Ранішняе сонца, адбіваючыся ў чарапіцах дамоў на другім баку, адкідала цёплае жоўтае святло на яго твар. Бальдзіні ўсё яшчэ глядзеў на вуліцу, якая вяла на поўдзень, да палаца Парламента — як усё-такі прыемна, што Грануеў след выстыў!— і яго перапаўняла пачуццё ўдзячнасці Ён рашыў, што сёння ж адбудзе паломніцтва на другі бераг, у Нотр-Дам, укіне залатнік у царкоўную скарбонку, паставіць тры свечкі і на каленях падзякуе Госпаду, які паслаў яму столькі шчасця і пазбавіў ад помсты

Але потым яму нешта самым дурным чынам перашкодзіла, бо папалудні, калі ўжо ён зусім быў выбраўся ў царкву, разнеслася чутка, што англічане пайшлі вайною на Францыю. Само па сабе гэта яго не дужа ўстурбавала. Але як што якраз гэтымі днямі ён мерыўся адправіць у Лондан партыю духоў, дык адклаў наведванне храма, замест гэтага ён выправіўся ў горад разведаць навіны, а адтуль на сваю мануфактуру ў Сэнт-Антуанскае прадмесце, каб пакуль што затрымаць лонданскую партыю тавару Уначы ў ложку перад сном яму прыйшла ў галаву геніяльная ідэя напярэдадні баявых дзеянняў у вайне за калоніі Новага Свету ўвесці ў моду духі пад назваю «Гонар Квэбэка» з церпкім гераічным пахам, поспех якіх — ён зусім не сумняваўся — пакрые яму страты ад няўдалага англійскага гешэфту З такімі салодкімі думкамі ў сваёй старой дурной галаве, якую ён з палёгкаю адкінуў на падушку, прыемна адчуваючы пад ёю цвёрдую кніжачку з формуламі, мэтр Бальдзіні заснуў, каб ніколі ўжо больш не прачнуцца.

А ўсё ў тым, што ўначы адбылася невялікая катастрофа, якая праз належны з такога выпадку час дала каралю зачэпку выдаць загад пра паступовы знос усіх дамоў на ўсіх мастах горада Парыжа, без яўнай прычыны абваліўся мост Мяняйлаў — з заходняга боку паміж трэцяй і чацвёртай апорамі Два дамы аселі ў раку так імгненна і раптоўна, што нікога з насельнікаў не ўдалося ўратаваць На шчасце загінула толькі двое, а менавіта Джузэпэ Бальдзіні і ягоная жонка Тэрэза. Прыслуга не начавала дома — каго адпусцілі, а хто адышоўся сам самохаць. Шанье, які толькі пад раніцу на лёгкім падпітку явіўся дамоў — дакладней, хацеў явіцца, бо дома ўжо не было,— перажыў нервовы шок. Ён трыццаць гадоў запар песціў надзею, што Бальдзіні, у якога не было ні дзяцей, ні сваякоў, адпіша ўсё на яго карысць. І вось усё знікла за адно імгненне — уся спадчына цалкам, дом, фірма, сыравіна, майстэрня, сам Бальдзіні — і нават сам тастамант, у якім, верагодна, быў пункт пра ўласнасць на мануфактуру!

Знайсці не ўдалося нічога — ні трупаў, ні куфра з грашмі, ні кніжачкі з шасцюстамі формуламі. Адзінае, што засталося ад Джузэпэ Бальдзіні, найлепшага парфумніка Еўропы, быў змяшаны пах мускусу, кмену, воцату, лаванды і тысячы іншых рэчываў, які яшчэ некалькі тыдняў плыў па Сене ад Парыжа да Гаўра.

# ЧАСТКА ДРУГАЯ

## 23

Тым самым часам, як абваліўся дом Джузэпэ Бальдзіні, Грануй быў у дарозе ў Арлеан. Ён пакінуў кальцо смуроду вялікага горада, і з кожным крокам, як аддаляўся ад Парыжа, паветра вакол яго рабілася яснейшае, свяжэйшае і чысцейшае. Разам з гэтым — і менш насычанае. У ім перасталі мітусіцца пахі, сотні пахаў, а тыя нямногія, што былі — пахі дарожнага пылу, лугоў, глебы, раслін, вады,— доўгімі смугамі цягнуліся над зямлёй, павольна надзімаліся, павольна калыхаліся, амаль нідзе рэзка не абрываліся.

Граную гэтая вясковая простасць была — як выбаўленне. Гэтыя бесклапотныя пахі лашчылі нюх. Першы раз ён не павінен быў сачыць за кожным сваім удыхам, каб не прыхапіць нечагась новага, неспадзяванага, варожага або не ўпусціць чагосьці прыемнага. Першы раз ён мог дыхаць амаль вольна і пры гэтым не прынюхвацца насцярожана кожную хвіліну «Амаль» сказалі мы, бо па-сапраўднаму свабодна не праходзіла, вядома, нічога праз нос Грануя. Нават калі ў яго не было на тое ніякай прычыны, у ім заўсёды чувала інтуітыўная халодная стрыманасць да ўсяго, што ішло звонку і што даводзілася ўпускаць у сябе. Усё сваё жыццё, нават у тыя нямногія хвіліны, калі ён адчуваў водгукі нечагась накшталт задавальнення, прыемнасці, можа, нават шчасця, ён ахвотней выдыхаў: ён жа і пачаў жыццё не поўным надзеі ўдыхам, а забойчым крыкам. Але акрамя гэтай нягоды — абмежавання, якое складала сутнасць ягонай натуры,— Грануй, чым больш аддаляўся ад Парыжа, тым лепш і лепш адчуваў сябе, дыхаў лягчэй, ішоў імклівей і нават часам падбадзёрваўся, стараўся трымацца так, што здалёку выглядаў амаль як звычайны чаляднік, як нармальны чалавек. Больш за ўсё яго разнявольвала адасабленне ад людзей. У Парыжы людзі жылі купна, шчыльней, чым у любым іншым горадзе свету Шэсцьсот, семсот тысяч чалавек жыло ў Парыжы. Яны кішэлі на вуліцах і пляцах, дамы былі набатаваныя імі пад завязку, з сутарэнняў да гарышчаў Кожны закунурак натоўчаны, напханы, натаптаны людзьмі, кожны камень, кожны лапік зямлі прасмерд чалавечынай.

Толькі цяпер, спакваля аддаляючыся ад людскога чаду, Грануй уцяміў, што быў толькі камячком гэтага месіва, што яно цэлых васемнаццаць гадоў гняло яго, як задушлівае пераднавальнічнае паветра. Дагэтуль ён заўсёды думаў, што свет наогул такі і ад яго трэба засланяцца, цурацца, занурвацца ў сябе, паўзці прэч. Але то быў не свет, то былі людзі. Цяпер яму здалося, што з светам — з светам, дзе не было ні душы,— можна было памеркавацца ў добрай згодзе.

На трэці дзень вандроўкі ён уступіў у поле прыцягнення пахаў Арлеана. Яшчэ задаль да якіх-небудзь прыкметных знакаў вялікага горада Грануй учуў ушчыльненасць чалавечага элементу ў паветры і рашыў перамяніць свой першы намер і абысці Арлеан Яму не хацелася так хутка траціць толькі што здабытую свабоду дыхання і ныраць у цяжкую пярэсмердзь чалавечага збою. Ён зрабіў вялікі абвод, абышоў горад, каля Шатанёр выйшаў да Луары і пераправіўся на той бок каля Сюлі. Да Сюлі яму хапіла каўбасы. Ён купіў сабе яшчэ адну столку і, сышоўшы з рэчышча, павярнуў углыбіню краіны

Ён пазбягаў не толькі гарадоў, але і вёсак. Ён быў як усё роўна п'яны ад усё больш празрыстага, усё больш ачышчанага ад людзей паветра Толькі каб прызапасіцца харчам, набліжаўся да якога-небудзь селішча або адзінокага хутара, купляў хлеб і зноў знікаў у лясах. Праз некалькі тыдняў яму збрыдзелі нават рэдкія сустрэчы з дарожнікамі на прасёлках, ён больш не пераносіў нават паху сялян, якія час-парой узнікаў, бо тыя ўжо касілі на лугах першую траву. Ён баязліва збочваў ад кожнага авечага статку не таму, што авечкі, а каб абысці пах пастухоў Ён ішоў не разбіраючы дарогі напрасткі цераз палеткі, рабіў шматмільныя закручыны, ледзь толькі ўнюхваў эскадрон райтараў за некалькі гадзін верхавой язды. Не таму, што ён, як іншыя чаляднікі і валацугі, баяўся праверкі папер і адпраўкі пры першай аказіі ў войска,— ён нават і не ведаў, што ішла вайна,— а толькі таму, што яму быў гідкі чалавечы пах верхаўцоў. І так сам сабою і без пэўнага вырашэння план — як мага хутчэй дабрацца да Граса — паступова пабляк, гэты план, мы б сказалі, расцёкся ў свабодзе, як і ўсе іншыя пахі і намеры Грануй не рваўся больш нікуды, а толькі — упрочкі ад людзей.





Нарэшце ён пачаў рухацца толькі начамі На дзень удзіраўся ў падлесак, спаў пад якім-небудзь карчом, хаваўся ў зарасцях, у самых занетраных мясцінах, згарнуўшыся ў клубок, як жывёла, нацягнуўшы на цела і галаву конскую гуньку, утыкнуўшыся носам у локаць і адвярнуўшыся да зямлі, каб ніякі чужы пах не ўрываўся ў ягоныя мроі. Падвечар ён прачынаўся, абнюхваўся навокал і толькі тады, калі нос пераконваў яго, што самы апошні селянін пакінуў поле і што самы-самы дарожны рызыкант знайшоў сабе дах і прытулак, толькі тады, калі ноч з яе ўяўнымі небяспекамі заганяла пад дахі людзей, Грануй выпаўзаў са свайго схованшча і рушыў у дарогу. Каб бачыць, яму не патрэбна было святло. Яшчэ раней, ідучы ўдзень, ён часта заплюшчваў вочы і так рухаўся нюхам. Яркія краявіды, сляпучасць, раптоўнасць і вастрыня зроку прычынялі боль. Яму падабалася толькі святло месяца. Месяцава святло не давала колераў і толькі слаба акрэслівала абрысы пейзажу Яно зацягвала зямлю бруднай шэранню і на цэлую ноч удушвала жыццё. Гэта як усё роўна вылітае з чыгуну святло, у якім усё нерухомае, акрамя ветру, ценем асядала часам на шэрыя бары, і ў якім не жыло нічога, апрача пахошчаў голай зямлі, было адзіным светам са значэннем для яго, бо было падобным на свет ягонай душы.

Так ён ішоў на поўдзень. Прыблізна ў паўднёвым кірунку, бо ішоў не па магічным компасе, а па компасе свайго нюху, а ён, нюх, дазваляў яму абмінаць кожны горад, кожнае сяло, кожнае жытло. Тыднямі ён не сустракаў ані душы. Ён мог бы закалыхаць сябе супакойлівай верай, што ён — адзін у цёмным або залітым халодным месяцавым святлом свеце, калі б яго беззаганны компас не падказаў яму, што ёсць нешта лепшае.

Нават уначы ў свеце былі людзі Нават у самых збязлюдненых мясцінах вадзіліся людзі Толькі яны шыліся па сваіх патаемных норах, як пацукі, і спалі. Зямля не ачышчалася ад іх, бо нават у сне яны выпараліся пахамі, якія лезлі ў адчыненыя дзверы і шчажыны іхніх логаваў вонкі і затручвалі прыроду, пакінутую, здавалася, на волю лёсу. Чым больш абвыкаўся Грануй з больш чыстым паветрам, тым адчувальней мітрэнжыў яго чалавечы пах, які нечакана, ну ж бо зусім нянаджана усплываў у паветры, жудасны, пачварны, як казліны смуродзіска, і выдаваў, так сказаць, існасць якога-небудзь пастуховага бярлога, ці халабуды смаляра, ці разбойніцкага лёха. І Грануй бег і бег далей, упрочкі, усё больш адчувальна рэагуючы на ўсё больш рэдкія пахі чалавечыны Так ягоны нос зводзіў яго ва ўсё больш бязлюдныя мясціны краіны, усё больш аддаляў яго ад людзей і ўсё больш энергічна прыцягваў да магнітнага полюса максімальна магчымай адзіноты

## 24

Гэты полюс, альбо самы далёкі ад людзей пункт ва ўсім каралеўстве, быў у цэнтральным масіве Аверні, прыкладна за пяць дзён дарогі ад Клермона, на вышыні дзвюх тысяч метраў, на вышыні вулкана Плён-дзю-Канталь.

Вулкан гэты — велізарны конус з свінцова-шэрых парод сярод бясконца панылага пласкагор'я, толькі сям-там парослага шэрым мохам і шэрым нізкарослым хмызоўем Сюд-туд з яго тырчалі, як гнілыя зубы, бурыя скалы, асобныя дрэвастоіны, абгарэлыя ў пажарах. Самымі светлымі днямі мясцовасць глядзелася так панура і знежывела, што нават самы гарапашны пастух гэтай гарапашнай правінцыі не пераганяў бы сюды сваіх авечак. А ўжо начамі, у бледным святле месяца, гэтая забытая Богам пустэльня здавалася нечым тагасветным. Нават шуканы па ўсёй краіне бандыт Лебрэн і той прабіваўся ў Сэвэны, дзе яго схапілі і чвартавалі, а не хаваўся на Плён-дзю-Канталі, дзе яго, праўда, ніхто не знайшоў бы, але дзе яго чакала пэўная смерць пажыццёвай самоты, а яна здавалася яму яшчэ страшнейшай.

На шмат міль навокал не было ні людзей, ні звычайнага цеплакроўнага звяр'я — толькі некалькі кажаноў, жукоў і гадзюк. Дзесяткі гадоў ніхто не падымаўся на вяршыню.

Грануй дабраўся да гары жнівеньскай ноччу 1756 года. Да святла падняўся на вяршыню. Ён яшчэ не ведаў, што яго падарожжа закончылася. Ён думаў, што гэта толькі этап на дарозе да яшчэ чысцейшага паветра і, абмацваючы нюхам грандыёзную панараму вулканічнай пустэльні, круціўся як жэўжык: на ўсход, дзе слалася шырокае пласкагор'е Сэн-Флюр і балоцістыя берагі рэчкі Рыу; на поўнач, адкуль ён прыйшоў, колькі дзён перабіраючыся праз карставыя хрыбты, на захад, адкуль лёгкі ранішні ветрык даносіў да яго пах каменя і крамяных траў; на поўдзень, нарэшце, дзе на многія-многія мілі працягнуліся спады Плён-дзю-

Канталя аж да цёмных урвішчаў Труера.

Усюды, на ўсіх кірунках, панавала тое самае бязлюддзе, але кожны крок у любы бок азначаў набліжэнне да чалавека. Стрэлку компаса зашкаліла, яна круцілася, як хацела. Арыентыраў больш не было. Грануй дасягнуў мэты. Але ж разам з тым і трапіў у пастку

Калі ўстала сонца, ён усё яшчэ быў на тым самым месцы і лавіў носам паветра Роспачнанапружліва ён спрабаваў вызначыць кірунак, адкуль яму пагражала чалавечына, і кірунак процілеглы, куды яму след было ўцякаць. Адусюль да яго далятали ледзь улоўныя шматкі чалавечых пахаў, ад якіх ён шалеў А тут, дзе ён стаяў, не было нічога. Тут быў толькі спакой, спакайната пахаў, так бы тое мовіць. Вакол панавала толькі падобнае на ціхі шоргат аднароднае веянне мёртвага камення, шэрых паўзучых раслін і сухой травы

Гранyю спатрэбілася вельмі шмат часу, каб паверыць, што чалавечых пахаў няма. Шчасце заспела яго знянацку Яго недавер доўга супраціўляўся цвярозаму розуму Ён нават, калі ўстала сонца, паклікаў на дапамогу зрок і ўжо вачмі даследаваў небакрай, шукаючы хоць якога б там следу чалавечай прысутнасці — дах будана, дым з коміна, плот, мост, статак. Ён прыставіў далоні да вушэй, каб учуць віск касы, або сабачы брэх, або дзіцячы плач. Цэлы дзень ён праседзеў на распаленай сонцам вяршыні Плён-дзю-Канталя, марна чакаючы хоць якое азнакі. Толькі ў сутонні яго недавер памалу адступіў перад прылівам эйфарыі ён уцёк ад ненавіснага смуроду! Ён сапраўды быў тут зусім адзін! Адзін чалавек у свеце!

У ім грымнула бура радаснага шчасця Як пацярпелы карабельнік пасля марных блуканняў па моры ў экстазе вітае першы населены востраў, так і Грануй святкаваў сваё прыбыццё на гару самотнасці Ён крычаў ад шчасця. Адкінуўшы юрзак, гуньку, кій, ён тупаў па зямлі нагамі, ускідваў угору рукі, круціўся ў дзікім танцы, рыкаў і выкрыкваў на ўсе бакі сваё імя, сціскаў кулакі, пераможна гразіўся імі ўсёй краіне, што ляжала пад ім, і вечароваму сонцу, і святкаваў сваю перамогу Ён шалеў як вар'ят да позняй ночы.

## 25

Некалькі наступных дзён ён асталёўваўся на гары — бо яму было ясна, што ён не скора пакіне гэтую дзівосную мясціну Спачатку ён пашукаў нюхам вады і знайшоў яе ў расколіне пад вяршыняй, дзе яна тонкай плевачкай сцякала па скале. Яе было мала, але калі ён цярпліва хлябтаў цэлую гадзіну, дык спатольваў усю сваю дзённую патрэбу Ён знайшоў і ежу· гэта былі маленькія саламандры і змеі, якім адрываў галовы і глытаў цалкам, са скурай і касцямі Ён заядаў іх сухім лішайнікам, і травою, і журавінамі Гэты рацыён, неверагодны ў вачах абывателя, ані яго не бянтэжыў Апошнія тыдні і месяцы ён ужо больш не карміўся гатаванай чалавекам ежай, такою як хлеб, і каўбаса, і сыр, а, пачуўшы голад, пажыраў усё спажыўнае, што ў рукі давалася. Менш за ўсё ён быў гурманам. Ён наогул не ведаў ніякай асалоды, акрамя асалоды ад бесцялеснага паху Ён і пра камфорт не здагадваўся і задаволіўся б голым каменем, каб легчы. Але ён знайшоў нешта лепшае.

Непадалёк ад крыніцы ён знайшоў натуральную вузкую штольню, якая пакручаста вяла ўсярэдзіну гары і метраў праз трыццаць канчалася завалам. Там, у канцы штольні, было так цесна, што плечы Грануя ледзь улазілі ў праём, і так нізка, што стаяць ён мог толькі сагнуўшыся. Але ён мог сядзець, а клубком — яшчэ і ляжаць. І гэтага цалкам хапала для камфорту Бо такое месца мела неацэнныя перавагі. у канцы тунеля нават удзень панавала апраметная ноч, стаяла мёртвая цішыня, і паветра дыхала вільготным саланаватым халадком Грануй адразу ўнюхаў, што тут ніколі не бывала ніводнай жывой істоты Калі ён завалодаў гэтым месцам, яго агарнула пачуццё, блізкае да святога трымцення Ён паслаў сваю конскую гуньку, нібы накрываў алтар, і лёг Ён адчуваў нябеснае шчасце. Ён ляжаў у самай самотнай гары Францыі, пяцьдзесят метраў пад зямлёй, як у сваёй дамавіне. Яшчэ ні разу ў жыцці яму не ляжалася так утульна — хіба што ў чэраве ў маці Калі б нават звонку згарэў увесь свет, адсюль ён нічога не заўважыў бы. Ён ціха заплакаў Ён не ведаў, каму дзякаваць за такое непамыснае шчасце.

Потым ён выходзіў з гары, толькі каб пахлябтаць вады з крыніцы, хуценька вызваліцца ад мачы і экскрэментаў і папаляваць на яшчарак і змеяў Уначы яны лавіліся лёгка, бо залазілі пад камяні і ў неглыбокія норы, дзе ён іх знаходзіў па паху

Першыя тыдні ён яшчэ некалькі разоў падымаўся на вяршыню, каб абнюхаць усё навокал Але неўзабаве гэта стала больш лішняй звычкай, чым патрэбай, бо ні разу ён не ўчуў нічога пагрозлівага. І тады ён спыніў вылазкі; ён імкнуўся толькі да таго, каб, справіўшы патрэбы, важныя для элементарнага выжывання, як мага хутчэй вярнуцца ў свой склеп. Бо тут, у склепе, ён, зрэшты, і жыў. Гэта азначала, што дваццаць гадзін у суткі ён у поўнай цемры і поўнай цішыні сядзеў на сваёй гуньцы у канцы каменнага калідора, прыхіліўшыся спінай да кучы абсыпанай пароды, уціснуўшы плечы паміж скаламі, і задавальняўся самім сабой.

Бываюць людзі, якія шукаюць адзіноты· пакайныя грэшнікі, няўдахі, святыя або прарокі Яны любяць сыходзіць у пустэльню, дзе кормяцца акрыдамі і дзікім мёдам. Некаторыя нават жывуць у пячорах і цяснінах на пустэльных выспах або сядзяць — крыху з какецтвам — у клетках, падвешаных на галлі або ўмацаваных на слупах. Яны робяць гэта дзеля таго, каб наблізіцца да Бога Адзінота патрэбна ім для знемажэння плоці і пакаяння. Яны так робяць, бо перакананыя, што такое жыццё — богаспадобнае. Або ж яны месяцамі і гадамі чакаюць, што ў адзіноце ім будзе паслана божае адкрыццё, каб яны без адкладу перадалі яго людзям.

Нічога такога не было ў Грануя. Пра Бога ён не меў ніякага ўяўлення. Ён не каяўся і не чакаў ніякага адкрыцця згары. Ён пакінуў людзей толькі дзеля сваёй асалоды, толькі на тое, каб быць блізка да самога сябе. Ён купаўся ў сваім, ні на што не скіраваным існаванні і лічыў, што гэта цудоўна. Як труп, ляжаў ён у каменным склепе, амаль не дыхаў, амаль не чуў стуку свайго сэрца — і ўсё-такі жыў такім інтэнсіўным і перакручаным жыццём, як ніхто іншы ў свеце.

## 26

Арэнай гэтых перакрутак была — а як жа ж бо інакш — ягогая ўнутраная імперыя, куды ён з самага нараджэння закопваў абрысы ўсіх пахаў, чутых ім хоць раз. Каб наладзіцца, ён спярша выклікаў з памяці самыя раннія, самыя далёкія з іх: варожыя душныя выпарэнні спальні мадам Гаяр; смурод высахлай скуры яе рук, воцатна-кіслае дыханне патэра Тэр'е, істэрычны, гарачы мацярынскі пот карміцелькі Бюсі, трупны потых Могілак нявінных, забойчы пах сваёй маці. І ўпіваўся агідаю і нянавісцю, і ў яго валасы ўставалі ад салодкай вусцішнасці.

Часам гэты аперытыў мярзоты быў недастатковы, і, каб разагнацца, ён дазваляў сабе невялікі нюхальны экскурс да Грымаля і частаваўся смуродам гнілых, яшчэ з мяздрою, скур і дубільных сумесяў альбо ўяўляў сабе чадныя выпарэнні шасцісот тысяч парыжанаў у душным, смертапахібным скварь ў разгар лета.

І тады раптам — у тым і быў сэнс практыкавання — назапашаная нянавісць аргіястычна вырывалася вонкі Як навальніца, ён згушчаўся пад гэтымі пахамі, якія нахабна зняважылі яго светлы нос. Як град пшанічны палетак, ён сек гэтую мярзоту, як ураган, ён расціраў яе на пыл і тапіў у велізарным ачышчальным моры дыстыляванай вады Такі справядлівы быў у яго гнеў. Такая велічная была ў яго помста. Га! Якая высокая хвіліна! Грануй, гэты маленькі чалавек, дрыжаў ад узбуджэння, яго цела сутаргава сціскалася ў вострай асалодзе і звівалася так, што часам стукаўся аб столь штольні, потым павольна расслабляўся і ляжаў, спустошаны і глыбока задаволены Гэты акт вывяржэння ўсіх гідотных пахаў быў сапраўды занадта прыемны, занадта У сцэнарыі яго ўяўнага сусветнага тэатра гэты нумар быў, здаецца, самы любімы, бо даваў пачуццё заслужанай знямогі, якою аплачваюцца толькі сапраўды вялікія, гераічныя дзеі.

Цяпер ён меў права крыху адпачыць. Ён выцягваўся на сваім лежаку· фізічна на столькі, на колькі хапала месца ў цёмнай штольні Аднак унутрана, на чыста падмеценай тэрыторыі сваёй душы, ён камфортна выцягваўся на поўны рост і аддаваўся салодкім марам пра вытанчаныя духмянасці. Напрыклад, ён выклікаў пахучы подых веснавых лугоў; цеплаваты травеньскі вецер у зялёнай лістоце букаў; марскі брыз, церпкі, як падсолены міндаль.

Ён падымаўся пад вечар — так сказаць, пад вечар, бо, вядома, не было ніякага вечара, ніякай раніцы, ніякага полудня, не было ні цемры, ні святла, і не было ні веснавых лугоў, ні зялёнай букавай лістоты, а быў толькі пах рэчаў. (Вось таму адзіна адэкватная, але і адзіна магчымая facon de parle* пра гэты універсум — гаварыць пра яго як пра ландшафт, бо наша

* Манера гаварыць (*фр.*).

мова не прыдатная на апісанне свету, які ўспрымаецца нюхам.) Ну, дык вось, пад вечар у душы ў Грануя ўзнікаў стан і наставаў момант, падобны на канец сіесты на поўдні, калі паўдзённая амярцвеласць павольна ападае з ландшафту і спыненае жыццё зноў гатова пачацца. Успалымнёная шалам гарачыня — вораг тонкіх пахаў — адступалася, гурт мярзотных дэманаў быў знішчаны. Палі ўнутраных бітваў, гладкія і мяккія, былі ў лянівым спакоі абуджэння і чакалі, што на іх апусціцца воля гаспадара І Грануй падымаўся — як было сказана — і атрасаў з сябе сон. Ён уставаў, вялікі ўнутраны Грануй, ён узвышаўся волатам, у поўным бляску, мілата была дзівіцца на яго — амаль мілажаль, што ніхто яго не бачыў!— і азіраў свае валоданні, пыхліва і ганарліва.

Так! Гэта было ягонае каралеўства! Непаўторная імперыя Грануя! Створаная і ўпакораная ім, Грануем, спустошаная, разбураная і зноў пастаўленая ягонай прыхамаццю, пашыраная ім да невымернасці і абароненая агнявым мячом ад любога замаху. Тут не мела значэння нічога, акрамя ягонай волі, волі вялікага, цудоўнага, непаўторнага Грануя. І пасля таго, як былі знішчаны, дашчэнту спалены паганыя міязмы мінулага, ён хацеў, каб ягоная імперыя пахла раскошна. І ён уладарна ішоў па разараным цаліку і сеяў самыя розныя духмянасці, дзе — залішне шмат, дзе — скупа; на бясконца шырокіх плантацыях і на маленькіх інтымных кветніках, раскідаючы жменямі насенне або кладучы па адным у зацішных мясцінах. У самыя далёкія правінцыі сваёй імперыі пранікаў Вялікі Грануй, апантаны садоўнік, і неўзабаве не засталося куточка, куды ён не кінуў бы зярнятка паху

І калі ён бачыў, што гэта добра і што ўся краіна засеяна яго боскім грануевым насеннем, Вялікі Грануй пасылаў на яе дождж віннага спірту, лёгкі і пастаянны, і насенне прарастала, радавала яму сэрца. На плантацыях пышна рунелі ўсходы, і ў патаемных садах наліваліся сокам сцяблінь. Покаліся бутоны, спяшаліся раскукліць кветкі Тады Вялікі Грануй загадваў дажджу перастаць. І дождж пераставаў А Грануй пасылаў краіне сонца сваёй усмешкі, і ў адказ на яе мільёны раскошных кветак у адзіным парыванні распускаліся, рассціляліся ад краю да краю па імперыі суцэльным яркім кілімам, вытканым з мірыядаў флаконаў з каштоўнымі пахошчамі І Вялікі Грануй бачыў, што гэта добра, вельмі, вельмі добра І ён пасылаў на краіну вецер свайго дыхання. І пад гэтай ласкай кветкі струменілі водар і змешвалі мірыяды сваіх пахаў у адзін, які пераліваўся ўсімі адценнямі, але ўсё-такі адзіны ў заўсёднай зменлівасці універсальны водар у гонар Яго, Вялікага, Адзінага, Цудоўнага Грануя, і, седзячы на троне залатога пахучага воблака, ён зноў уцягваў у сябе гэты раскошны дух, і пах ахвяры быў яму даспадобы І Ён спускаўся з вышыні, каб шматкроць дабраславіць свой твор, а твор дзякаваў яму радасцю, і захапленнем, і ўсё новымі выбухамі духмянасці. Тым часам вечарэла, і пахі расплываліся шырэй, зліваліся з сінечаю ночы ва ўсё больш фантастычныя праявы. Наперадзе была сапраўдная бальная ноч пахаў з велізарным феерверкам, які пахнуў брыльянтамі.

Аднак Вялікі Грануй стамляўся, ён пазяхаў і казаў· «Вось, Я ўчыніў вялікую дзею. Я прагну закончыць гэты багаты працаю дзень яшчэ адной радасцю»

Так казаў Вялікі Грануй, а тым часам просты пахучы люд унізе радасна спяваў і скакаў, а Ён, спусціўшыся з залатога воблака, плаўна лунаў на шырока раскінутых крылах над начной краінай сваёй душы, летучы дахаты — у сваё сэрца

## 27

Ах, было соладка — вяртацца да сябе! Двайны сан — Помсніка і Вытворцы светаў — моцна стамляў, і вытрымліваць пасля гадзінамі захапленне сваімі творамі таксама было досыць цяжка. Знямоганы боскімі абавязкамі стварання і прадстаўніцтва Вялікі Грануй загадзя смакаваў зямныя радасці

Яго сэрца было пурпуровым замкам у каменнай пустэльні Яго хавалі дзюны, акружаў аазіс балотаў і сем каменных сцен. Дабрацца да яго можна было толькі паветрам. У ім было тысяча кладовак, і тысяча скляпоў, і тысяча шыкоўных салонаў, у тым ліку адзін з пурпуровым канапэ, на якім Грануй, цяпер ужо больш не Вялікі Грануй, а, бадай, прыватная асоба, Грануй ці проста дарагі Жан-Батыст, любіў адпачываць пасля дзённых турботаў

А ў кладоўках стаялі высокія, да самай столі, паліцы, і на іх мясціліся ўсе пахі, сабраныя Грануем за ўсё ягонае жыццё, некалькі мільёнаў пахаў І ў скляпах замка стаялі бочкі найлепшых пахошчаў яго жыцця. Калі яны настойваліся, іх налівалі ў пляшкі і кіламетрамі ўкладвалі ў халодных вільготных праходах, адпаведна з годам і месцам вытворчасці, іх было столькі, што не хапіла б жыцця, каб скаштаваць з кожнай.

І калі наш дарагі Жан-Батыст, вярнуўшыся chez soi*, клаўся ў пурпуровым салоне на сваё ўтульнае канапэ — калі хочаце, зняўшы нарэшце боты,— ён пляскаў у далоні і склікаў слуг, нябачных, неадчувальных, нячутных і перад усім няўлоўных на нюх, г зн. цалкам уяўных слуг, і пасылаў іх у кладоўкі, каб з вялікай бібліятэкі пахаў прынесці яму той ці іншы том, і загадваў ім спусціцца ў склеп і прынесці яму пітва. І ўяўныя слугі спяшаліся выканаць загад, і Грануеў страўнік сціскаўся ў сутарзе пакутлівага чакання. Ён раптоўна адчуваў сябе, як п'яніца каля стойкі, якога разбірае страх, што з нейкай там прычыны яму не пададуць заказаную гарэлку А раптам скляпы і сутарэнні ўраз апусцелі? А раптам віно ў бочках сапсавалася? Чаму ён мусіць чакаць? Чаму не ідуць? Пітво было патрэбна адчуць, цяпер во, без адкладу, ён памірае ад смагі, ён сканае на месцы, калі не пададуць.

Ай, ды кінь, Жан-Батыст! Супакойся, даражэнькі! Прыйдуць яны, прыйдуць, прынясуць. чаго ты хочаш Вось і яны, слугі, ляцяць як падмазаныя, трымаючы на нябачным падносе кнігі пахаў. Нябачныя рукі ў белых пальчатках вось — падносяць неацэнныя пляшкі, асцярожна здымаюць іх з падноса; слугі з паклонам знікаюць.

У поўнай адзіноце — нарэшце-такі, зноў сам з сабою і пры сабе!— Жан-Батыст хапае такія палка жаданыя пахі, адкаркоўвае першую бутлю, налівае куфаль па беражкі, падымае да вуснаў і п'е. Адным глытком ён спаражняе куфаль халоднай духмянасці, і гэта чароўна! Гэта так добра, так ратуе, што ад шчасця ў нашага дарагога Жан-Батыста нагортваюцца на вочы слёзы, і ён адразу налівае сабе другі куфаль водару· 1752 года, улоўленага ўвесну, у сутонні на Каралеўскім мосце, калі з захаду павяваў лёгкі ветрык, у якім змяшаліся пахі мора, пах лесу і крыху смалістага паху прычаленых да берагу лодак. Гэта быў пах першай ночы, якая ўжо перабіралася ў зару, ночы, якую ён правёў, калі бадзяўся па Парыжы без дазволу Грымаля. Гэта быў свежы пах блізкага дня, першага світання, пражытага на волі Ён быў азнакаю нейкага іншага жыцця. Пах той раніцы быў Грануюю пахам надзеі. Ён дбайна хаваў яго. І кожнага дня патрошку ласаваўся ім.

Пасля другога куфля ўся нервовасць і няўпэўненасць, усе паняверкі зніклі і яго напаўняў велічны спакой. Ён адкідваўся на мяккія падушкі канапэ, адкрываў кнігу і пачынаў чытаць пра пахі свайго маленства, пахі школьныя, пахі гарадскіх вуліц і завулкаў, чалавечыя пахі. І яго прабіралі прыемныя дрыжыкі жаху, бо тут ён выклікаў суцэльна ненавісныя, знішчальныя пахі З агідай і цікаўнасцю Грануй чытаў кнігу мярзотлівых пахаў, і калі агіда перасільвала цікаўнасць, ён проста захлопваў яе, адкладваў убок і браў наступную.

Заадно ён увесь час прыкладваўся да высакародных пахошчаў Пасля пляшкі з водарам надзеі ён адкаркоўваў бутлю 1744 года з пахам дроў каля дома мадам Гаяр. А потым выпіваў вечаровага паху, насычанага духамі і церпкім цяжарам кветак, падабранага на ўскраіне парку Сэн-Жэрмэн-дэ-Прэ ўлетку 1753 годда.

Цяпер ён ужо як след прапахся. Цела яго ўсё цяжэй асядала на падушкі, а дух чароўна затуманьваўся І ўсё ж ягоны баль гэтым не канчаўся Праўда, вочы ўжо больш не маглі чытаць, кніга даўно выпала з рук, але яму не хацелася завяршаць вечар без яшчэ адной, апошняй бутэлькі, самай шыкоўнай: гэта быў водар дзяўчыны з вуліцы Марэ...

Ён выпіваў яго багавейна і дзеля гэтага выпроствоўся на сваім канапэ, хоць яно было і цяжкавата, бо пурпуровы салон хістаўся і круціўся вакол яго ад кожнага руху У позе ўзорнага вучня, сціснуўшы калені і стуліўшы ступакі, паклаўшы левую руку на левы клуб,— так піў маленькі Грануй каштоўны водар са скляпоў свайго сэрца, піў куфаль за куфлем і рабіўся ўсё больш зажураны. Ён ведаў, што выпіў занадта многа. Ён ведаў, што аж столькі асалоды яму не вытрываць. І ўсё-такі піў да дна Ён ішоў цёмным праходам з вуліцы ў двор. Ішоў на святло. А ў коле святла сядзела дзяўчына і рэзала слівы мірабэль.Час ад часу чуўся трэск ракет і петардаў феерверка. .

Ён адстаўляў куфаль і сядзеў, быццам скамянелы ад сентыментальнасці і ап'янення яшчэ некалькі хвілін, пакуль з яго языка не знікаў смак выпітага. Нерухома глядзеў перад сабою. У мазгу ў яго пусцела, як і ў бутэльках. Тады ён адкідваўся на бок, на пурпуровае канапэ і

* У свой кут (фр.).

імгненна атупела засынаў.

І тым самым часам вонкавы Грануй таксама засынаў на сваёй гуньцы. І сон у яго быў такі самы бяздонны і глыбокі, як і сон унутранага Грануя, бо гераклавыя подзвігі і эксцэсы аднаго не менш стамлялі і другога — абодва яны, зрэшты, былі той самы чалавек.

Праўда, калі ён прачынаўся, дык прачынаўся не ў пурпуровым салоне пурпуровага замка за сямю мурамі і нават не на вясновых лугах сваёй душы, а толькі ў каменным сховішчы ў канцы тунеля на цвёрдым подзе ў апраметнай цямрэчы І яго млосціла ад голаду і смагі і даймалі дрыжык і пахмел, як сіняга прапойцу пасля загулу Ён рачком выпаўзаў са сваёй штольні.

На дварэ нешта стаяла — ці то пачатак, ці то канец ночы, але нават апоўначы святло зорак рэзала вочы. Паветра здавалася пыльным, едкім, пякучым для лёгкіх, ландшафт — сухім і цвёрдым, ён і натыкаўся на каменне. І нават самыя далікатныя пахі турзалі і казыталі яго адвыклы ад ветру нос. Грануй, гэты клешч, стаў адчувальны, бы рак, які вылез з панцыра і голы плавае ў моры.

Ён ішоў да крыніцы, злізваў са скалы вільгаць — гадзіну, дзве гадзіны, гэта была пакута, час не канчаўся, той час, калі яго заставаў рэальны свет Ён зрываў з камянёў некалькі мохнявак, душачыся, запіхваў іх сабе ў рот, прысядаў на камянях, спраўляў патрэбу і пажыраў адначасова — усё павінна было рабіцца хутка, хутка, хуценька, як найбарджджэй — і на злом галавы страмотыч, як маленькі мяккі звярок, над якім у небе ўжо кружляюць каршуны, бег назад у сваю пячору, у канец тунеля, дзе ляжала гунька. Тут яму зноў нарэшце было бяспечна.

Ён прыхіляўся плячмі да груды друзу, выцягваў ногі і чакаў. Цяпер яму трэба было супакоіць цела, зусім супакоіць, як посуд, які вось-вось расплешчацца, калі яго надта моцна страсянуць. Паступова яму ўдавалася супакоіць дыханне. Яго ўзбуджанае сэрца пачынала біцца раўней, шторм унутры спакваля суймаўся, аціхаў І раптам адзінота, як чорная роўнядзь штылю, агортвала душу Ён заплюшчваў вочы Чорныя дзверы ў ягонае «я» адчыняліся, і ён заходзіў. У тэатры Грануевай душы пачынаўся чарговы спектакль.

## 28

І так дзень у дзень, тыдзень у тыдзень, месяц у месяц. І так цэлых сем гадоў.

А тым часам у свеце ваявалі. Біліся ў Сілезіі і ў Саксоніі, у Гановеры і ў Бельгіі, у Багеміі і Памераніі Салдаты караля гінулі ў Гесэне і Вестфаліі, на Балеарскіх выспах, у Індыі. на Місісіпі і ў Канадзе, калі не паміралі ад тыфусу яшчэ па дарозе туды. Мільёну чалавек вайна каштавала жыцця, каралю Францыі — ягоных калоній, а ўсім краінам, што перайм аліся тою вайною,— столькі грошай, што яны нарэшце, перасіліўшы сябе, рашылі канчаць.

Аднойчы ў гэты час, зімою, Грануй ледзь не замерз, сам таго не заўважыўшы Пяць дзён ён праляжаў у пурпуровым салоне, а калі ачуўся ў штольні, не мог зварухнуцца ад холаду Ён тут жа заплюшчыў вочы, каб памерці ў сне. Але настала адліга, размарозіла яго і ўратавала.

Аднаго разу нагурбавала столькі снегу, што яму не хапіла сілы выграбціся і дакапацца да лішайніку. І ён карміўся замерзлымі кажанамі.

Неяк каля пячоры ён знайшоў і з'еў мёртвага крумкача. Гэта былі адзіныя падзеі знешняга свету за сем гадоў У астатнім ён жыў толькі ў сваёй фартэцыі, толькі ў самаўладным царстве сваёй душы. І ён заставаўся б там да скону (яму ж усяго хапала), калі б не сталася катастрофа, якая выгнала яго з гары і выплюнула ў вонкавы свет.

## 29

Гэтая катастрофа была не землятрус, не лясны пажар, не лавіна, не абвал штольні. Яна ўвогуле была не вонкавая катастрофа, а ўнутраная, таму асабліва пакутлівая, бо яна заблакавала дарогу да ўцёкаў, якую Грануй любіў найбольш. Яна сталася ў сне. Лепей сказаць, у марах. А яшчэ лепш — у марах, у сне, у сэрцы, у ягонай уяве.

Ён ляжаў у пурпуровым салоне і спаў Вакол яго стаялі пустыя бутэлькі. Ён перапіў, пад канец аж дзве бутэлькі духмянасці рыжай дзяўчыны. Мабыць, гэтага было задужа, бо да яго ў сон, хай сабе і глыбокі, як смерць, гэтым разам прабіўся зыб нейкіх прывідных відзежаў У гэтым зыбе выразна прарываліся ашмоткі нейкага паху Спачатку яны толькі тонкімі нітачкамі прасмыкаліся міма Грануевага носа, потым ушчыльніліся, ператварыліся ў воблака. І яму пачало здавацца, што нібыта вось ён пасярод гнілога балота, а з багны ўстае туман Туман павольна падымаўся ўсё вышэй, неўзабаве ён зусім абвалок Грануя, прабраў яго наскрозь, і сярод туманнага смуроду больш не заставалася ні кроплі свежага паветра. Каб не задыхнуцца, яму давялося б удыхнуць гэтага туману А туман гэты быў, як сказана, пахам. Гэты туман быў ягоны, асабісты пах — вось які гэта быў туман

А жахлівае было тое, што Грануй, хоць і ведаў, што гэта ягоны пах, не мог яго вытрываць. Дарэшты тонучы ў самім сабе, ён ні за што на свеце не мог сябе ўнюхаць!

Усвядоміўшы гэта, ён закрычаў дзікім голасам, быццам яго палілі жывога. Крык разваліў сцэны пурпуровага салона, разнёс муры замка, выкінуўшыся з сэрца, ён праляцеў над ярамі і балотамі, і пустынямі, пранёсся над начным ландшафтам ягонай душы, як бура-віхура агнявая, ён выплюхнуўся з ягонай глоткі і памкнуў па звівах штольні вонкі, у свет, расцёкся па пласкагор'і Сэн-Флюр,— здавалася, гарлала сама гара. Ён прачнуўся, пачаў адбівацца, як бы нават каб прагнаць нясцерпны смурод, які вось-вось задушыць яго. Ён быў да смерці перапалоханы, аж калаціўся ўсім целам ад жывёльнага страху. Калі б яго крык не разарваў гэтага смуроду, ён захліснуўся б у сабе,— жудасная смерць. Нават згадваючы пра гэта пазней, жахаўся. І пакуль ён сядзеў, усё яшчэ ў сутаргах, пакуль спрабаваў увесці парадак у свае перапалошаныя, мітуслівыя думкі, ён цвёрда ўцяміў адно: ён зменіць сваё жыццё, каб другі раз не сасніць такога страхоцця. Бо другога разу не перажыве.

Ён накінуў на плечы гуньку і выйшаў. Там якраз была раніца, ужо позняя раніца канца лютага. Свяціла сонца. Зямля пахла вільготным каменем, мохам і вадой. Вецер ужо даносіў кволенькі пах пралесак. Ён прысеў на кукішкі каля пячоры, грэючыся на сонцы і ўдыхаючы свежае паветра. Яго ўсё яшчэ ліхаманіла ад адной думкі пра смурод, ад якога ён уцёк, і калаціла ад шчаснапяшчотлівага цяпла, якое разлівалася па спіне. Як яно-такі добра, што гэты вонкавы свет яшчэ быў, хоць бы як мэта ўцёкаў. Было б неверагодна жудасна, выходзячы з тунеля, убачыць, што ніякага свету няма! Ні святла, ні паху — толькі гэты пачварны смурод, усярэдзіне там, і тут, і ўсюды

Шок памалу адступаўся Абцугі страху паступова адпусцілі, і Грануй пачуў сябе пэўнікам. А ўжо пад полудзень і зусім ачуняў і акрыяў Ён паднёс тыльным бокам да носа ўказальны і сярэдні пальцы левай рукі і дыхаў праз пальцы, убіраў у сябе вільготны, закрашаны пралескамі водар веснавога паветра. Пальцы не пахлі Ён павярнуў далонь і абнюхаў яе з унутранага боку,— ані, нічога, толькі цяпло рукі. Тады ён падкасаў абтрапаны рукаў кашулі і тыцнуўся носам у згін локця Ён ведаў, што гэта — тое месца, дзе ўсе людзі пахнуць сабою. Але зноў нічога. Не ўчуў нічога падпахамі, нічога на нагах, нічога на палавым органе, да якога нагнуўся, як толькі змог Гэта было дзівосна! Ён, Грануй, здольны за некалькі міль выявіць па паху іншага чалавека, не мог унюхаць свой уласны палавы орган на адлегласці далоні! І хоць яно было так, ён не даўся ў паніку, а, холадна разважыўшы, сказаў сабе так: «Яно не ў тым тое, што не пахну, а пахне ўсё. А ўсё ў тым, мабыць, што я не чую, як я пахну, бо ад самага роду я дзень у дзень нюхаў сябе, і таму мой нос не ўспрымае майго паху Калі б я мог аддзяліць ад сябе свой пах альбо хоць бы частку яго, крыху адвыкнуць і па нейкім часе вярнуцца да яго, дык бы вельмі нават мог пачуць свой пах, а значыцца — сябе»

Ён скінуў гуньку і вопратку ці тое, што яшчэ засталося ад вопраткі, скінуў гэтыя рызманы, гэтыя транты Ён не здымаў іх з цела сем гадоў Яны павінны былі наскрозь прапахнуцца ім. Ён скінуў іх у кучу каля пячоры і адышоўся І вось, першы раз за сем гадоў, ён зноў падняўся на вяршыню гары. Там ён стаў на тое самае месца, дзе стаяў тады, у дзень, калі сюды прыйшоў, павярнуўся носам на захад і даў ветру абвяваць сваё голае цела. Яго мэта была аж так праветрыцца, аж так набрацца заходняга ветру — пахаў мора і мокрых лугоў,— каб гэты вецер перабароў пах ягонага цела, каб узнікла пастка на пах паміж ім, Грануем, і яго вопраткай, і тады ён змог бы ясна пачуць, як жа яна пахне. І каб яму ў нос заляцела як мага менш свайго паху, ён нахіліўся наперад, з усяе сілы выцягнуў шыю супроць ветру, а рукі — назад. Ён выглядаў як плывец перад нырцом у ваду

У гэтай на дзіва смешнай паставе ён быў некалькі гадзін запар, так што яго адвыклая ад святла, белая, як у чарвяка, скура пачырванела, як у лангусты, хоць сонца грэла яшчэ слаба. Падвечар ён сам спусціўся да пячоры. Яшчэ здалёк ён угледзеў кучу сваёй вопраткі За не-

калькі метраў ён зацiснуў нос і адпусціў яго толькі тады, калі падышоў да самае яе. Ён хацеў зняць пробу, як навучыўся ў Бальдзіні: уцягнуў у сябе паветра, а потым штуршкамі пачаў выпускаць яго з сябе. Каб улавіць пах, ён абедзвюма рукамі зрабіў як бы лейку над вопраткай, і ўсунуў у яе, як язык, свой нос. Ён зрабіў усё магчымае, каб выдабыць з вопраткі свой пах. Але яго не было. Былі тысячы іншых пахаў Пахі каменя, пяску, моху, смалы, варонінай крыві,— нават пах каўбасы, якую ён шмат гадоў таму назад купляў непадалёк ад Сюлі Вопратка была нюхальным дзённікам апошніх сямі-васьмі гадоў. І толькі паху ягонага, паху таго, хто насіў яе, не здымаючы, у вопратцы не было.

І тут ён крыху спалохаўся. Сонца села. Ён стаяў голы ля ўваходу ў штольню, дзе ў цёмным канцы пражыў сем гадоў. Дзьмуў халодны вецер, і ён змерз, але не заўважаў, што змерз, бо ў ім быў сустрэчны холад, менавіта страх. Гэта быў не той страх, які быў у сне, мярзотлівая боязь задыхнуцца ў самім сабе. Гэта быў зусім іншы страх. Ад яго нельга было ўцячы, трэба было ісці яму насустрач. Трэба было — нават калі гэтае адкрыццё будзе жахлівае — даведацца напэўна, ці ёсць у яго пах ці не. І даведацца зараз. Без адкладу.

Ён вярнуўся ў штольню. Ужо праз некалькі метраў яго абняла поўная цемра, але ён арыентаваўся, як пры самым яркім святле. Тысячы разоў ён праходзіў тут, ведаў кожны крок і кожны паварот, чуў кожны сталактыт, кожны малюпасенькі выступ Знайсці дарогу было няцяжка. Цяжка было змагацца з успамінам пра клаўстрафобны сон, што, як прыліў, наплываў на яго штораз большымі хвалямі. Але ён не адступаў. Страхам не ведаць ён змагаўся з страхам даведацца і перамог, бо ўжо ведаў, што выбару ў яго не было. Калі ён дайшоў да канца штольні, дзе была куча друзу, абодва страхі пакінулі яго. Ён адчуў, што спакойны, што галава ў яго ясная, а нюх — востры, як скальпель. Ён прысеў на кукішкі, засланіў вочы рукамі і прынюхаўся. У гэтым месцы, у гэтай далёкай ад свету каменнай магіле ён праляжаў сем гадоў. Калі ўжо дзе-небудзь на свеце павінен быць ягоны пах, дык гэта тут Ён дыхаў павольна. Ён правяраў дасканала. Ён праседзеў на кукішках чвэрць гадзіны Ягоная памяць памылак не рабіла, і ён добра памятаў, як пахла на гэтым месцы сем гадоў назад: каменем і вільготнай саланаватай прахаладай, і гэтая чысціня азначала, што ніводная жывая істота сюды не заходзіла... Гэтаксама пахла тут і цяпер.

Ён праседзеў яшчэ колькі часу, зусім спакойна, толькі ціха хіляючы галавою. Потым павярнуўся і пайшоў да выхаду, спярша ўгнуўшыся, а калі штольня павышэла, на ўвесь рост — на волю.

Каля штольні ён апрануўся ў свае лахманы (чаравікі яго згнілі яшчэ шмат гадоў таму назад), накінуў на плечы гуньку і тае ж ночы пакінуў Плён-дзю-Канталь і пайшоў на поўдзень.

## 30

Ён выглядаў пачварна. Валасы адраслі па калені, рэдзенькая бародка — да пупа. Пазногці сталі падобныя на птушыныя пазуры, а на руках і на нагах, там, дзе цела не прыкрывалася лахманамі, шматамі аблезла скура.

Першыя людзі, якіх ён сустрэў,— сяляне, якія працавалі на полі непадалёк ад горада П'ерфор,— убачыўшы яго, далі лататы У самым горадзе ён зрабіў сенсацыю. Людзі збягаліся натоўпамі — падзівіцца на яго. Некаторыя прымалі яго за беглага галерніка. Другія казалі, што ён не зусім чалавек, а гібрыд чалавека і мядзведзя, нейкае лясное страшыдла. Адзін былы марак бажыўся, што ён падобны на дзікуна-індзейца з Каены, што па той бок акіяна Яго прывялі да мэра. Там ён, на добры подзіў, паказаў нейкую паперыну, разявіў рот і даволі збіўліва і няўклюдна — а гэта ж былі першыя словы, сказаныя пасля сямігадовага перапынку,— але ўсё такі даступна разуменню расказаў, што ён вандроўны чаляднік, што на яго напалі бандыты, звалаклі ў пячору і трымалі там у палоне сем гадоў. За гэты час ён не бачыў ні сонца, ні людзей, карміўся з каша, які апускала ў цемры нябачная рука, і, урэшце выратаваўся з дапамогаю лесвіцы, так нічога і не даведаўшыся ні пра сваіх захопнікаў, ні пра выратавальнікаў. Гэтую прыгоду ён выдумаў бо яна здавалася яму больш пераканаўчай за праўду, яна, і праўда, пераконвала больш, бо бандыцкія напады часта здараліся ў гарах Аверні, Лангедока і ў Сэвэнах. Прынамсі, мэр даверліва запісаў прыгоду ў пратакол і даламжыў пра яе маркізу дэ ля Таяд-Эспінасу, леннаму ўладальніку горада і члену парламента ў Тулузе.





Гэты маркіз ужо ў сорак гадоў страціў цікавасць да прыдворнага жыцця, пакінуў Версаль, з'ехаў у свае валоданні і ўвесь аддаўся навукам. Ягонаму пяру належала значная праца пра дынамічную нацыянальную эканоміку, дзе ён прапаноўваў скасаваць усе падаткі на землеваладанне і сельскагаспадарчыя прадукты, а таксама ўвесці назад прапарцыянальны прыбытковы падатак, які наймацней біў бы па бедных і тым самым прымусіў бы іх энергічней развіваць сваю эканамічную актыўнасць. Натхнёны поспехам сваёй брашуры, ён напісаў трактат пра выхаванне хлопчыкаў і дзяўчатак ва ўзросце ад пяці да дзесяці гадоў, потым захапіўся эксперыментальнай сельскай гаспадаркай і паспрабаваў шляхам пераносу бычынага семя на розныя травы вывесці жывёльна-раслінны прадукт скрыжоўвання дзеля атрымання малака — нешта накшталт дойнай кветкі. На першым часе яму дужа шанцавала на поспех і ўдалося вырабіць з травянога малака сыр, які Акадэмія навук у Ліёне вызначыла як «блізкі на смак да казінага, хоць крыху гарчэйшы». Аднак яму давялося прыпыніць доследы з прычыны падскоку цэнаў на бычынае семя, якое гекталітрамі распырсквалі па палетках. Тым не менш заняткі аграрна-біялагічнымі праблемамі абудзілі ў ім цікавасць не толькі да так званай глебы, але і да зямлі наогул і яе адносінаў да біясферы.

Ледзь закончыўшы доследы з вывядзеннем дойна-малочнай кветкі, ён з непахіснай рашучасцю ўзяўся за вялікую працу пра залежнасць паміж блізкасцю да зямлі і вітальнасцю. Ягоны тэзіс сцвярджаў, што жыццё можа развівацца толькі на пэўнай аддаленасці ад зямлі, бо сама зямля няспынна вытачае нейкі газ распаду, так званы fluidum letale, які прыгнятае вітальныя сілы і рана ці позна цалкам іх паралізуе. Таму ўсе жывыя істоты імкнуцца шляхам росту аддаліцца ад зямлі, г. зн. як бы растуць ад яе прэч, а не ўрастаюць у яе; з гэтай прычыны яны транспартуюць угору самыя каштоўныя свае часткі. пшаніца — колас, кветка — бутон, чалавек — галаву; да таго ж калі старасць сагне іх і зноў нахіліць да зямлі, яны непазбежна падупадаюць уплыву лятальнага газу, у які дзякуючы працэсу распаду ўрэшце самыя і пераварaюцца пасля смерці

Дачуўшыся, што ў П'ерфоры аб'явіўся індывід, які правёў сем гадоў у пячоры, дзе яго ўсяго абдымаў элемент распаду — зямля, маркіз дэ ля Таяд-Эспінас прыйшоў у экстаз і загадаў неадкладна даставіць яму Грануя ў лабараторыю, і там яго старанна абследаваў. Ён знайшоў, што тэорыя вітальнасці пацвярджаецца самым непасрэдным чынам Fluidum letale настолькі паўплываў на Грануя, што яго дваццаціпяцігадовае цела выявіла знакі старэчага распаду Адное толькі тое — так растлумачыў Таяд-Эспінас,— што Грануй увесь час свайго затачэння харчаваўся аддаленымі ад зямлі раслінамі, мабыць-такі хлебам і садавінай, ухіліла яго смерць. Цяпер, лічыў маркіз, можна было аднавіць ранейшае здароўе Грануя толькі радыкальным выдаленнем флюіду з дапамогаю вынайдзенага ім, Таяд-Эспінасам, апарата вентыляцыі вітальнага паветра. Такі апарат стаіць у каморы яго гарадскога замка ў Манпелье, і калі Гранyю заўгодна аддацца маркізу ў якасці дэманстрацыйнага аб'екта, дык маркіз не толькі ачысціць яго ад атручання земляным газам, але яшчэ і аддзячыць ладнай сумай грошай...

Праз дзве гадзіны яны сядзелі ў карэце. Хоць дарогі за тым часам былі нікудышныя, шэсцьдзесят чатыры мілі да Манпелье яны адолелі ўсяго за два дні, бо маркіз, хоць і ў старэчым веку, не ўпускаў выпадку сваімі рукамі падсцёбнуць фурмана і коней, а як што колькі разоў ламаліся то дышаль, то рысоры, дык асабіста ангажаваўся ў рамонтах,— быў у такім захапленні ад свайго найдзіча, так прагнуў як мага хутчэй паказаць яго адукаванай публіцы. Затое Гранyю ні разу не было дазволена выйсці з карэты Ён сядзеў на козлах поруч з фурманам у сваіх лахманах, закруціўшыся з галавою ў гуньку, усю наскрозь праедзеную мокрай зямлёй і глінай. Кармілі яго пад час падарожжа сырымі карняплодамі Маркіз спадзяваўся такім чынам яшчэ на некаторы час закансерваваць у ідэальным стане атручанне земляным флюідам.

Прыехаўшы ў Манпелье, ён загадаў змясціць Грануя ў склеп свайго палаца і разаслаў запрашэнні ўсім членам Медыцынскага факультэта, Батанічнага таварыства, Сельскагаспадарчай школы, Хіміка-фізічнага аб'яднання, Масонскай ложы і іншых навуковых таварыстваў, якіх у горадзе было не менш тузіна.

І праз некалькі дзён — роўна праз тыдзень пасля таго, як ён пакінуў схованку ў гарах,— Грануй апынуўся на памосце ў актавай зале універсітэта Манпелье перад шматлікай публікай, якой ён быў паказаны як сенсацыя года

У сваім дакладзе Таяд-Эспінас схарактарызаваў яго як жывы доказ слушнасці тэорыі лятальнага зямлянога флюіду Паступова зрываючы з Грануя лахманы, маркіз тлумачыў, які жу-

дасны эфект зрабіў гніласны газ на цела дэманстранта: звярніце ўвагу на язвы і шнары ад газавай інтаксікацыі; а вось тут, на грудзях, велізарная ярка-пунсовая газавая карцынома; уся скура парэпалася; а вось і яўнае флюідальнае пакрыўленне шкілета ў выглядзе горба і зрослых пальцаў на назе. Унутраныя органы каса, печань, лёгкія, жоўцевы пузыр і стрававальны тракт — цяжка заражаныя, пра што перакана ўча сведчыць аналіз пробы калу; вось яна, проба, сабраная ў тазіку на памосце побач з суб'ектам дэманстравання, і даступная на агляд кожнаму, хто пажадае. Адсюль і выснова, што параліч вітальных сілаў, прычына якога ў сямігадовым затручэнні fluidum letale Taillade, настолькі прагрэсаваў, што суб'ект — вонкавы выгляд якога, зрэшты, ужо выяўляе прыкметы звыраднеласці — мае быць азначаны як істота, скіраваная хутчэй да смерці, чым да жыцця Тым не меней дакладчык паспрабуе праз вентыляцыйную тэрапію, спалучаную з вітальнай дыетай, за восем дзён дабіцца відавочных прыкметаў поўнага ацалення Прысутных запрашаюць сабрацца тут праз тыдзень, каб пераканацца ў поспеху гэтага прагнозу і атрымаць неаспрэчны доказ правільнасці тэорыі земляного флюіду

Даклад меў шалёны поспех. Вучоная публіка падзякавала дакладчыку бурнымі воплескамі, а потым прадэфілявала міма памоста, на якім стаяў Грануй. Яго страшэнная запушчанасць, струпы і сляды пераломаў рабілі жахлівае ўражанне, аж усе палічылі, што ён жыўцом напалавіну згніў і асуджаны, хоць ён і адчуваў сябе зусім здаровым і дужым. Некаторыя вучоныя мужы з веданнем справы выстуквалі яго, вымяралі, заглядвалі яму ў рот, адцягвалі і выварочвалі павекі Іншыя загаворвалі з ім, цікавіліся жыццём у пячоры і цяперашнім пачуваннем Ён строга трымаўся маркізавай інструкцыі і адказваў на пытанні толькі здушаным хрыпам і абедзвюма рукамі паказваў на горла — вось як, бачыце, глыбока захапіў ягоную гартань fluidum letale Taillade.

Калі паказ закончыўся, Таяд-Эспінас зноў упакаваў яго і адправіў дамоў, у камору свайго палаца Там ён у прысутнасці некалькіх выбраных дактароў медыцынскага факультэта змясціў яго ў апарат вентыляцыі вітальным паветрам — інакш кажучы, у кладоўку з шчыльна прыгабляваных сасновых дошак. Праз высокую трубу на даху кладоўка праветрывалася ачышчаным ад лятальнага газу паветрам, а адпрацаванае паветра выдалялі праз скураны вентыль у падлозе. Уся гэтая спаруда прыводзілася ў дзеянне камандай слуг, якія ўдзень і ўначы клапаціліся, каб вентылятары ў трубе няспынна працавалі Такім чынам Грануй увесь час абвейваўся ачышчальным паветраным патокам, а праз выразаныя ў сцяне дзверы для прапускання паветра яму кожнае гадзіны падавалі што-небудзь з аддаленых ад зямлі прадуктаў· галубіны булён, паштэт з жаўрукоў, рагу з дзікіх качак, варэнне з фруктаў, якія раслі на дрэвах, хлеб з адмысловых высокіх пшаніц, пірэнейскае віно, малако горнай сарны і крэм з узбітых яек курэй, якіх трымалі на гарышчы палаца.

Пяць дзён доўжыўся гэты лячэбны курс дэзінфекцыі і рэвіталізацыі Пасля гэтага маркіз загадаў спыніць вентылятары і перавёў Грануя ў ванны пакой, дзе яго некалькі гадзін вымочвалі ў ваннах з цёплай дажджавой вадой і нарэшце вымылі з галавы да ног мылам з дамешкам арэхавага алею, дастаўленага з горада Патосі ў Андах. Яму абстрыглі пазногці на руках і нагах, тонкім парашком з даламітавай вапны вышаравалі зубы, пагалілі, пастрыглі і прычасалі, а валасы завілі і падпудрылі Запрасілі краўца, шаўца, і Грануй атрымаў мераную кашулю з белым жабо і белым рушам на манжэтах, шаўковыя панчохі, камзолу, панталоны і блакітную аксамітную жылетку, і прыгожыя туфлі з спражкай з чорнай скуры, з якіх правы ўдала маскіраваў яго пакалечаную нагу Маркіз сваімі рукамі прыпудрыў белым талькам рабы твар Грануя, крануў кармінам губы і шчокі і надаў бровам з дапамогаю мяккага вугальнага алоўка сапраўды высакародны разлёт Потым ён папырскаў яго сваімі асабістымі духамі з праставатым пахам фіялак, адступіў на некалькі крокаў і доўга не мог знайсці слоў, каб выказаць сваю радасць.

—Мсье,— пачаў ён нарэшце,— я ў захапленні ад самога сябе Я ўражаны сваёй геніяльнасцю Зразумела, я ніколі не сумняваўся ў правільнасці маёй флюіднай тэорыі, аніякім чынам; але тая акалічнасць, што яна знаходзіць такое бліскучае пацвярджэнне ў практычнай тэрапіі, уражвае мяне. Вы былі жывёлаю, а я зрабіў з вас чалавека. Гэта проста-такі боская дзея Дазвольце ж мне замілавацца!— Падыдзіце вунь да таго люстра і зірніце на сябе! Вы першы раз у жыцці даведаецеся, што вы чалавек; не тое, каб адмысловы, або выключны, або нечым выбітны, але ўсё ж нармальны чалавек. Ды падыдзіце ж да люстра, мсье! Зірніце на сябе і падзівуйцеся з цуду, які я з вамі ўчыніў!





Першы раз у жыцці Граную сказалі «мсье» Ён падышоў да люстра і ўгледзеўся. Дагэтуль ён ніколі не глядзеўся ў люстра. Ён убачыў пана ў далікатным блакітным адзенні, у белай кашулі і шаўковых панчохах і інстынктыўна сагнуўся ў тры пагібелі, як заўсёды згінаўся перад такімі разубранымі панамі. Але разубраны пан зрабіў тое самае, і потым абодва застылі, разглядваючы адзін аднаго.

Больш за ўсё Грануя ўразіў той факт, што ён выглядаў так неверагодна нармальна. Маркіз меў рацыю: не было нічога асаблівага — не прыгожы з сябе, але і не надта выродлівы, нізкаваты ростам, крыху скасабочаны, твар невыразны, карацей, ён выглядаў як тысячы іншых людзей. Калі ён цяпер пойдзе па вуліцы, ніводзін чалавек не абернецца яму ўслед. Ён і сам не звярнуў бы ўвагі на такога, які ён быў цяпер, калі б той сустрэўся яму на дарозе. Хіба што ў тым выпадку, калі б учуў, што гэты сустрэчны нічым акрамя фіялак не пахне, як пан у люстры і ён сам, перад люстрам.

А ўсяго дзесяць дзён таму сяляне з лямантам разбягаліся хто куды, убачыўшы яго Тады ён адчуваў сябе так, як і цяпер, а цяпер, заплюшчыўшы вочы, ён адчуваў сябе так, як тады Ён увабраў паветра, якое ахінала яго цела, і пачуў пах дрэнных духоў, і аксаміту, і новай скуры туфляў; ён унюхаў шоўк, пудру, расцертую шмінку, слабенькі пах мыла з Патосі І раптам ён зразумеў, што не галубіны булён, не штука з вентыляцыяй зрабілі з яго нармальнага чалавека, а толькі гэтыя модныя анучы, прычоска і невялікія касметычныя прыхопкі.

Заморгаўшы, ён расплюшчыў вочы і ўбачыў, што панок у люстры падміргнуў яму і цень усмешкі крануўся яго падфарбаваных кармінам вуснаў, быццам ён хацеў падаць яму знак, што лічыць яго не надта агідным. І Грануй таксама палічыў, што панок у люстры, гэтая адзетая як чалавек, замаскаваная, без паху постаць таксама яму даволі сімпатычная, прынамсі, яму здалося, што, калі толькі давесці маску да дасканаласці, яна магла б зрабіць такое ўздзеянне на вонкавы свет, на якое ён, Грануй, ніколі не адважыўся б. Ён кіўнуў панку і ўбачыў, што, адказваючы яму кіўком, той надзімае ноздры .

## 31

На другі дзень — маркіз якраз вучыў яго самым патрэбным позам, жэстам, танцавальным па — Грануй удаў прыпадак галавы і, нібыта зусім знясілеў ад прыступу, упаў на сафу

Маркіз быў сам не свой. Ён накрычаў на слуг, каб тут жа прынеслі апахалы і пераносныя вентылятары, і як толькі слугі кінуліся выконваць загад, маркіз стаў на калені каля Грануя і пачаў абмахваць яго сваёй насоўкай, якая раскошна пахла фіялкамі, і заклінаць, благаць яго зноў падняцца, не выпускаць дух вось так адразу, а, калі можна, пацярпець да паслязаўтрага, інакш будучыня флюідальнай тэорыі будзе пад сур'ёзнай пагрозай.

Грануй курчыўся і віўся, кашляў, перхаў, крактаў, аберуч адмахваўся ад насоўкі і, нарэшце даволі драматычна скаціўся з сафы і зашыўся ў самы далёкі куток пакоя

—Не гэтыя духі! — закрычаў ён, як бы з апошняй сілы.— Толькі не гэтыя! Яны даканаюць мяне!

І толькі калі Таяд-Эспінас выкінуў у акно не толькі насоўку, але і камзол, які гэтаксама пахнуў фіялкамі, Грануй даў свайму прыпадку паслабець і ўжо спакайнейшым голасам расказаў, што ён як парфумнік мае ўласцівы людзям яго прафесіі адчувальны нюх і заўсёды, асабліва калі папраўляецца, даволі востра рэагуе на пэўныя пахі Тое, што менавіта пах фіялкі, увогуле прыемнай кветкі, яму такі нясцерпны, ён можа растлумачыць тым, што ў духах маркіза высокі працэнт фіялкавага кораня, а той з прычыны свайго падземнага паходжання робіць шкоднае ўздзеянне на такую падупалую смяротнаму флюіду асобу, як ён, Грануй Яшчэ ўчора, калі яго першы раз апырскалі духамі, ён адчуў сябе адурманеным, а сёння, пачуўшы пах кораня другі раз, ён адчуў сябе так, быццам яго сапхнулі назад, у жахлівую душную земляную яму, дзе ён быў сем гадоў Мабыць, ягоная прырода ўсупрацівілася гвалту, ён не ўмее гэтага выказаць неяк інакш, бо пасля таго, як майстэрства маркіза падарыла яму жыццё ў ачышчаным ад флюіду паветры, ён лепей памрэ на месцы, чым яшчэ раз паддасца ненавіснаму флюіду. Яшчэ і цяпер у яго ўсярэдзіне ўсё сцепваецца, як толькі згадае пах кораня Аднак ён упэўнены, што сіла адразу вернецца да яго, калі маркіз, каб ужо зусім прагнаць пах фіялкі, дазволіць яму зрабіць свае духі. Яму ўяўляецца вельмі лёгкі паветраны пах з аддале-

ных ад зямлі інгрэдыентаў — міндальнай і апельсінавай вады, эўкаліпта, алею з сасновай іглiцы і кіпарысавага алею. Усяго некалькі пырскаў на вопратку, усяго некалькі кропель на шыю і шчокі — і ён назаўсёды будзе застрахаваны ад паўторнага прыпадку, ад якога толькі што адышоў...

Тое, што мы дзеля зручнага чытання перадалі ўскоснай мовай, было на самай справе паўгадзінным мармытаннем, якое перабівалася хрыпамі, усхліпамі і прыступамі задухі, здрыгамі, маханнем рук і красамоўным закочваннем вачэй. Маркіз быў глыбока ўражаны, ашаломлены Яшчэ больш за сімптомы пакуты яго пераканала тонкая аргументацыя Вядома ж, гэта фіялкавыя духі! Гідотна блізкі да зямлі, нават падземны прадукт! Відаць, і сам ён, карыстаючыся ім шмат гадоў, ужо заразіўся Ён і не думаў, што гэты пах з кожным днём набліжаў яго да смерці І падагра, і аняменне ў патыліцы, і вяласць таго самага, і гемарой, і шум у вушах, і трухлявы зуб — несумненна вынік затручвання смярдзючым фіялкавым коранем. А гэтае дурное, гэтае ўбоства ў кутку пакоя адкрывае яму ісціну. Маркіз расчуліўся. Яму захацелася падысці, падняць яго, прыцiснуць да свайго прасветленага сэрца. Але ён баяўся, што ўсё яшчэ пахне фіялкамі, а таму яшчэ раз клікнуў слуг і загадаў прыбраць з дому ўсе фіялкавыя парфумы, праветрыць палац, прадэзінфекаваць сваю вопратку ў апараце вітальнага паветра і ў насілках даставіць Грануя да найлепшага парфумніка горада. Менавіта гэтага дамагаўся Грануй, разыгрываючы прыпадак.

Выраб духмянасцяў у Манпелье быў даўняй традыцыяй, і хоць за апошні час у пароўнанні з горадам-канкурэнтам Грасам пэўным чынам падзаняпаў, усё-такі ў горадзе жыло некалькі неблагіх майстроў — парфумнікаў і пальчатнікаў Самы шанаваны з іх, нейкі Рунэль, узяўшы пад увагу дзелавыя сувязі з сямействам маркіза дэ ля Таяд-Эспінаса, якому ён пастаўляў мыла, прыцыркі і пахошчы, згадзіўся на незвычайны крок — саступіць на нейкі час сваю майстэрню дастаўленаму ў насілках дзіўнаму парыжскаму чаляднiку Гэты ж не выслухаў ніякіх тлумачэнняў, не схацеў нават даведацца, дзе што стаіць, сказаў, што сам разбярэцца і скеміць, што да чаго; і замкнуўся ў майстэрні, і правёў там цэлую гадзіну, а тым часам Рунэль з аконамам маркіза выправіўся ў кабак, дзе пасля некалькіх шклянак віна мусіў даведацца, чаму яго фіялкавая вада не мае права быць парфумай.

Майстэрня і крамка Рунэля былі абсталяваныя зусім не так раскошна, як свайго часу магазін пахучых тавараў Бальдзіні ў Парыжы Некалькі гатункаў кветкавых алейцаў, вады і духмянасцяў не давалі разгону фантазіі ў звычайнага парфумніка. Аднак Грануй, раз дыхнуўшы, зразумеў, што матэрыялу тут на яговыя мэты хапае. Ён не мерыўся ствараць няма ладу якую раздухмянiстасць; не хацеў ён мяшаць, як свае пары ў Бальдзіні, і прэстыжных духоў, якія выбіваліся б з процьмы пасрэдных і за якімі людзі прападалі б. І нават просценькі пашок апельсінавага дрэва, абяцаны маркізу, не быў яго мэтай Шырокаспажыўныя эсэнцыі эўкаліпту і кіпарысавага алею павінны былі толькі замаскаваць сапраўдны пах, які ён вырашыў прыгатаваць,— а гэтым пахам меў быць чалавечы пах. Ён хацеў прысвоіць, хай нават на пачатку як дрэнны сурагат, чалавечы пах, якога ён сам не меў. Вядома, паху чалавека, чалавека наогул не бывае, як не бывае чалавечага твару наогул. Кожны чалавек пахне адмыслова, ніхто не разумеў гэтага лепш за Грануя, які ведаў тысячы пахаў індывідуальных і, як нарадзіўся, адрозніваў людзей на нюх. І ўсё-такі, з пазіцый парфюмеры, была нейкая асноўная тэма чалавечага паху, зрэшты, даволі простая: потліва-сальная, сырна-кіславатая, увогуле даволі агідная лейттэма, уласцівая ўсім людзям, а ўжо над ёю ў больш тонкай градацыі калышуцца воблакі індывідуальнай аўры.

Аднак гэтая аўра, вельмі складаны, непаўторны шыфр асабістага паху, для большасці людзей абсалютна няўлоўная. Большасць людзей нават не ведае, што мае яе, а акрамя таго, усяляк стараецца схаваць яе пад вопраткай ці пад моднымі штучнымі пахамі. Ім добра вядомы толькі той — асноўны — пах, тое — першаснае і прымітыўнае — чалавечае выпарэнне, толькі ў ім яны жывуць і чуюць сябе спакойна, і кожны, хто выпарвае з сябе гэты агідны агульны смурод, успрымаецца імі як ім падобны

У гэты дзень Грануй стварыў дзіўную парфуму Больш дзіўных датуль на зямлі не было. Ён прысвоіў сабе не проста пах, а пах чалавека, які пахне. Пачуўшы гэты пах у цёмным пакоі, кожны падумаў бы, што там стаіць другі чалавек. А калі б імі папырскаўся чалавек, які сам пахне чалавекам, дык ён здаўся б нам двума людзьмі ці, яшчэ горш, пачварнай двайной істотай, як вобраз, які нельга было адназначна фіксаваць, бо яго абрысы невыразныя і распаўзаюцца, як малюнак на дне возера, карабачаны зверху на вадзе.





На імітацыю гэтага чалавечага паху — хай недасканалую, прыблізную, але, як ён лічыў, дастатковую, каб ашукаць іншых,— Грануй падабраў самыя непрыкметныя інгрэдыенты ў майстэрні Рунэля.

Шчэпцю кашэчага калу, яшчэ даволі свежага, ён знайшоў за парогам дзвярэй у двор. Ён узяў яго паўлыжачкі і паклаў у змешвальнік з некалькімі кроплямі воцату і тоўчанай солі Пад сталом ён знайшоў скрылік сыру з пазногаць вялікага пальца, ад нейкага Рунэлевага банкету. Сыр быў стары, надцвіў ужо і пахнуў пранозліва-востра. З вечка ад бочкі з-пад сардзінаў, якая стаяла ў канцы лаўкі, ён сашкроб нешта, што пахла рыбнымі кішкамі, перамяшаў гэта з тухлым яйцом і рыцынай, тарпантынай, мускатам, паленым рогам і падгарэлай скваркай. Да гэтага дадаў досыць многа цыбетыну, развёў гэтыя пачварныя прыправы спіртам, настояў і прафільтраваў у другую бутэльку. Пах сумесі быў пачварны. Яна пахла клаакай, распадам, цвіллю, а калі павевам веера дамешваў да гэтага выпару чыстае паветра, узнікала ўражанне, што вы стаіце ў гарачы летні дзень у Парыжы на скрыжаванні вуліц О'Фэр і Ленжэры, дзе зліваюцца пахі рыбных радоў, Магільніка нявінных і перапоўненых дамоў.

На гэтую жахлівую аснову, якая сама па сабе смярдзела больш трупам, чым чалавекам, Грануй наклаў усяго адзін мазок водару эфірных алеяў; перцу, лаванды, тарпантыну, лімону, эўкаліпту, а іх змякчыў і адначасова прыкрыў букетам кветкавых алеяў муштаку, ружы, апельсінавага цвету і язміну Пасля паўторнага разбаўлення спіртам і невялікай колькасцю воцату гідотны падмурак, на якім трымалася ўся сумесь, стаў зусім няўлоўны на нюх. Свежыя інгрэдыенты зрабілі непрыкметнай мярзотную сутнасць, нават амаль дадалі ёй цікавасці і, як яно ні дзіўна, нельга было болей улавіць паху гнілізны і распаду, ён ані не адчуваўся. Наадварот, здавалася, што гэтыя духі крынічаць энергічным, п'янкім водарам жыцця

Грануй наліў іх у два флаконы, шчыльна закаркаваў і схаваў у кішэнях. Потым старанна вымыў вадой змешвальнікі, ступкі, лейкі і лыжкі, працёр іх алеем з горкага міндалю, каб знішчыць усе сляды пахаў, і ўзяў другі змешвальнік. У ім ён хуценька скампанаваў другія духі, нешта накшталт копіі першых, якія таксама складаліся з эфірных алеяў і кветкавых элементаў, але ў аснове не было чарадзейскага варыва, а толькі звычайны мускус, амбра, крыху цыбетыну і кіпарысавага алею. Увогуле яны пахлі зусім інакш, чым першыя,— не так загадкава, больш бездакорна, менш агрэсіўна,— бо ім не хапала элементаў, якія імітуюць чалавечы пах. Але калі імі карыстаўся звычайны чалавек і яны змешваліся з яговым пахам, дык іх нельга было адрозніць ад тых, якія Грануй зрабіў спецыяльна сабе.

Напоўніўшы флакон другімі духамі, ён раздзеўся дагала і папырскаў вопратку тымі, першымі. Потым папырскаў падпахамі, паміж пальцамі на нагах, у паху і за вушамі, надушыў шыю і валасы, адзеўся і пакінуў майстэрню.

## 32

На вуліцы ён раптам спалохаўся, бо ведаў, што ўпершыню ў сваім жыцці ад яго ідзе чалавечы пах. Сам жа ён лічыў, што смярдзіць, агідна смярдзіць. І ён не мог сабе ўявіць, што іншыя людзі зусім не прымаюць яговага паху за смурод, і не адважыўся зайсці ў піўнушку, дзе яго чакалі Рунэль і маркізаў мажардом. Яму здавалася менш рызыкоўным выпрабаваць новую аўру ананімна.

Па самых вузкіх і цёмных вуліцах ён пракраўся да ракі, дзе дубільшчыкі і фарбавальшчыкі трымалі майстэрні і дзе яны займаліся сваім смярдзючым рамяством. Сустракаючы каго-небудзь або мінаючы дзверы дома, дзе гулялі дзеці або сядзелі старыя жанчыны, ён прымушаў сябе запавольваецца і несці свой пах вакол сябе, як вялікае густое воблака.

Змалку ён прывык, што людзі, праходзячы міма, зусім не зважаюць на яго, не з пагарды — як ён калісьці думаў,— а таму, што зусім не заўважалі яго існавання Вакол яго не было прасторы, ён не ствараў, як іншыя, хвалявання атмасферы, не адкідваў, так сказаць, ценю на людзей. Толькі калі нос у нос сутыкаўся з кім-небудзь, у натоўпе ці раптоўна на рагу вуліцы, тады ўзнікаў кароткі момант успрымання, і звычайна сустрэчны з жахам цураўся, некалькі секунд глядзеў на яго, Грануя, так, быццам бачыў істоту, якая, хоць несумненна і была тут, але нейкім дзіўным чынам і не была,— а потым шпарка ішоў далей і імгненна забываўся пра яго.

Але цяпер у завулках Манпелье Грануй зноў адчуваў і бачыў — і гэтым разам, калі ён зноў гэта ўбачыў, яго пранізала вострае пачуццё гонару,— што ён рабіў уражанне на людзей. Ідучы міма нейкай жанчыны, якая схілілася над зрубам калодзежа, ён заўважыў, як яна імгненна падняла галаву, зірнула на яго і потым, супакоіўшыся, зноў занялася сваім вядром. Нейкі мужчына, які стаяў спінай да яго, абярнуўся і даволі доўга з цікавасцю глядзеў яму ўслед. Дзеці, якіх ён сустракаў, давалі яму дарогі — не з боязі, а з ветлівасці, і нават калі яны выбягалі з дамоў і знячэўку натыкаліся на яго, яны не палохаліся, а проста прашмыгвалі міма, быццам стараліся не зачапіць ягоную асобу.

Дзякуючым некалькім такім сустрэчам ён дакладей адчуў сілу сваёй новай аўры і стаў больш пэўны ў сябе і нахабнейшы Ён хутчэй падыходзіў да людзей, стараўся прайсці як мага бліжэй да іх, нават крыху памахваў левай рукой і як бы ненарочна дакранаўся да рукі прахожага. Адзін раз ён быццам ненаўмысна штурхнуў мужчыну, якога хацеў абагнаць. Ён затрымаўся, перапрасіў, і чалавек, які яшчэ ўчора пры раптоўным з'яўленні Гранyя спыніўся б як ад удару грому, зрабіў выгляд, што нічога не адбылося, прыняў прабачэнні, нават злёгку ўсміхнуўся і хлопнуў Грануя па плячы

Ён выйшаў з завулкаў на плошчу перад саборам св. Пятра. Званілі званы. Абапал партала тлуміліся людзі Толькі што закончылася вянчанне. Усе хацелі пабачыць маладую. Грануй пабег туды і ўбіўся ў натоўп Ён штурхаўся, увінчваўся ў чалавечую масу, у самую гушчыню людзей, хай яны стаяць вакол яго шчыльна, хай прапахнуць ім. Ён распіхваў рукамі, шырэй расстаўляў ногі, і падраў каўнер, каб пах мог свабодна сцякаць з ягонага цела . І радасць яго не мела межаў, калі ён заўважыў, што людзі нічога не заўважылі, зусім нічога, што ўсе гэтыя мужчыны, і жанчыны, і дзеці вакол яго, так лёгка даліся на падман і ўдыхалі ягоны смурод, зварганены з кашэчага калу, сыру і воцату, як пах да сябе падобнага, а яго, Грануя, падкідзеня і ўблюдка, прымалі як раўню сабе.

Каля сваіх каленяў ён адчуў дзіця, маленькую дзяўчынку, заклінёную паміж дарослымі Ён падняў яе, па-ханжаску строячы клопат, і ўзяў на рукі, каб ёй было лепей відаць. Маці не толькі стрывала гэта, але яшчэ і падзякавала яму, а малая радасна заверашчала.

Так Грануй, у экстазе фальшывай святасці прыціскаючы да грудзей чужое дзіця, прастаяў у натоўпе прыкладна чвэрць гадзіны. І пакуль вясельны поезд пад гром званоў і крыкі людзей рухаўся міма, а пад ім звінеў дождж манет, у Грануі бушавала іншая радасць, зласлівае пачуццё трыумфу, якое выклікала дрыжыкі і дурманіла яго як прыступ пажады, і ён ледзьве стрымліваўся, каб не выплюхнуць яго як атруту і жоўць на ўсіх гэтых людзей і не закрычаць, пераможна, ім у твар: што ён іх не баіцца, нават амаль не ненавідзіць, а што ён зацята грэбуе імі за іх смярдзючую дурноту, бо яны дазволілі яму ашукаць і абдурыць сябе; бо яны — нішто, а ён — усё! І нібы здзекуючыся, ён мацней прыціснуў да сябе дзіця, набраў у грудзі паветра і разам з хорам астатніх закрычаў· «Слава маладой! Хай жыве маладая! Хай жыве маладая пара!»

Калі вясельны поезд аддаліўся і натоўп пачаў рассейвацца, ён адаў дзіця маці і пайшоў у царкву, каб адпачыць ад узбуджанасці Паветра ў саборы было насычана ладанам, які халоднымі клубамі падымаўся з дзвюх кадзільніц абапал алтара і як душная коўдра слаўся пад больш слабымі пахамі людзей, якія толькі што сядзелі тут. Грануй прысеў на ўслончык пад хорамі

Раптам на яго наплыла вялікая заміранасць. Не тая п'янючая заміранасць, якую ён адчуваў тады, у чэраве гары падчас сваіх самотніцкіх оргій, а вельмі халодная і цвярозая задаволенасць, якую спараджае ўсведамленне сваёй моцы. Цяпер ён ведаў, на што здольны З дапамогаю самых мізэрных сродкаў ён, дзякуючы свайму генію, імітаваў пах чалавека і адразу дабіўся такога дакладнага пацэлу, што нават дзіця далося на падман. Цяпер ён ведаў, што здольны і на большае. Ведаў, што можа палепшыць гэты пах. Ён мог бы стварыць не толькі чалавечы, а звышчалавечы пах, анёльскі водар, такі неапісальна прыгожы і жыўнасны, што, пачуўшы яго, кожны будзе зачараваны і мусіць усім сэрцам палюбіць яго, Грануя, носьбіта гэтага водару Так і будзе, ён прымусіць іх палюбіць яго. У сферы ўздзеяння ягонага водару, яны будуць вымушаны не толькі прыняць яго як сабе падобнага, а палюбіць яго без памяці, да самазабыцця, ён прымусіць іх дрыжаць ад захаплення, крычаць, плакаць ад шчасця, ледзьве пачуўшы яго, Грануя, яны будуць кленчыць, як пад халодным ладанам Бога! Ён хацеў стаць усёмагутным божышчам паху, якім ён быў у сваіх фантазіях, а цяпер — у рэальным свеце і над рэальнымі людзьмі І ён ведаў, што на гэта меў уладу Бо людзі могуць засланіць вочы і не бачыць веліч, жудасці, прыгажосці, і заткнуць вушы, і не чуць людзей або слоў Але яны не могуць не паддацца водару. Бо водар — брат дыхання З водарам ён увойдзе ў людзей, і яны не здолеюць ад яго абараніцца, калі захочуць жыць. А водар пранікае ў самую глыбіню, проста ў сэрца, і там выносіць катэгарычны вырак пра сімпатыю і пагарду, пра агіду і прывабу, пра любоў і нянавісць. Хто валодае пахам, той валодае сэрцамі людзей.





Спакойна сядзеў Грануй на ўслончыку і ўсміхаўся. Прымаючы рашэнне ўпакорыць людзей, ён не адчуваў эйфарыі пад'ёму У ягоных вачах не было шалёнага агню, вар'яцкая грымаса не перакошвала ягонага твару Ён не шалеў Яму было ўсё ясна, і ён нават весела пытаўся ў сябе: а навошта яму ўсё гэта, дзеля чаго? І ён сказаў сабе, што хоча гэтага, бо наскрозь прасякнуты злом І пры гэтым ён усміхаўся і быў вельмі задаволены. І выглядаў, бадай што, невінавата, як шчаслівы чалавек, як такі, ведаеце, блазнюк.

Нейкі час ён сядзеў у задуменным спакоі і глыбокімі зацяжкамі ўдыхаў прапахлае ладанам паветра. І зноў самазадаволеная ўхмылка прабегла па ягоным твары. Які ўсё-такі жалю варты пах у гэтага Бога! Які смяхотна гідкі пах ад яго! Тое, што клубілася ў кадзільніцах, — нават і не сапраўдны ладан Гэта падробка, гэта благенькі сурагат, з дамешкам ліпавага вугалю, і карынкі, і яшчэ нават салетры. Бог смярдзеў Бог тут быў маленькі нікчэмны смярдзюх. Яго ашуквалі, гэтага Бога, гэтыя людзі, альбо сам ён быў ашуканец, як і Грануй, толькі шмат горшы!

## 33

Маркіз дэ ля Таяд-Эспінас быў у дзікім захапленні ад новай парфумы. Проста дзіва, сказаў ён, нават яму, адкрывальніку лятальнага флюіду,назіраць дзівоснае уздзеянне такой другараднай і лятучай субстанцыі, як духі, на агульны стан індывіда: усё залежыць ад таго, наколькі звязаныя з зямлёй ці аддаленыя ад зямлі інгрэдыенты гэтай субстанцыі Грануй, які толькі некалькі гадзін таму назад ляжаў тут бледны, амаль самлелы, цяпер такі свежы і расквітнелы, як любы здаровы чалавек ягонага ўзросту; можна нават сказаць, што ён — пры ўсіх заганах і пахібах, уласцівых людзям яго грамадскага стану, — амаль набыў нешта накшталт асабістай індывідуальнасці У кожным разе ён, Таяд-Эспінас, у раздзеле пра вітальную дыетыку свайго рыхтаванага да друку трактата «Да пытання пра тэорыю лятальнага флюіду» абавязкова апіша гэты выпадак. А дзеля пачатку ён сам выкарыстае новыя духі.

Грануй даў яму абодва флаконы са звычайнай кветкавай парфумай, і маркіз папырскаўся Ён быў задаволены эфектам. Яму здаецца, прызнаўся ён, што жахлівы фіялкавы пах гадамі ціснуў на яго свінцовым цяжарам, а цяпер у яго выраслі крылы-пялёсткі, і адпусціла калена, перастала балець, шумець у вушах перастала, і наогул ён чуе сябе акрыленым, бадзёрым і памаладзелым на некалькі гадоў. Ён падышоў да Грануя, абняў яго і назваў сваім «флюідальным братам», дадаўшы, што пры гэтым мае на ўвазе зусім не сацыяльны, а чыста абстрактны зварот in conspectu universalitatis fluidi letalis, перад якім — і толькі перад ім! — усе людзі роўныя, апроч таго ён плануе — а гэта ён казаў, адраваўшыся ад Грануя, даволі па-сяброўску, без следу агіды, амаль як да роўнага — у бліжэйшы час заснаваць звышсаслоўную ложу з мэтаю поўнага ўхілення fluidum letale, і ён ужо цяпер абяцае Грануюю, што той будзе першым прэзідэнтам гэтай ложы Потым ён загадаў запісаць рэцэптуру кветкавай парфумы, схаваў цэтлік у кішэню і падарыў Грануюю пяцьдзесят луідораў

Роўна праз тыдзень пасля першага даклада маркіз дэ ля Таяд-Эспінас другі раз явіў свайго пацыента ў актавай зале універсітэта. Наплыў публікі быў неверагодны Сабраўся ўвесь цвет грамадства не толькі навуковага, але найперш і свецкага, у тым ліку багата дам, якія хацелі пабачыць легендарнага пячорнага чалавека. І хоць апаненты Таяд-Эспінаса, у асноўным прадстаўнікі «Сяброўскага кола універсітэцкіх батанічных садоў» і члены «Аб'яднання дзеля спрыяння агрыкультуры», змабілізавалі ўсіх сваіх прыхільнікаў, мерапрыемства мела фенаменальны поспех Каб нагадаць публіцы пра стан Грануя тыднёвай даўнасці, Таяд-Эспінас спачатку перадаў у залу малюнкі, на якіх пячорны чалавек быў паказаны ва ўсёй мярзотнай запушчанасці. Потым ён загадаў увесці новага Грануя — у прыгожым каптане з сіняга аксаміту і шаўковай кашулі, нарумяненага, напудранага і прычасанага; і ўжо адно тое, як ён ішоў, трымаючыся проста, дробнымі крокамі, далікатна павільваючы клубамі, як ён без нічыёй дапамогі падняўся на памост, нізка пакланіўся, з усмешкаю паківаў

галавой туды-сюды, прымусіла сціхнуць усіх скептыкаў і крытыкаў Нават сябры універсітэцкіх батанічных садоў прыгнечана маўчалі. Надта ж бо красамоўная была перамена, надта ўражлівы цуд, які тут яўна адбыўся. калі тыдзень назад яны бачылі перад сабою зацкаваную, здзічэлую жывёліну рачком, дык цяпер на тым самым месцы стаяў сапраўдны цывілізаваны, добра складзены чалавек. У зале запанаваў амаль багавейны настрой, і калі Таяд-Эспінас падняўся на кафедру з дакладам, залегла поўная цішыня. Ён зноў выклаў сваю даволі ўжо вядомую тэорыю лятальнага земляного флюіду, потым патлумачыў, якімі механічнымі і дыетычнымі сродкамі ён выдаліў флюід з цела дэманстраванага суб'екта і замяніў яго вітальным флюідам, і ў заключэнне заклікаў прысутных, як сяброў, так і праціўнікаў, перад абліччам такой пераканаўчай відавочнасці адмовіцца ад супраціўлення новаму вучэнню і разам з ім, Таяд-Эспінасам, паўстаць на барацьбу з дрэнным флюідам і прызнаць станоўчы вітальны флюід. Пры гэтым ён ускінуў угору рукі і падняў вочы ў неба, і многія вучоныя мужы паўтарылі гэты жэст, а жанчыны зашморгалі ў насоўкі

Грануй стаяў на памосце і не прыслухоўваўся. Ён з вялікай асалодаю назіраў за ўздзеяннем зусім іншага, куды больш рэальнага флюіду: свайго, уласнага. Улічваючы памеры актавай залы, ён надушыўся даволі моцна, і ледзь толькі падняўся на памост, аўра ягонага паху пачала выпраменьвацца ў залу Ён бачыў — сапраўды, ён бачыў нават вачыма! — як яна захапіла спярша пярэднія рады, потым пасунулася далей, да цэнтру залы, і нарэшце дайшла да задніх радоў і расцяклася па галерэі І той, каго яна захапіла — у Грануя ад радасці заскакала сэрца, — той мяняўся на вачах. У паласе яго паху людзі, самыя таго не ўсведамляючы, мянялі выраз твару, мянялі свае паводзіны, свае пачуцці. Той, хто спачатку тарапіўся на яго са стрыманым подзівам, цяпер дзівіўся замілавана, той, хто нерухома сядзеў на крэсле, крытычна моршчыў лоб, шматзначна і абазнана крывіў рот, цяпер вальней падаўся наперад, а твар яго набыў па-дзіцячы даверлівы выраз, і нават на тварах баязлівых, спалоханых, самых уразлівых — тых, якія раней не маглі глядзець на яго без жаху, а потым без скепсісу, паявіўся налёт прыязнасці, нават сімпатыі, як толькі іх захопліваў ягоны пах.

Пасля дакладу ўвесь сход падняўся з месцаў, ахоплены бурлівай радасцю. «Хай жыве вітальны флюід! Хай жыве Таяд-Эспінас! Слава — флюіднай тэорыі! Далоў артадаксальную медыцыну!» — крычаў вучоны люд Манпелье, самага значнага універсітэцкага горада на поўдні Францыі, і маркіз дэ ля Таяд-Эспінас перажыў самую вялікую гадзіну свайго жыцця.

А Грануй, які сышоў з памоста і змяшаўся з натоўпам, зразумеў, што гэтыя шалёныя авацыі, шчыра кажучы, належалі яму, яму аднаму, Жан-Батысту Грануя, хоць ніхто ў зале гэтага і не падазраваў.

## 34

Ён яшчэ некалькі тыдняў заставаўся ў Манпелье. Ён набыў некаторую вядомасць, і яго запрашалі ў салоны, распытвалі пра пячорнае жыццё і цудоўнае ацаленне маркізавым флюідам. Зноў і зноў паўтараў ён гісторыю пра разбойнікаў, якія схапілі яго, пра кош і лесвіцу І з кожным разам ён распісваў яе ўсё больш маляўніча, прыдумваў новыя падрабязнасці. Так ён зноў напрактыкаваўся размаўляць — праўда, не дужа каб добра, бо з моваю ў яго зроду не ладзілася, — але, што было яму важней, набыў звычку хлусіць. У сутнасці, ён зразумеў, што можа гаварыць людзям, як яму заўгодна. Адзін раз, даверыўшыся яму,— а людзі пранікаліся да яго даверам з першага ўдыху, якім убіралі ў сябе ягоны пах, — яны і потым верылі Потым ён набыў некаторую ўпэўненасць у свецкім этыкеце, якое ніколі раней не меў Яна праяўлялася нават фізічна. Ён як бы нават падрос. Ягоны горб, здавалася, знік. Ён трымаўся амаль проста І калі да яго звярталіся, ён больш не згінаўся ў паклоне, а стаяў, вытрымліваючы позіркі Вядома, за гэты час ён не зрабіўся ні свецкім чалавекам, ні заўсёднікам салонаў, ні суверэнным членам грамадства. Але панурая няўклюднасць сышла з яго, прыйшлі манеры, якія можна было патлумачыць як натуральную сціпласць альбо ў кожным разе прыродную нясмеласць і якія вельмі кранalі некаторых паноў і некаторых дам — у тую эпоху ў свецкіх колах мелі слабасць да «нацюрэль» і да нечагась, што называлі «неабчасаным шармам»

На пачатку сакавіка ён сабраў свае рэчы і сышоў, употай, на досвітку, ледзь толькі адчынілася брама, апрануты ў някідкі карычневы каптан, куплены напярэдадні ў старызніка, і





памяты капялюш, які напалавіну прыкрыў ягоны твар. Ніхто яго не пазнаў, ніхто яго не змеціў, бо ён наўмысна ў гэты дзень адмовіўся ад парфумы І калі маркіз каля полудня загадаў пачаць вышук, вартавыя бажыліся, што, хоць яны бачылі шмат каго, хто выходзіў з горада, але ўжо ж ніяк не таго ўсім вядомага пячорніка, які напэўна дапаў бы ім у вочы. Тады маркіз пусціў поголас, што Грануй пакінуў Манпелье з ягонай згоды, каб з'ездзіць у Парыж па сямейных справах. Аднак сам сабе ён страшэнна ўзлаваўся, бо меўся адбыць з Грануем турнэ па ўсім каралеўстве, каб навербаваць прыхільнікаў сваёй флюідальнай тэорыі.

Праз нейкі час ён супакоіўся, бо ягонае слова разышлося і без турнэ, амаль без ніякіх ягоных намогаў У «Журналь дэ саван» і нават у «Кур'ер дэ ль'Эрон» паявіліся даўжэзныя допісы пра fluidum letale Taillade, і з усіх канцоў краіны пачалі наязджаць пакутнікі, пацярпелыя ад лятальнай атруты, маючы надзею знайсці ў яго ацаленне. Улетку 1764 года ён адкрыў першую «Ложу вітальнага флюіда», якая ў Манпелье мела 12 членаў і заснавала філіі ў Марсэлі і ў Ліёне. Потым ён рашыў рушыць на Парыж, каб адтуль заваяваць сваёй тэорыяй увесь цывілізаваны свет, але яшчэ раней дзеля прапагандысцкай падтрымкі свайго паходу ўчыніць нейкі флюідальны подзвіг, які зацьміў бы гаенне пячорнага чалавека і ўсе іншыя эксперыменты, а менавіта на пачатку снежня правесці бясстрашных адэптаў на пік Канігу Пік быў на даўгаце Парыжа і лічыўся найвышэйшай вяршыняй Пірынеяў Гэты вучоны муж, які стаяў на парозе старасці, загадаў даставіць сябе на вяршыню вышынёю ў 2800 метраў і там тры тыдні быць пад уздзеяннем самага сапраўднага, самага свежага вітальнага паветра, каб, як ён сам усім абвясціў, дакладна на Каляды зноў спусціцца дужым дваццацігадовым мацаком.

Адэпты здаліся ўжо за Вернэ, апошнім чалавечым селішчам каля падножжа жахлівай гары. Але маркіза нічога не спыніла. На ледзяной сцюжы ён скінуў з сябе вопратку і, радасна, на ўсё горла лямантуючы, пачаў узыходжанне адзін. Апошні ўспамін пра яго — гэта ягоны сілуэт з экстатычна ўзнесенымі да неба рукамі, які з песняй знікае ў снежнай буры.

У ноч пад Каляды вучні марна чакалі маркіза дэ ля Таяд-Эспінаса. Ён не вярнуўся ні старцам, ні мацаком. І навесну, калі рызыканты выправіліся шукаць і залезлі на ўсё яшчэ заснежаны пік Канігу, не знайшлося ані следу, ані звання — ні шматка вопраткі, ні кавалачка цела, ні костачкі.

Зразумела, гэта не падарвала ягонага вучэння Наадварот Неўзабаве разышлася легенда, што на самым піку гары ён зліўся з вечным вітальным флюідам, распусціў сябе ў ім і з тае пары нябачны, але вечна малады лунае над вяршынямі Пірэнеяў, і той, хто туды падымецца, прычасціцца да яго і на цэлы год будзе выбаўлены ад хвароб і працэсу старэння. Аж да канца XIX стагоддзя некалькі медыцынскіх катэдраў адстойвалі флюідальную тэорыю Таяда, а шмат якія акультныя таварыствы стасавалі яе тэрапеўтычна І за нашым часам абапал Пірэнеяў, а менавіта ў Перпіньяне і Фігеросе ёсць таемныя таядаўскія ложы, якія сустракаюцца раз на год дзеля ўшэсця на пік Кунігу.

Там яны разводзяць вялікае вогнішча, нібыта з прычыны сонцавароту альбо ў гонар святому Яну, а насамрэч дзеля таго, каб адслужыць боскія ўшанаванні свайму Майстру Таяд-Эспінасу і яго вялікаму флюіду і дастацца да жыцця вечнага.

**Пераклаў з нямецкай**
**Васіль СЁМУХА.**

*Заканчэнне будзе.*

# ЯНО | Вялікаму Сталіну ад беларускага народу

*А дружба паміж народамі СССР — вялікае і сур'ёзнае завяяванне. Бо пакуль гэта дружба існуе, народы нашай краіны будуць свабодны і непераможны; ніхто не страшны нам, ні ўнутраныя, ні знешнія ворагі, пакуль гэта дружба жыве і здраўствуе. Можаце не сумнявацца ў гэтым, таварышы.*

З прамовы таварыша СТАЛІНА
на нарадзе перадавых калгаснікаў
і калгасніц Таджыкістана і
Туркменістана 4 снежня 1935 г.

## *Дарагі Іосіф Вісарыёнавіч!*

З-пад пушчаў Палесся. з-пад Нёмана, Сожа,
З-пад Пцічы, Днепра і Заходняй Дзвіны,
З-пад стыку са светам чужым і варожым
Прышлі мы, Совецкай краіны сыны.

Раскажам табе мы праўдзіва быліны
Аб тым, як жылі мы і сталі мы чым,
Як мы разагнулі прыгнутыя спіны,
Сагрэтыя чулым прыглядам тваім.

Нам новыя далі раскрыты сягоння,
Вялікія сілы сабраны табой,
І самыя мудрыя ў свеце законы
Напісаны смела тваёю рукой.

Сям'ёю народаў шчаслівага краю,
Табой узгадованых у барацьбе,





Свайго вызвалення мы дзень услаўляем
І песню пра шчасце прыносім табе.

А там, за Сулою, па той бок граніцы,
Дзе звесілі дзюбы панура арлы,
Клянуць сваю долю, свой лёс чужаніцы
У панстве фашызма, крывавай імглы.

І сёння там ходзіць галеча ў лахмоцці
Пад звон пабажэнства, пад голас маны,
І сёння там слёзы, нуда, безработце,
Ды горкія песні, ды скаргі адны.

Загнаны ў падполле там лепшыя людзі,
На «крэсах усходніх» лютуе жандар.
За вольнае слова катуюць і судзяць,
Астрогі там поўны нявінных афяр.

Сялянскія гоні адзеты ў кайданы,
У вузкія межы ўвагнаны палі.
Гаруе там брат наш, гібее пад панам,—
Жахлівасцю вее з Заходняй зямлі.

А ў нас стаў квітнеючым край беларускі,
Змяніліся людзі, аблічча зямлі —
Заместа палосак, убогіх і вузкіх,
Калгасныя нівы, як мора, ляглі.

Заместа праклёнаў і песень тужлівых,
Што поўнілі сэрца, як горкі палын,
Гучыць песня працы калгасніц шчаслівых,
Як гімн перамогі совецкіх жанчын.

Няма больш забітай нядоляй рабыні,
Заместа прыбітых балесных жанок
Стаханаўкі выраслі ў нашай краіне,
Іх ведае поле, рабочы станок.

Яны — трактарысткі, яны — брыгадзіры,
З іх многа у нашых советах старшынь.
Іх тысячы стала, адданых і шчырых,
На працы на кожнай, дзе вокам ні кінь.

А глянеш на поле, на лес, на даліны,
Паслухаеш гоман і шум гарадоў...—
Ты стала нам роднаю, наша краіна,
Як родная партыя большэвікоў!

А нашы балоты! Клялі іх калісьці.
Сягоння — наш скарб яны, спраўджаны сон.
Сягоння там жыта, з якога не выйсці,
Мурожныя травы, каноплі і лён.

А нашы дарогі! Праз немарач, нетры
На радасць людскую, як стрэлы, ляглі.
Гудуць правады над шляхамі ў паветры,
Што жыць стала добра на нашай зямлі.

Маўчаць урачыста лясы і курганы,
Хаваючы былі пад шатамі хвой.
Хадзілі калісьці сюды партызаны,
На смерць не глядзелі, кідаліся ў бой.

І многа палегла адважных герояў
У бітвах з панамі па выспах балот.
Шумяць аб іх долі кашлатыя хвоі,
Ды верас ружовы іх славіць паход.

Загоены раны, сляды ліхалецця,
Руінаў, пагромаў, пажарышч сляды.
Растуць і буйнеюць у сіле, у цвеце
Калгасы, соўгасы і гарады.

А нашы граніцы бетонам заліты,
Мы чуйна вартуем совецкі фарпост.
Няхай-жа памкнуцца фашысты-бандыты —
Касцямі палягуць яны на пагост!

У зімнюю сцюжу, у летнюю спёку
Як дні, так і ночы наш слаўны дазор
Не зводзіць з граніцы арлінага вока,
Не ўтояць шпіёна ні дзебры, ні бор.

І мірныя людзі — іх сотні імёнаў —
Вартуюць нядрэмна свае рубяжы.
А ў часе трывогі паўстануць мільёны,
І вораг не пройдзе совецкай мяжы.

Мы ўсе згуртаваны адзінаю воляй,
Адзіным пачуццем, жаданнем адным.
Не верне былога ніхто і ніколі,
У прах яно пала і знікла, як дым.

А было нядаўна, а было калісьці,
Калі мы з зямелькі не мелі карысці,—

На абед была нам лебяда з мякінай,
А далей — магіла пад сухой асінай.

На палетках — межы, між народаў — межы,
Па ўсёй Беларусі — глушыні мядзвежай —

Папалам дзялілі, пад адным прымусам,
Гора і галечу яўрэй з беларусам.

Яшчэ сёння глянеш — курганы, магілы —
Сведкі даўніх боек варожае сілы.

Біўся кароль шведскі на нашых загонах,
Біўся з рускім царам за троны, кароны.





Тут палі таптала войска Банапарта,
Тут жыццё людское ставілі на карту.

Ішоў год за годам, ішоў век за векам,
А мы пад няволяй, пад вячыстым здзекам.

Паны і жандары, ды ксяндзы з папамі
На шыях народных селі груганамі.

А яны заўсёды катаваць умелі,
Ад святой нядзелі да святой нядзелі.

Бізуны і розгі жудка секлі плечы,
І нагайка секла, і ланцуг калечыў.

Яснага прасвету ад радзін да смерці
У жыцці не зналі ні бацькі, ні дзеці.

Не раз бунтаваўся народ супроць катаў,
Паўставаў і нішчыў палацы магнатаў.

Нам-жа знішчыць катаў нехапала сілы,
Зноў паны-магнаты гналі у магілы.

Сіроты і ўдовы пралівалі слёзы
На лясы сухія, на ніцыя лозы.

Гэтак вёсны, леты, восені і зімы
Гора песні пела на зямлі радзімай.

Гора песні пела, пела — не сціхала,
Ды як-бы нядолі было людзям мала.

Грымнулі гарматы у нядобрым часе,
І дымам-пажарам зямля абвілася.

Пайшло спусташэнне, пайшло знішта жэнне,
Беларусь загразла ў крыві па калені.

Бежанцамі людзі пабрылі па свеце,
Шукаць па дарозе галаду і смерці.

І гінулі марна без хаты, без хлеба,
І думалі людзі, што гэтак і трэба.

А вакол агнішчы, а вакол атрута,
Брат страляе брата, звяр‘ё вые люта.

Бліндажы, акопы зрэзалі краіну,
Валяюцца трупы побач бацькі з сынам.

Груганы на полі падбіраюць косці,
Груган заклікае гругана у госці.

Канаюць салдаты у разні крывавай,
Паны-генералы падбіраюць славу.

Вырастае сіла гневу над сусветам —
І прышоў Кастрычнік, і прышлі Советы.

Але на Советы рынуліся зграяй,
Зноў нядоля вісне над гаротным краем.

І паны-нацдэмы з «высокае рады»
Рады, што германцы захапілі ўладу.

Пішуць лісты, пішуць нямецкаму цару:
—Заставайся, цару, у нас гаспадарыць.

Народ беларускі аддаем да скону
У раздроб і оптам пад тваю карону.

Потым Белапольшча жаўнераў нагнала,
Князі і магнаты ды графы навалай

Рынуліся ў бітву, на нашае гора,
Ваяваць за Польшчу «ад мора да мора».

Зноў загаласілі мястэчкі і сёлы,
Гарады замёрлі, жудасць, смерць вакола.

Вісельні скіголяць, грухацяць расстрэлы,
Пагром за пагромам, свет у дыме белы.

Кіеў у пажары, і Менск у пажары,
Чыняць суд-расправу польскія жандары.

Ой вы, пушчы нашы, ой ты, наша поле,
Вы яшчэ не зналі гэткай горкай долі!

Але банду белых панскіх легіёнаў
Выгнала адвага арміі Чырвонай.

Сцяг чырвоны ўзвіўся над Менскам-сталіцай,—
Годзе табе, пане, у нас весяліцца!

І ўцякала зграя паноў да Варшавы,
У нас збаляваўшы свой банкет крывавы.

І ўздыхнуў свабодна край наш яснай доляй.
Подлым акупантам не вярнуцца болей!

Цяпер прыгадаеш былую навалу,
Дык сам застаешся ўспамінам не рад:
У вёсцы маленькая кузня стаяла,
Ў мястэчку стаяў саматужны варштат.

Быў бровар у пана, была сыраварня.
На беразе рэчкі кулацкі быў млын.





Чарнелі ў лясах адзінока смалярні,
Ў слабодках гібелі майстэрні аўчын.

Былі ў нас руіны, як помнікі часу,
Бядняцкая шыя была для ярма.
Была ў нас індустрыяй — фабрыка квасу,
А фабрыкай гневу — была ў нас турма!

Прайшлі беззаконня крывавыя годы.
Мы гордыя славай сваіх перамог.
І рокатны гул новых фабрык, заводаў
Зліваецца з песнямі новых дарог.

Пад Оршай на чорных балотных прасторах
Збудован БелДРЭС і, заместа лучын,
Ён ходзіць па хатах — святло сваё дорыць,
Ён — сіла матораў, ён — сэрца машын.

Пад Гомелем высіцца гмах шклозавода,
У Гомелі вырас магутны Сельмаш —
Работа руплівая двух пяцігодак —
І ордэнам Леніна край ззяе наш.

Лясоў у нас многа, і робім мы з дрэва
Цудоўны, вясёлкавых колераў шоўк.
Здабыты працоўнымі скарб Магілева
У нашу індустрыю горда ўвайшоў.

Лясоў у нас многа, і мы збудавалі
Ў Бабруйску сусветны лясны камбінат.
Дзе курныя, бедныя хаты стаялі —
Паставіў ён тысячы сонечных хат.

Лясоў у нас многа, і стала, як звычай,
Што горад Барысаў, за якасць работ,
За скрынкі сваіх першакласных сярнічак,
Сцяг славы здабытай нясе з года ў год.

У Рэчыцы, Віцебску, Менску — усюды
Дзесяткі заводаў уведзены ў строй.
Як дзіўнаю казкай, як сталінскім цудам —
Валодаем тэхнікай перадавой.

У Крычаве горамі крэйда ляжала —
Там намі збудован цэментны завод.
А ў нетрах зямлі беларускай нямала
Яшчэ неразведаных новых парод.

Наш торф — гэта буйных багаццяў скарбніца:
І спірт, і апал, і ўгнаенне, і газ;
Наш торф — энергетыкі нашай крыніца,
І торф — матэрыял будаўніцтва ў нас.

Квартал за кварталам растуць камяніцы.
Былое правінцыі гінуць сляды.
Наш Менск стаў сапраўднай культурнай сталіцай.
Растуць у рэспубліцы ўсе гарады.

Старога мястэчка даўно не спаткаеш,
Дзе гора брыло ад варот да варот.
Мы спадчыну ўпартаю працай змяняем:
Дзе кузня чарнела — сягоння завод.

За прасніцай болей не слепяцца вочы,
Як гэта заўсёды было на вяку.
Адзеты калгаснік, адзеты рабочы,
Дзяўчатам на свята хапае шаўку.

Шавец і кравец, і ліцейшчык, і столяр,
І слесар, каваль, і друкар, і гарбар —
Іх цэх, як святліца, там сонца даволі,
Там кветкі, там болей не знаюць афяр.

Прамову тваю, правадыр наш, мы помнім
Пра ўзняты вялікі стаханаўскі рух.
Мы кожнае слова прачулі, і сёння —
Адзін вырабляе, што некалі ўдвух.

Рушко і Гунько, і Арэстаў, і Зубаў,
І Гладышаў, Мельнікава і Харнас —
І многа іх лепшых, настаўнік наш любы,
Твае гэта вучні — героі між нас.

Таварыш Вілетнікава і Слесарова,
Еўсюціна, Розенберг, Туфар, Скабло —
Паэты ім дораць гарачае слова,
Ім славаю яснае сонца ўзышло.

Стаханаўскім стала жыццё маладое,
Стаханаўцы — дочкі твае і сыны.
Растуць з комсамольскага племя героі,
Растуць з піонерскіх атрадаў яны.

Растуць нашы сілы за працаю плённай,
Не вырве ў нас вораг наш сталінскі руль.
І неба ў нас крэпасць сваёй абароны,
І ў небе ў нас ходзіць крылаты патруль.

Адважны і пільны ўзлятае высока,
Краіну сваю аглядае штодня —
І цешыцца сэрца, і цешыцца вока:
Якое раздолле, прастор, шырыня!

Разліліся ляны ў полі возерам сінім,
Ячмянямі красуюць, шумяць балаты.
Каласамі густымі наўсцяж па краіне
Узрастаюць пшаніцы, аўсы і жыты.

Спеюць поўныя соку купчастыя грэчкі,
Па садах палымнее вішнёвы пажар.





Як далёка яны — дні тугі і галечы,
Пра якія спяваў не адзін наш гусляр.

Беларускі мужык чалавекам стаў звацца,
Ён пазбыўся навечна нядолі шнуроў.
Мы за год ад зямлі маем столькі багацця,
Колькі мелі раней за дзесяткі гадоў.

Бо прышлі на палі трактары, як асілкі,
Здзірванелыя нівы плугамі падняць.
За сабою жняяркі вядуць і касілкі,
І машыны, што бульбу садзіць і капаць.

А машыны працуюць і спорна, і дбайна,
Досыць сіл над сахою паклаў чалавек.
Горда полем шырокім праходзяць камбайны,
Ручаіны зярнят паплылі у засек.

Людзі нашых калгасаў растуць з кожным годам,
Многіх ведае сёння Савецкі Саюз,
Атрымалі з іх семдзесят тры нагароду —
Ордэны за выдатную працу сваю.

Пра іх новыя склалі быліны і песні,
Наша гордасць сягоння яны і краса.
Вось Клішэвіч Васіль, брыгадзір на Палессі,
Трыццаць цэнтнераў даў нам з гектара аўса.

І нямала такіх па брыгадах і звеннях
Працавітых майстроў пладавітых зямель.
Засявае за змену таварыш Рудзеня
Адным трактарам семдзесят га канапель.

Спорна праца ідзе у калгасным парадку,
Узаралі апошняй вясной, як адзін —
Трактарыст Ахрамовіч, Пятровіч, Аладка
Па трынаццаць гектараў за дзесяць гадзін.

Сэрца наша жаданнем такім апавіта:
Працаваць, каб пазнаць усю радасць жыцця.
Так працуе таварыш Батоўкін Мікіта,
Спрактыкованы конюх з калгаса «Окцябр».

У сваёй гаспадарцы, не знаючы страты,
Ён наладзіў такі клапатлівы дагляд —
Сорак шэсць у калгасе яго конематак,
Сорак шэсць ён гадуе ад іх жарабят.

А Ражкоў? — Аб ім гоман ідзе па краіне!
За сто трыццаць гадзін, як хвіліна адна,
На трапальнай электраматорнай машыне
Даў шэсць тысяч семсот кілограм валакна.

Стаў вясёлы той кут, дзе раней галасілі,
Дзе палын з крапівой мог спакойна расці.
Толькі частку вялікай мы працы зрабілі,
Але вёскі забітай нідзе не знайсці.

Вёскі той, што была нам пакутай вякамі,
Дзе жылі заадно і святы, і вядзьмак,
У якой мы былі жабракамі, рабамі,
У якой панаваў-гаспадарыў кулак.

Адыходзіў ён з боем пад націскам нашым,
Нападаў зпадцішка, і паліў, і страляў.
Мы зламалі яго сваім ладам калгасным,
Нам навечна аддадзена наша зямля.

Мы багатыя хлебам, і мясам, і рыбай,
І па трубах да хат прыбягае вада.
Зашумелі сады каля новых сядзібаў,
Пчолы рояцца спорна па нашых садах.

Многа новых раслін мы ў рэспубліцы маем.
Цвет Мічурынскіх яблынь над краем павіс.
Вінаградныя лозы з паўднёвага краю,
А з усходняга краю прышоў кок-сагыз.

Ходзяць нашы каровы, авечкі гуртамі,
І што год усё большы прырост маладых.
Коні сытыя горача б'юць капытамі,
Першы маршал нам скажа — мы сядзем на іх.

Мы заможнымі сталі з калгаснага ладу:
Масла, сыр, каўбаса і віно сваё ёсць.
Усяго на стале, і мы шчыра так рады,
Калі хату з дарогі наведае госць.

У часы адпачынку ў запале нястрымным
Маладосць весяліцца, аж хата звініць.
Ад душы табе скажам, наш Сталін любімы,
Як добра, як весела сёння нам жыць.

Стала светлай, пісьменнаю наша краіна,
Забабонаў і прымхаў мы скінулі груз.
І не крыжык — адзнаку пакуты і кпінаў,—
А пісьмо табе піша цяпер беларус.

Сёння сотні сярэдніх, дзесяткі вышэйшых
Навучальных, даследчых у нас устаноў,
Маладосці на свеце няма шчаслівейшай,
Як у нашых шчаслівых дачок і сыноў.

У прасторныя, чыстыя, новыя школы
Яны кожную раніцу дружна ідуць,
Многа іх,— белакурых, чарнявых, вясёлых,—
Тваё светлае імя у сэрцах нясуць.

Галасы іх гучаць featurenastaйнаю мовай:
Тут яўрэі, палякі і латышы.
Тут жыве беларускае, рускае слова,
А пачуцці адзіныя ў кожнай душы.

Беларускую мову трымалі ў загоне,





Каб народ не пазбыў нематы і бяды...
З намі гэтаю мовай гаворыць сягоння
Маркс і Энгельс, і Ленін, і ты, правадыр.

Мы расцілі яе клапатліва, надзейна,
За яе правялі мы з нацдэмамі бой.
І даступнымі сталі нам Пушкін і Гейне,
Руставелі і Горкі, Бальзак і Талстой.

Гэтай мовай друкуюцца кнігі, газеты,
У мільёнах ідуць у сяло, ў гарады.
Гэтай мовай пісьменнікі нашы, паэты
Табе славу пяюць, дарагі правадыр.

Мы скарбніцы народнай культуры збіраем,
Мы багацце даўнейшых легенд беражэм,
Пра сучаснае новыя казкі складаем,
Пра жыццё наша новыя песні пяем.

У народаў рэспублікі — клубы, тэатры,
Велізарнейшы лік самадзейных гурткоў,
Кінофабрыка, паркі і здольныя кадры
Песняроў, кампазітараў і мастакоў.

Узрасло дзесяць тысяч работнікаў плённых:
Інжынеры і тэхнікі — фабрык майстры,
Трыццаць тысяч настаўнікаў, сотні вучоных,
Агрaномы, асветнікі і дактары.

На вышыні навукі, з кайданаў раскутай,
Узняліся народы краіны цяпер,—
Навуковыя маюць свае інстытуты
На чале з Акадэміяй БССР.

Мы поспехі нашы ў баях здабывалі,
Да радасці партыя нас прывяла,
Вучылі вялікія Ленін і Сталін,
А дружба народаў нам сілу дала.

Разбіць ланцугі і пазбыцца былога
Нам рускі рабочы, як брат, дапамог.
І наша краіна з братэрскай падмогай
Няспынна да новых ідзе перамог.

Яна ўпершыню расцвіла як дзяржава!
Ад шчырага сэрца удзячна табе,
Бо ты даў ёй гэта законнае права,
Бо ты ўзгадаваў і стварыў КПБ.

Тут вучні твае нам яе узрасцілі,
Тут Фрунзе змаганне за партыю вёў,
Яднаў Кагановіч у Гомелі сілы,
У Віцебску сілы згуртоўваў Ежоў.

А гэтая партыя воляй адзінай
Здзяйсняла нязменна указы твае.
І наша балотна-лясная краіна
Сягоння ў чароўнай красе паўстае.

І нашай з народамі братнімі дружбы,
Што гора былое змяла ў небыццё,
Клянемся: ніколі ніхто не парушыць,
Яна — наша сіла і наша жыццё.

Калісьці, яшчэ у падполлі глыбокім,
І Ленін, і ты гэту дружбу каваў,
Праз цемру гадоў тых празорлівым вокам
Савецкіх рэспублік саюз аглядаў.

Народы сумесна прайшлі праз віхуры,
Сумесна сустрэлі свой радасны час.
І ад Негарэлага аж да Амура
Злучыла радзіма вялікая нас.

За гэту радзіму Кацельнікаў згінуў...
Яшчэ нават стрэл над зямлёй не заціх,
З заходняй граніцы Савецкай краіны
На Ўсход ад'язджае Георгі Чэрных.

Радзіме байцы нашы шчыра адданы,
І ворагі моц іх паспелі адчуць.
Чырвонаармейцу любоў і пашану
І песню адвагі народы нясуць.

Ні пядзі нікому зямлі не дадзім мы,
Ад ворагаў кожны вяршок адстаім!
Усім нам насустрач выходзіць радзіма
З вялікім і шчодрым багаццем сваім.

Яна надзяляе нас працай і славай,
Яна — гэта мужны, адважны народ,
Яна беражэ чалавечае права
На працу, на радасць, на творчы палёт.

Агні бальшэвіцкіх ідэй, як сузор'і,
Усходзяць над светам і свет абнялі,
І свецяць нізінам, узгор'ям, прымор'ям,
Як новае сонца шчаслівай зямлі.

Ты, мудры настаўнік, між геніяў геній,
Сабраў у вянок іх, у золак адзін.
Твая Канстытуцыя — сцяг пакаленняў,
Ўзнімае народы нявольных краін.

Твая Канстытуцыя — гордасць Саветаў,
Твая Канстытуцыя — ленінскі гімн,
Як кліч комунізма — над цэлым сусветам,
Як сцяг комунізма — савецкіх краін.

Усё, аб чым марылі людзі і снілі,





Прыбітыя гнётам, пракляццем старым,
Ў Савецкім Саюзе з'яўляецца быллю,
І нашае шчасце мы свету дарым.

Твой вобраз, як покліч, устаў над зямлёю,
Заве пераможна ісці ў барацьбе.
Мы ўсе ля Крэмля нашым сэрцам з табою,
І першая думка у нас — пра цябе.

Ты сонца для нас, што зямлю асвяціла
І ласкай сагрэла палі, гарады.
Ты рэк поўнаводных імклівая сіла,
Празрыстасць крыніц — дарагі правадыр!

Праз тры рэволюцыі, бітвы, паўстанні
Ты вёў разам з Леніным нашы рады...
Ты нашых садоў і палёў красаванне,
Ты наша вясна — дарагі правадыр!

Табе — наша радасць, любоў і адданасць,
Табе — пяе славу сусветная шыр.
Вядзі нас, любімы, табой мы з'яднаны,
Ты наша жыццё — дарагі правадыр!

Ураду вялікай краіны Саветаў
І партыі, даўшай нам шчасце і мір,
За гонар, за веліч людскога расцвета
Падзяку прымі — дарагі правадыр!

Хай смутак вачэй тваіх добрых не росіць,
Ці сонейка захад, ці сонейка ўсход.
Прымі прывітанне, якое прыносіць
Табе, правадыр, беларускі народ.

*Пісьмо падпісалі 2 мільёны працоўных Савецкай Беларусі*

*Пісьмо беларускага народу вялікаму Сталіну ў вершах пераказалі паэты БССР:*

Янка Купала
Якуб Колас
Андрэй Александровіч
Пятрусь Броўка
Пятро Глебка
Ізі Харык

*11 ліпеня 1936 г.*

